ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАЕЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І ЦП САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ



№ 6 ЧЭРВЕНЬ № 6

МЕНСК БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА 1932

Хв. Сьцепанюк

# Масавую культпалітасьветную работу на службу уборцы ўраджаю і асеньняму севу

## I. Рашаючая перамога сацыялізму

Вясновая пасеўная кампанія скончана.

3-я бальшавіцкая вясна прынясла новыя перамогі будаўніцтву сацыялізму.

Савецкі саюз і яго непарыўная частка БССР ў барацьбе за бальшавіцкае правядзеньне пасеўнай кампаніі вышлі пераможцамі, дабіліся далейшага ўмацаваньня новых сацыялістычных пазыцый, якія завяршаюць канчаткавую перамогу сацыялізму.

Лепшым доказам гэтаму зьяўляюцца наступныя паказчыкі перамог.

Саўгасы і калгасы ў бягучую вясновую пасеўную кампанію засеялі 82 проценты ўсяго яравога кліну. Гэта значыць, што чатыры пятых усёй пасеўнай плошчы знаходзіцца ў саўгасах і калгасах. Значна пашырылася пасеўная плошча.

На 20 чэрвеня саўгасамі па Саюзу засеяна 1.077 тысяч га, імі пашырана плошчу на 1.574 тысячы га у той час, як у 1931 годзе саўгасамі па БССР пашырана пасеўная плошча на 65 тысяч га.

Асабліва вялікі прырост пасеўнай плошчы мы маем па калгасах. Калгасы па Саюзу засеялі 66.875 тысяч га, павялічыўшы пасеўплошчу на 8.234 тысячы га.

Па БССР пасеўны клін яравых павялічыўся на 216 тысяч га.

Вялізарную ролю, як асноўнага вагара тэхнічнага пераўзбраеньня сельска-гаспадарчай вытворчасьці і сацыялістычнага перавыхаваньня сялянства, адыгралі машынна-трактарныя станцыі. У вясновую пасеўную кампанію МТС засеялі на 15 з лішнім мільёнаў га больш, чым ў мінулым годзе, ахапіўшы 53 проценты ўсёй пасеўнай плошчы калгасаў.

Усё гэта яшчэ раз паказвае і наглядна пераконвае ў атрыманых канчатковых перамогах сацыялістычных форм—калгасаў і саўгасаў—у сельскай гаспадарцы. Калектывізацыяй па Саюзу ахоплена 61,5 проц. усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Такім чынам СССР і БССР з краіны дробнага і драбнейшага земляробства ператварыліся ў краіну самага буйнага ў сьвеце сацыялістычнага земляробства, на аснове разгортваньня саўгаснага і калгаснага будаўніцтва і шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі.

„Важнейшым вынікам сацыялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі зьяўляецца канчатковы падрыў капіталізму ў вёсцы, які прадрашае поўную ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і поўнае зьнішчэньне клясаў.

Завяршэньне пабудовы фундаманту сацыялізму ў СССР азначае, што ленінскае пытаньне „хто каго“ вырашана супроць капіталізму, на карысьць сацыялізму, поўнасьцю і беспаваротна ў горадзе і ў вёсцы“ (з рэзалюцыі XVII парт. канфэрэнцыі па дакладах т.т. Молатава і Куйбышава).

Атрыманыя перамогі на фронце пасеўнай кампаніі высоўваюць новыя, яшчэ больш складаныя і адказныя задачы.

Перад намі стаіць вялізарная задача—барацьбы за высокі ўраджай, за высокую таварнасьць саўгаснай і калгас-

най гаспадаркі. А гэту задачу вырашае праполачная і ўборачная кампанія.

Застаўшыся кароткі тэрмін да ўборкі ўраджаю патрабуе бальшавіцкага напружаньня ўсіх сіл, энэргіі, забясьпечваючы сапраўды ўдарныя тэмпы і якасьць працы ў час уборкі ўраджаю. Марудзіць з падрыхтоўкай, чакаць „гарачае пары“ расьцягваць тэрміны ўборкі нельга і злачынна. Трэба памятаць адно, што несваячасовае правядзеньне ўборкі зьніжае валавы збор ураджаю, садзейнічае вялікім стратам ураджаю і ставіць пад пагрозу асеньня-пасеўную кампанію, а таксама падрыхтоўку (апрацоўку глебы) да веснавой пасеўнай кампаніі 1933 году.

Асноўнымі задачамі ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі зьяўляюцца правільная арганізацыя працы, расстаноўка сіл, падрыхтоўка, рамонт і поўнае скарыстаньне інвэнтару, сельскагаспадарчых машын, асабліва трактарнай і конскай цяглавой сілы.

Навокал задач праполачнай, уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі неабходна мабілізіаваць усіх рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы вёскі.

Разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва ў працы вытворчых брыгад. Поўнасьцю ажыцьцёвіць шэсьць паказаньняў тав. Сталіна ўва ўсёй сельскагаспадрчай вытворчасьці.

Шырока разгарнуць масавую палітасьветную работу Давесьці да мас рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і беднякоў і серадняко-аднаасобнікаў пастановы партыі і ўраду аб збожжа і мясанарыхтоўках, законы аб сельскагаспадарчым падатку, аб савецкім калгасным гандлі, якія павінны адыграць вялізарную ролю ў барацьбе за пасьпяховае правядзеньне праполачнай, уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі.

## II. Задачы масавай культпалітасьветнай работы

Вынікі правядзеньня пасеўнай кампаніі і выкананьне шэрагу іншых гаспадарчых мерапрыемстваў з усёй яскравасьцю паказалі вялізарную палітычную ролю, якую адыгрывае масавая культпалітасьветная работа.

Культпалітасьветныя ўстановы: клюбы, дамы культуры, бібліятэкі і інш. зьяўляюцца органамі дзяржаўнай прапаганды камунізму. Праз культпалітасьветныя ўстановы партыя і савецкая ўлада арганізуюць культурную і палітычную актыўнасьць рабочых, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас навокал правядзеньня гаспадарчых мерапрыемстваў.

Перад культпалітасветнымі ўстановамі на вёсцы стаіць асноўная задача—мабілізаваць палітычную і вытворчую актыўнасьць рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас на барацьбу за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і сацыялістычнае перавыхаваньне калгасных мас. Дамы культуры, клюбы, бібліятэкі, чырвоныя куткі павінны стаць масавымі, баявымі клясавымі органамі ўсяго грамадзка-палітычнага жыцьця на вёсцы. Яны павінны весьці рашучую барацьбу з супраціўленьнем капіталістычных элемэнтаў, з выступленьнем кулака і яго агентуры, змагацца за „перадоленьне перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва“ (зрэзалюцы 17-й парт-канфэрэнцыі).

Задача палітычнага выхаваньня рабочых калгасных мас непарыўна зьвязана з задачай тэхнічнага, вытворчага іх выхаваньня, на аснове новых сацыялістычных форм арганізацыі вытворчасьці і працы, унядрэньне машыннай тэхнікі, шырокага ўжываньня хімічных сродкаў (угнаеньня глебы і г. д.).

Пералічаныя асноўныя задачы, пастаўленыя перад культпалітасьветнымі ўстановамі, патрабуюць асаблівай увагі, вялізарнай напружанай работы ня толькі органаў народнае асьветы, але

абсалютна усіх партыйных, савецкіх, прафэсыйных, камсамольскіх арганізацый, ўзмацненьня апэрацыйнага кіраўніцтва партыйных камітэтаў, ячэек.

Неабходна павесьці рашучую барацьбу з палітычнай недаацэнкай масавай культпалітасьветнай работы, з ігнараваньнем яе (работы) асабліва ў час ударных кампаній: пасеўнай, уборачнай нарыхтоўчай і інш. Шэраг нізавых савецкіх і партыйных арганізацый ў так называемую „гарачую пару" адмахіваецца ад гэтай работы, ім „некалі займацца масавай культпалітасьветнай работай".

Вынікам палітычнай недаацэнкі, прамога ігнараваньня масавай культпалітасьветнай работы зьяўляецца тое, што ў самы ударны пэрыяд правядзеньня кампаніі культасьветныя ўстановы, як арганізаваныя адзінкі, ня ўдзельнічаюць у рабоце, вельмі часта бываюць на замку.

Трэба разглядаць і ацэньваць такія адносіны да масавай культпалітасьветнай работы, як грубейшае скажэньне дырэктыў партыі і савецкай улады.

Сучасныя новыя абставіны, складанейшыя задачы патрабуюць перабудовы усёй масавай партыйнай работы. Правядзеньне настойлівай упартай масавай агітацыйнай, растлумачальнай работы, мабілізуючай рабочыя, калгасныя і бядняцка-серадняцкія масы на барацьбу за ажыцьцяўленьне задач і мерапрыемстваў партыі і ўраду.

Надзвычайна правільная і каштоўная заўвага зроблена тав. Гікало (першым сакратаром ЦК КП(б)Б на Усебеларускай канфэрэнцыі групоргаў. Гаворачы аб элемэнтах адміністраваньня тав. Гікало паказвае на тое, што „таварышы, якія скарыстоўваюць адміністраваньне, як мэтад работы, забываюць, што калі не правесьці шырокай масавай растлумачальнай работы, якая-б забясьпечыла разуменьне справы кожным калгасьнікам, кожным, аднаасобнікам-бедняком і серадняком, то нічога не атрымаецца".

Толькі так, а не інакш трэба разглядаць і падыходзіць да пытаньня масавай культпалітасьветнай работы, як магутнага сродку ў руках партыі і савецкай улады ў мэтах мабілізацыі працоўных мас за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі і пасьпяховага правядзеньня ўсіх мерапрыемстваў: уборкі ўраджаю, асеньняга севу, нарыхтовак, калгаснага гандлю і інш.

## III. Перабудаваць масавую культпалітасьветную работу, забясьпечыць абслугоўваньне ўборкі ўраджаю і асеньняга севу

Пералічаныя вышэй задачы патрабуюць карэннай перабудовы масавай культпалітасьветнай работы ўсіх зьвеньняў, устаноў і усіх арганізацый; рашучага перавароту яе (работы) тварам да вытворчасьці, падпарадкаваньня непасрэдным задачам барацьбы за прамфінплян, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, за сьвядомую працдысцыпліну, за аўладаньне агразоотэхнікай, разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Неадкладна ажыцьцёвіць пастановы аб'яднанага (сакавіцкага) пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб масавай культпалітасьветнай рабоце.

„Выкананьне задачы сацыялістычнага будаўніцтва і асабліва задач, высунутых другой пяцігодкай, патрабуе узьняцьця масавай культурнай і палітыка-асьветнай работы на значна вышэйшую ступень, карэннай перабудовы гэтай работы, перанясеньня яе у цэх, прадпрыемствы, МТС, саўгас, калгас, чыгуначнае дэпо і большага падпарадкаваньня непасрэдным задачам сацыялістычнага будаўніцтва".

Новыя абставіны, новыя сацыяльна-эканамічныя зрухі, якія заключаюцца ў тым, што мы маем на вёсцы аб'яднаньне звыш паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ў калгасы, будаўніц-

тва саўгасаў і МТС—ствараюць вялізарнейшыя магчымасьці і прад'яўляюць вялікія запатрабаваньні ў разгортваньні масавай культпалітасьветнай работы. Новыя вытворчыя адзінкі МТС, саўгас, калгас, вытворчы вучастак, трактарная калёна, брыгады патрабуюць спэцыяльнай арганізацыі шырокай сеткі культпалітасьветных ўстаноў.

Абавязак усіх арганізацый кожнай МТС, саўгасу, калгасу стварыць шырокую сетку клюбаў, чырвоных куткоў, арганізаваць масавы культактыў на кожным вытворчым вучастку, у брыгадзе.

Пры разгортваньні масавай культпалітасьветнай работы неабходна ўлічыць і поўнасьцю выходзіць з тых новых грамадзкіх адносін, дысцыпліны, якія ствараюцца ўнутры калгасу. Скарыстаць вялізарную палітычную і вытворчую актыўнасьць калгасных мас, узрастаючую іх цягу да культуры, да масавай культпалітасьветнай работы. Трэба поўнасьцю выкарыстаць новыя матар'яльныя прадпасылкі, якія ствараюцца ў саўгасах, МТС і калгасах у выглядзе культфондаў і другіх крыніц гаспадарчай і грамадзкай ініцыятывы.

Арганізаваць работу на аснове мабілізацыі і ўцягненьня ў яе шырокіх мас рабочых, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў аднаасобнікаў.

Лепшымі выпрабаванымі формамі і мэтадамі работы зьяўляецца культпаход: культэстафэта, культштурмы, грамадзкі буксір і інш. формы, праз якія мабілізуюцца і ўцягваюцца шырокія працоўныя масы ў вырашэньне задач культурнага будаўніцтва на кожным вучастку і ў кожнай галіне работы.

Культэстафэта дае магчымасьць стварыць сапраўдную вялізарную культармію з рабочых, калгасьнікаў, беднякоў і серяднякоў, камсамольцаў, студэнтаў і г. д., сіламі якіх павінна разгортвацца масавая культпалітасьветная работа, на аснове разьвіцьця іх шырокай актыўнасьці, праяўленьня самадзейнасьці, ініцыятывы і унядрэньня сацыялістычнага мэтаду працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Пачын у разгортваньні культэстафэты зроблены.

Партыйныя, савецкія і грамадзкія арганізацыі Клімавіцкай МТС і раёну абвясьцілі Сталінскую культэстафэту і адначасова заклікалі усе арганізацыі МТС, саўгасаў, калгасаў БССР уключыцца у яе правядзеньне.

Наркамасьветы ухваліў ініцыятыву Клімавіцкіх арганізацый, абвясьціў Усебеларускую Сталінскую культэстафэту.

Задачай Сталінскай культэстафэты зьяўляецца перабудова усёй масавай культпалітасьветнай работы на аснове ажыцьяўленьня пастаноў сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б і рэалізацыі шасьці паказаньняў тав. Сталіна, мабілізацыя працоўных мас на пасьпяховае правядзеньня прополкі, уборкі ўраджаю, асеньняга севу, нарыхтовак і аўладаньня рабочымі, калгаснымі і бядняцка-серадняцкімі масамі агразоатэхнікай.

У адпаведнасьці з гэтым, культэстафэта мае тры маршруты. Першы маршрут—за перабудову масавай культпалітасьветнай работы на абслугоўваньне прополкі, уборкі ўраджаю і асеньняга севу.

Другі маршрут—мабіліэуе масы на пасьпяховае правядзеньне прополкі, уборкі ўраджаю і асеньняга севу.

Трэці маршрут—за аўладаньне агразоатэхнікай.

Культэстафэта падзяляецца на два этапы. Першы этап—перабудова масавай культпалітасьветнай работы на абслугоўваньне прополачнай і уборачнай кампаніі, аўладаньне агразоатэхнікай. Другі этап—барацьба за пасьпяховае правядзеньне асеньняй пасеўнай нарыхтоўчай кампаніі.

Кожны з трох маршрутаў мае канкрэтнае заданьне: што патрэбна зрабіць органамі Нарасьветы, савецкім, калгасным, грамадзкім арганізацыям і кожнай культпалітасьветнай установай паасобку. Падаем маршруты Усебеларускай Сталінскай культэстафэты.

## Маршруты Сталінскай культэстафэты

Маршрут 1. За перабудову масавай культпалітасьветнай работы на абслугоўваньне ўборкі ураджаю і асеньняга севу.

1. Перанесьці масавую культпалітасьветную работу ў калгас, саўгас, на вытворчы вучастак, у брыгаду і калёну, для чаго: а) Арганізаваць ва ўсіх калгасах і ў аддзяленьнях буйных калгасаў і саўгасаў чырвоныя куткі, зрабіць абсталяваньне, набыць неабходны культ. інвэнтар (радыё, бібліятэку, сьветавы фанар, газэты і інш.). Вылучыць загадчыкаў і культактыў.

б) Арганізаваць з ліку камсамольцаў, калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, беднякоў і серадвякоў шырокі культактыў. Утварыць інстытут культарганізатараў у кожнай вытворчай брыгадзе і ў 15-20 дварах ў вёсцы, вылучыць культармейцаў па ўсіх вучастках і галінах работы, зрабіць расстаноўку культ. сіл і арганізацыю іх працы, згодна інструкцыйна-мэтадычнага ліста НКА і НДІ Кам. Выхаваньня.

СДК, клюбам, бібліятэкам, чырвоным куткам, культ. бытавым камісіям калгасаў, ячэйкам ЛКСМБ забясьпечыць вылучэньне ў кожнай брыгадзе культ. арганізатара, а ў буйных брыгадах (20-40 чал). — культармейцаў. Забясьпечыць кожную брыгаду газэтай „Зьвязда,“ „Савецкая Беларусь“, Калгасьнік Беларусі“ і інш., кніжкамі, інструкцыямі па пытаньні арганізацыі працы, зьдзельшчыне, ўліку працы, сельска-гаспадарчага падатку, нарыхтовак, калгаснага гандлю і інш., забясьпечыць кожнага культармейца заданьнямі работы.

в) У кожным калгасе, у брыгадзе арганізаваць палявыя газэты, штодзёнкі, для чаго забясьпечыць анкетамі, вылучыць рэдкалегію, прымацаваць да гэтай работы настаўнікаў, студэнтаў, скарыстаць вучняў у 5-6-7 групах ШКМ.

г) Пры кожным СДК арганізаваць культпавозку і культпалаткі, забясьпечыць іх бібліятэкай, радыё, газэтамі, шашкамі. Распрацаваць плян і маршруты іх работы з такім разьлікам, каб увесь час ўборкі культпавозкі і палаткі праводзілі культработу на вучастках у брыгадах.

д) Пры раённых дамах культуры арганізаваць культфургоны з радыё, кіно, з бібліятэкай, газэтамі, а таксама культпропбрыгадамі: па бібліятэчнай, мастацкай рабоце, тэхпрапагандзе і г. д. Акрамя арганізацый і пасылкі агульных брыгад і культфургону, неабходна праводзіць работу па арганізацый, інструктаваньню і абслугоўваньню на мясцох, кожнай установай, бібліятэкай, клюбам паасобку.

е) Раённым і сельскім дамам культуры скласьці адзіны плян культпалітасьветнай работы на абслугоўваньне ўборачнай, асеньняй пасяўной кампаніі і нарыхтовак.

Ажыцьцёвіць 6 паказаньняў тав. Сталіна ў культпалітасьветнай рабоце.

Для чаго: а) Арганізавана рабіць набор і высоўваньне культактыву, завесьці сталы вучот, арганізаваць пэрсанальны падбор культактыву па ўсіх вучастках культпалітасьветнай работы з ліку камсамольцаў, калгасьнікаў рабочых, прафарганізацыі, шэфскіх і добраахвотных арганізацый, а таксама аграномаў, настаўнікаў. Вылучыць сацнамесьнікаў, загадчыкаў дамоў культуры, клюбаў, бібліятэк, чырвоных куткоў.

б) Ліквідаваць цякучасьць палітпрацаўнікоў і культактыву, спыніць частую перакідку, замацаваць палітасьветных працаўнікоў згодна пастановы ЦК КП(б)Б і СНК на сталай працы, арганізаваць плянавае высоўваньне культактыву на больш важныя і адказныя вучасткі работы і г. д.

в) Зьнішчыць абязьлічку, безадказнасьць у культасьветнай працы. Распрацаваць і ўвесьці ва ўсіх палітасьветных ўстановах правілы унутранага распарадку і інструкцыі аб абавязках працаўнікоў і культарганізатараў, прымацаваць культ. палітасьветных працаўнікоў і культактыў да канкрэтных аб‘ектаў і галін работы, устанавіць пэрсанальную адказнасьць за культ‘інвэнтар, за маёмасьць і за даручаную працу.

г) Устанавіць сталую сыстэму кіраўніцтва масавай культпалітасьветнай ра-

ботай, дыфэрэнцыяваць сыстэму кіраўніцтва па групах культасьветных установў, СДК, чырвоныя куткі, саўгасныя МТС, клюбы, культарганізатараў і па асобных галінах іх работы. Усіліць жывое інструктаваньне, дачу канкрэтных заданьняў і ўстанавіць сталы кантроль і праверку выкананьня. РАЙАНА завесьці сталы картачны вучот кульпалітасьветных ўстаноў і іх якаснай работы. Рай-ДК арганізаваць прапрацоўку асобных пытаньняў культпалітасьветнай работы, падагульненьне і перадачу лепшага вопыту гэтай работы. Арганізаваць сыстэматычнае падвышэньне кваліфікацыі ўсяго культактыву, прапусьціць ўвесь актыў праз каротка-тэрміновыя курсы.

д) Узмацніць матар'яльную базу культпаліт-асьветных устаноў: уставіць мінімум культабсталяваньня, інвэнтара для ўсіх тыпаў устаноў, правесьці абсталяваньне, прыцягнуць сродкі гаспадарчых, калгасных і грамадзкіх арганізацый на аснове заключэньня дагавароў. Скласьці адзіныя пляны фінансаваньня, увесьці суровую бюджэтную дысцыпліну ў галіне правільнага скарыстаньня сродкаў. Забясьпечыць арганізацыю пры ўсіх культпалітасьветных ўстановах кніжных фондаў для бібліятэк—перасовак.

Маршрут 2. Мабілізаваць масу на пасьпяховае правядзеньне праполачнай, уборачнай і асеньняй уборачнай кампаніі.

Давесьці да мас калгасьнікаў, рабочых саўгасаў, беднякоў і сераднякоў пастановы партыі і ўраду аб праполачнай і ўборачнай кампаніі, нарыхтоўках, савецкім і калгасным гандлі, сельгасп. падатку, канкрэтныя мерапрыемствы і пляны іх правядзеньня кожным калгасам, саўгасам, сельсаветам.

Для гэтай мэты: а) Пры дамох культуры, клюбах, чытальнях, чырвоных кутках правесьці шырокія нарады культактыву, вечары пытаньняў і адказаў. У калгасах, саўгасах і ў брыгадах-сходы калгасьнікаў, масавыя гутаркі, чыткі, вывесіць пастановы, лёзунгі і плякаты.

б) Пры СДК правесьці масавыя вечары — зьлёты калгаснага актыву па пытаньні агляду падрыхтоўкі да праполачнай і ўборачнай кампаніі, арганізацыі сацспаборніцтва на пасьпяховае правядзеньне праполкі і ўборкі ўраджаю, дабіваючыся высоўваньня сустрэчных плянаў, заключэньня сац. умоў, а таксама агляду падрыхтаванасьці культасьветных устаноў па культабслугоўваньню уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі.

в) Кульпалітасьветным установам арганізаваць сыстэматычнае правядзеньне у саўгасах, калгасах і ў вёсках масавых гутарак, чытак, прапрацаваўшы наступныя пытаньні: аб вытворчых плянах праполкі і ўборкі, аб арганізацыі сталых брыгад і іх працы, аб зьдзельшчыне, аб уліку працы, аб савецкім калгасным гандлі, аб пазыцы 4-га завяршаючага году, аб нарыхтоўках, аб сельска-гаспадарчым падатку і інш.

г) Шырока асьвятляць гэтыя пытаньні ў насьценных газэтах, найбольш важныя пункты пастаноў і паказчыкі плянаў выпісаць і вывесіць на відных мясцох.

д) Арганізаваць збор прапаноў калгасьнікаў, рабочых саўгасаў на лепшую падрыхтоўку і правядзеньне праполкі і ўборкі ўраджаю. Завесьці ў чырвоных кутках кнігу запісу прапаноў. Найбольш каштоўныя з паступіўшых прапаноў і аб іх рэалізацыі вывешваць на відных мясцох. СДК разам з с/саветамі правесьці конкурс на лепшую прапанову.

е) Арганізаваць узаемаправерку паміж калгасаў і брыгад праз вылучэньне і пасылку праверачных брыгад, заслухоўваньне дакладаў, правядзеньне вечароў праверкі агляду.

ж) Такую-ж праверку правесьці паміж СДК, клюбамі, чырвонымі куткамі па пытаньні аб разгортваньні Сталінскай культэстафэты, аб падрыхтаванасьці культпалітасьветных ўстаноў да абслугоўваньня праполкі, уборкі і асеньняга севу.

Разгарнуць сац. спаборніцтва і ўдарніцтва за выкананьне плянаў, заданьняў, барацьбы са стратамі ўраджаю, за аўладаньне агра-зоатэхнікай, разгортваньне культасьветнай работы.

Для чаго: а) Правесьці гутаркі—чыткі па пытаньні аб сац. спаборніцтве, аб

заключэньні сац. дагавароў, аб сустрэчных плянах, дабіваючыся прыняцьця калгасамі, брыгадамі і калгасьнікамі канкрэтных абавязкаў ударнай работы і заключэньня сац. дагавароў.

б) Прапрацаваць пытаньне аб ажыцьцяўленьні 6-ці паказаньняў тав. Сталіна ў рабоце калгасаў, саўгасаў, МТС і брыгад. У кожным саўгасе, калгасе, на вытворчых вучастках і ў брыгадах арганізаваць дошкі сац. спаборніцтва, на якіх асьятляць ход работы па выкананьні вытворчага заданьня, ходу сац. спаборніцтва. Вылучыць культармейцаў, адказных за збор, апрацоўку і зьмяшчэньне матар'ялаў.

в) Арганізаваць заахвочваньне лепшых ударнікаў, зьмяшчаючы іх на чырвоных дошках, выдаючы прэміі, граматы. Адначасова выкрываць лодыраў, прагульшчыкаў, зрыўшчыкаў работ праз насьценгазэты, чорныя дошкі, грамадзкае ўзьдзейнічаньне (сходы, вечары і г. д.)

г) У час палявых работ разгарнуць сацыялістычную ўзаемадапамогу паміж калгасамі, брыгадамі. Арганізаваць сыстэматычнае азнаямленьне аб ходзе палявых работ паміж калгасамі, брыгадамі шляхам асвятленьня ў газэтах, узаемных даклад, пасылкі брыгад, правядзеньне вечароў агляду.

д) Такую ж узаемадапамогу арганізаваць па лініі культабслугоўваньня, работы культ. палітасьветных устаноў.

Маршрут 3.-За аўладаньне агра-зоотэхнікай.

а) Дамам культуры, клюбам, бібліятэкам, чырвоным куткам правесьці шэраг гутарак, чытак, літаратуры, газэт, дакладаў, лекцый па пытаньнях: аб парадку, тэрмінах і тэхніцы праполкі і ўборкі розных культур, вывучэньні сельска-гаспадарчых машын (праца, уход, рамонт, захоўваньне іх), аб значэньні каня, аб мерах барацьбы са стратамі ўраджаю, аб сіласаваньні і г. д. (гл. праграму агразоа-тэх-паходу). Па гэтых пытаньнях правесьці спэцыяльныя гутаркі з новымі рабочымі, сэзоньнікамі ў саўгасах.

б) Арганізаваць разам з калгаснымі органамі пры дамох культуры, ШКМ курсы—сэмінары для калгаснага актыву, брыгадзіраў. Кожнаму ДК, чырвонаму кутку, клюбу арганізаваць агра-зоатэхнічныя гурткі для рабочых саўгасаў, МТС, калгасьнікаў, скарыстаць для работы ў гуртках аграномаў, настаўнікаў, студэнтаў.

в) Культпалітасьветным ўстановам, разам з калгаснымі, саўгаснымі і грамадзкімі арганізацыямі, набыць спэцыяльную тэхнічную літаратуру для курсаў, гурткоў, чырвоных куткоў, выпісаць спэцыяльныя газэты, часопісы. Арганізаваць прасоўваньне спэцыяльнай літаратуры праз кнігарні, кніжныя полкі, бібліятэкі, кніга624ства, індывідуальную продажу. Забясьпечыць набыцьцё абсталяваньня неабходным культ. інвэнтаром па тэх. прапагандзе.

г) Прыцягнуць і скарыстаць з раёнаў, з гораду шэфскія арганізацыі ІТР, спэцыялістых, інжынэраў, аграномаў, тэхнікаў на курсах сэмінарыях, гуртках для кансультацыі, лекцый і г. д.; арганізаваць радыё-слуханьне, правядзеньне вечароў тэхнікі, пытаньняў і адказаў.

д) Арганізаваць у культпалітасьветных установах тэх. куткі, праводзіць экскурсіі ў саўгасы, калгасы, МТС, на навукова-дасьледчыя станцыі, прадпрыемствы.

Правядзеньнем пералічаных мерапрыемстваў абвешчанай сталінскай культэстафэты, забясьпечым мабілізацыю рабочых калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас на барацьбу за ўраджай, за правядзеньне уборкі ў найкарацейшыя тэрміны, за правільную арганізацыю працы і поўнае выкарыстаньне ня толькі складаных, але прасьцейшых машын, прылад і конскай цяглавай сілы.

Шырока разгорнем масавую культпалітасьветную работу ў полі, на вытворчым вучастку, у брыгадзе і машынатрактарнай калёне. Забясьпечым культабслугоўваньне кожнага рабочага саўгасу, МТС., калгасьніка, а таксама бядняцка-серадняцкія масы.

Абавязак кожнай арганізацыі, кожнай культасьветнай установы, кожнага саўгасу, калгасу і МТС, кожнай газэты,

і кожнага асьветніка, актывіста і культармейца неадкладна ўключыцца ў правядзеньне сталінскай культэстафэты. Мабілізаваць і ўцягнуць у яе правядзеньне шырокія масы рабочых, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў-аднаасобнікаў.

Неабходна зараз-жа ўлічыць і мабілізаваць усе сілы і сродкі, распрацаваць мерапрыемствы, пляны работы, правільна расставіць сілы.

Арганізаваць у раёне і на мясцох штодзённае, апэрацыйнае кіраўніцтва ўсімі зьвеньнямі, арганізацыямі і сіламі культармейцаў, аказаць практычную дапамогу ў іх працы.

Цэнтральны, раённыя штабы, сельскія пяцёркі павінны стаць сапраўднымі штабамі чоткага апэрацыйнага кіраўніцтва правядзеньнем сталінскай культэстафэты, павінны прыцягнуць усе савецкія, прафсаюзныя, камсамольскія, гаспадарчыя, калгасныя і інш. грамадзкія арганізацыі на аснове адзінага пляну масавай культпалітасьветнай работы па абслугоўваньні ўборачнай і асеньняй пасеўнай кампаній.

Посьпехі правядзеньня сталінскай культэстафэты будуць залежыць ад ступені забесьпячэньня караўніцтва з боку раённых і мясцовых партыйных савецкіх арганізацый і чоткай апэрацыйнай работы з боку органаў народнай асьветы.

# ЗА МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКУЮ ТЭОРЫЮ Ў ПЭДАГОГІЦЫ

**П. Панкевіч**

## Супроць антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“

*(Канец)*

З паасобных аўтараў асабліва яркую лінію гнілога лібэралізму праводзіць В. Струмінскі ў сваёй кнізе: „Теоретическая дискусия в советской педагогике“. Хоць аўтар і праяўляе некаторую тэндэнцыю крытыкаваць розныя апартуністычныя кірункі ў савецкай пэдагогіцы, аднак сам ён робіць цэлы шэраг сур'ёзных прынцыповых памылак. У дадзеным радзе, я спынюся толькі на адносінах Струмінскага да тэорыі „адміраньня школы“. Памянёны аўтар паўтарае пэдагагічныя погляды Шульгіна і Крупенінай пад уласьцівым крычашчым загалоўкам: „Лирика социалистического строительства и первые теоретические очертания советской педагогической системы переходного периода“ (стр. 116).

Ужо сама назва артыкулу ня можа ня прывесьці ў абурэньне. У артыкуле гаворыцца аб Шульгіне і Крупенінай, аб іх тэорыі „адміраньня школы“. І ўсё гэта даецца чытачу, як лірыка сацыялістычнага будаўніцтва. Калі Струмінскі хоча падкрэсьліць, што ліквідатарская тэорыя выхаваньня зьяўляецца адным з момантаў сацыялістычнага будаўніцтва, дык ён памыляецца. Бо на справе гэта тэорыя накіравана супроць аднаго з важнейшых вучасткаў сац. будаўніцтва, якім зьяўляецца савецкая школа.

Яшчэ большае непаразуменьне ўзьнікае ў нас у сувязі з тым, што Струмінскі, які прэтэндуе быць строгім крытыкам, траціць усялякую здольнасьць да крытычнага мысьленьня ў адносінах Шульгіна і Крупенінай. Ён робіць спробу надаць годнасьць Шульгіну і Крупенінай, што яны далі „першыя тэарытычныя нарысы савецкай пэдагагічнай сыстэмы пераходнага пэрыяду“. Што гэта азначае? Гэта азначае тое, што для Струмінскага ня існуе Леніна і яго сапраўдных вучняў, якія наперакор запэўненьню нашага аўтара на справе далі першыя тэарытычныя абгрунтаваньні савецкай пэдагогікі нікольві непадобныя на тое, што нам прападносяць Шульгін і Крупеніна. Гэта таксама азначае і тое, што Струмінскі, ігнаруючы ленінскую спадчыну, імкнецца прапагандаваць буржуазную тэорыю выхаваньня, прыкрываючыся гучнымі фразамі і крычашчай рэклямай аб „лірыцы сацыялістычнага будаўніцтва“. Струмінскі ахвотна падтрымлівае легенду, нібыта Шульгін і яго аднадумцы стварылі пэдагогіку пераходнага пэрыяду і нібыта яны першыя прыступілі да гэтай справы.

Наўрад ці патрэбна даводзіць, што такое запэўненьне ня мае пад сабой ніякіх падстаў, што лішнія дыфірамбы па адрасе Шульгіна ёсьць тыповае выражэньне гнілога лібэралізму. Струмінскі піша: „Пасутнасьці тэма ўсіх пэдагагічных шуканьняў т. Шульгіна адна: сваяўласьцівасьць савецкай пэдагогікі. Гэту тэму ён вырашае аднолькава на ўсіх этапах сваёй работы: і тады, калі казаў аб мэтах выхаваньня, і калі пісаў аб Марксе, і калі змагаўся за грамадзка-карысную працу школы. Яго апошнія спробы фармуляваць асаблівасьці пэдагогікі пераходнага пэрыяду толькі сынтэзуюць тое, што ім да гэтых часоў ужо зроблена, і, магчыма, больш глыбока і з больш шырокага пункту гледжаньня па-

дыходзяцьда таго-ж асноўнага пытаньня" 1).

Нельга не згадзіцца з Струмінскім у тым, што Шульгін пасьлядоўна змагаўся за свае ідэі на ўсіх этапах сваёй працы і што апошнія яго артыкулы зьяўляюцца сынтэзам усіх тых думак, якія ён выказваў раней. Карацей кажучы, Струмінскі справядліва канстатуе, што Шульгін разьвіваў тэорыю „адміраньня школы" ня толькі ў апошнія часы, але ў ранейшых сваіх працах. Ня гледзячы на тое, што Струмінскі тут хоча дагадзіць Шульгіну—прыпісваючы яму нязьменную пасьлядоўнасьць у адстойваньні сваіх поглядаў, але ўсякі бачыць, што гэта паслуга, як кажуць, „мядзьвежая". Называючы Шульгіна паэтам у пэдагогіцы, Струмінскі адчынена заяўляе аб сваёй салідарнасьці з тэорыяй „адміраньня школы".

Ён піша: „І мэтадалёгічна т. Шульгін зусім праў у сваіх працах. Ён увесь час ідзе ад сучаснасьці, ад яе эмацыянальнага перажываньня. Дзякуючы гэтаму, ён умее падслухаць і падглядзець тое, што яшчэ недаступна іншым. Ён бачыць тыя аграмадныя па сваёй значнасьці выхаваўчыя працэсы, якія ажыцьцяўляюцца ў нашай краіне, апрача прывычнай школьнай работы і наперакор ёй, працэсы, якія часамі толькі зараджаюцца, але якія ўжо яскрава сказваюцца на фармаваньні маладых пакаленьняў, якія маюць за сабой будучыню, якім цалкам належыць заўтрашні дзень" 2).

„Калі паэт савецкай пэдагогікі, працягвае наш аўтар,—Шульгін жыве адным адчуваньнем яе сваяўласьцівасьці, яе якаснага адрозьніваньня ад усіх тых форм пэдагагічнай работы, якія ствараліся ў мінулым, з сфэры якіх мы яшчэ да гэтага часу не змаглі выйсьці" 3).

Такім парадкам, Струмінскі запэўняе, што Шульгін шмат зрабіў для тэарытычнага абгрунтаваньня пэдагогікі пераходнага пэрыяду, але што гэта за пэдагогіка пераходнага пэрыяду, сам Струмінскі далей нядвухсэнсова апавядае, падкрэсьліваючы думкі Шульгіна аб „адміраньні школы" і настаўніка. Разумеючы, што найбольш слабым месцам пэдагагічных выказваньняў Шульгіна зьяўляюцца прызнаньні ім стыхійнага выхаваньня, Струмінскі бярэ на сябе задачу троху папраўіць свайго ўлюбёнага „паэта ў пэдагогіцы", затушаваць яго нязьмернае захапленьне стыхійнасьцю, надаць яму прылічны тон прызнаньня плянамернасьці ў пэдагагічным працэсе. У Струмінскага мы чытаем: „Спалучэньне ўсіх уплываў, якія фармуюць чалавека, Шульгін называе прывычным тэрмінам стыхіі, стыхійнага выхаваньня, падкрэсьліваючы як вялічэзную ролю гэтага выхаваньня, так і яго першапачатковы, асноўны характар. Плянамерны ўплыў на дзіця выяўляецца не ў ізаляваньні ад гэтых моцных уплываў, а якраз наадварот у выкарыстаньні і арганізацыі таго. што ўжо дадзена ў самым жыцьці. Зусім няправільнае ўпіканьне, што Шульгін адмаўляе плянамернасьць выхаваньня" 1).

Струмінскі гатоў зьняпраўдзіць рэчаіснасьць, каб толькі абараніць і апраўдаць Шульгіна. Ня гледзячы на тое, што апошні і сам не адмаўляе свайго прakлaненьня перад стыхійнасьцю, Струмінскі як ні ў чым ня бывала даводзіць, што Шульгін прызнае плянамернасьць выхаваньня. Для каго патрэбна такая фальсыфікацыя? Ясна, што яна выклікана імкненьнем рэабілітаваць тэорыю „адміраньня школы" з тым, каб прыспаць пільнасьць пралетарскай грамадзкасьці і тым самым стварыць спрыяючыя ўмовы для распаўсюджваньня буржуазнай ідэалёгіі ў нашай краіне. Але гэтай спробе суджана было пацярпець крах.

Гнілы лібэралізм у адносінах тэорыі „адміраньня школы" праяўляецца і ў Фрыдмана. Праўда, Фрыдман у некаторых выпадках даволі востра крытыкуе Шульгіна і Крупеніну, выкрываючы ў іх ідэалістычную мэтадалёгію, сындыкалісцкую ўстаноўку па пытаньні аб адносінах паміж дзяржавай і партыяй, антымарксысцкую спробу зводзіць палітыку да пэдагогікі, разглядаць пэдагогіку, як унівэрсальную навуку і г. д. Аднак, ён у той-жа час ні слова ня кажа аб ліквідатарскай палітыцы Шульгіна і Крупені-

1) Струмінскі; „Теоретическая дискуссия в советской педагогике", стр. 118 (курсыў наш *П. П.*)
2) Там-жа стр. 119
3) Там-жа, стар. 120

1) Там-жа, стар. 123—124

най у адносінах школы. Адначасова з гэтым, ён пераймае ў іх ідэю стыхійнага выхаваньня і стварае сваю эклектычную пэдагагічную тэорыю, згодна якой арганізаваны выхаваўчы працэс выступае рэгулятарам стыхійнага працэсу; пры гэтым, апошні прызнаецца важнейшым асноўным фактарам разьвіцьця паводзін грамадзкае асобы (чалавека). Такім парадкам Фрыдман адмаўляецца прызнаць, што клясавая барацьба пралетарыяту мае сьвядомы і плянамерны характар, праходзіць пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў і зьяўляецца сапраўднай асновай у фармаваньні паводзін працоўных мас. У Фрыдмана ня клясавая барацьба азначае паводзіны грамадзкага чалавека, а стыхійны працэс. „Стыхійна-выхаваўчы працэс,—гаворыць ён—абумоўлівае разьвіцьцё паводзін грамадзкага чалавека“ [1]. „Канешне,—працягвае ён,—законамернасьць стыхійна выхаваўчага працэсу зьяўляецца тэй асновай, з якой павінен выходзіць арганізаваны выхаваўчы працэс“ [1]. Фрыдман зусім адчынена абвяшчае стыхійны працэс, як аснову выхаваньня. Хоць ён, блытаючыся ў супярэчаньнях, імкнецца даказаць у іншых мясцох і тое, што арганізаваны выхаваўчы працэс выступае ў якасьці рэгулятара стыхійнага працэсу. Захапленьне „стыхійным выхаваньнем“ у Фрыдмана іншы раз даходзіць да такой меры, што ён нават пачынае ўпікаць Шульгіна і Крупеніну ў недастатковай увазе да гэтага выхаваньня ў пераходны пэрыяд. „В. Н. Шульгін лічыць,—піша Фрыдман,—што зьмена акалічнасьцяй у пераходную эпоху зьяўляецца выключна сьвядомай зьменай, і ніякіх стыхійных момантаў у працэсе зьмены акалічнасьцяй у пераходную эпоху няма,—гэтым самым ён атаежсамляе пераходную эпоху з эпохай сацыялізму“ [2]. У Фрыдмана, бадай, ўсё паблыталася. Каб абвінаваціць Шульгіна ў пераацэнцы сьвядомасьці і ў адмаўленьні стыхійных момантаў у працэсе зьмен і акалічнасьцяй у пераходную эпоху, патрэбна сапраўды страціць галаву. У той час, як Шульгін няўтомна паўтарае, што пры дыктатуры пралетарыяту працьвітае „крычашчы дэзарганізуючы хаос“, характэрны для буржуазнае грамады, Фрыдман імкнецца пераканаць чытача, што Шульгін прыдае выключнае значэньне сьвядомасьці пры зьмене акалічнасьцяй ў пераходную эпоху і тым самым атоежсамляе гэту эпоху з сацыялізмам. „Адмаўленьне стыхійнасьці ў працэсе сацыяльн. фармаваньня чалавека ва ўмовах пераходнай эпохі, навучае Фрыдман Шульгіна, азначае неразуменьне сваяўласьціваcьці пераходнай эпохі і атоежсамленьне пераходнай эпохі з эпохай сацыялізму“ [1]. Дарэмна турбуецца Фрыдман наконт таго, нібыта Шульгін схільны адмаўляць стыхійнасьць пры дыктатуры пралетарыяту. Мы ўжо давялі з дастатковай яскравасьцю, што Шульгін ня толькі ня схільны адмаўляць гэту стыхійнасьць, а наадварот, ён разглядае клясавую барацьбу пралетарыята менавіта як толькі стыхійны працэс і пэрыяд дыктатуры пралетарыяту, як пэрыяд хаоса.

Шульгін праяўляе яскравую тэндэнцыю атаежсамляць пралетарскую дзяржаву з буржуазнай грамадой. Калі ў яго спатыкаюцца паасобныя слоўцы адносна адміраньня дзяржавы, адносна плянавасьці і сацыялізму, дык гэта выкарыстоўваецца зусім не для таго, каб сапраўды ўмацоўваць і пашыраць будаўніцтва сацыялістычнай грамады, а для таго, каб, прыкрываючыся гучнымі фразамі, весьці атаку супроць генэральнай лініі партыі, г. зн. супроць пабудовы сацыялізму ў нашай краіне. Няўжо-ж не разумее гэтага Фрыдман? На некалькіх прыкладах мы стараліся паказаць у чым менавіта заключаецца сутнасьць гнілога лібэралізму ў адносінах тэорыі „адміраньня школы“. Мы бязумоўна далёка ня вычарпалі ўсіх фактаў, якія могуць быць выкарыстаны для гэтай задачы, але мы на вычарпальную паўнату ў паказе гэтых фактаў і не прэтэндуем. Цяпер можна зрабіць вывад: прымірэнцы няміную скатваюцца на пазыцыю абароны і апраўданьня „лева“-апартуністычных тэорый і скажэньня ў галіне пэдагогікі. Тут-жа неабходна

[1]) С. Фрыдман „Вопросы марксистской педагогики“ Работник Просвещения, 1929 г., стр. 52.

[2]) С. М. Фрыдман „Проблемы марксистской методологии в педагогике“, 1930 г., стр. 34

[1]) С. М. Фрыдман „За марксистскую педагогику“. 1930 г., стр. 19.

сказаць і аб прымірэнцтве ў адносінах правых. Таму неабходна разгарнуць шырокую, пасьлядоўную і няпрымірымую барацьбу з гнілым лібэралізмам на пэдагагічным фронце. Толькі пры гэтых умовах будзе ўдала, па-бальшавіцку, вырашана праблема барацьбы на два франты ў галіне школьнага будаўніцтва.

Наўрад ці патрэбна даводзіць, што Маркс, Энгельс і Ленін ніколі ня выказвалі такіх думак нібыта школа павінна адмерці ў будучым, пры камунізьме. Гэта павінна быць вядома кожнаму граматнаму марксысту.

Яшчэ ў 1845 г. Энгельс у артыкуле „Эльберфэльдзкія прамовы“ пісаў аб мерапрыемствах, якія „неабходна павінен мець вынікам практычны камунізм“, і сярод іх ён называў такое мерапрыемства, як усеагульнае навучаньне, пры якім усе дзеці бяз выключэньня аднолькава навучаюцца за дзяржаўны кошт да таго ўзросту, калі яны маюць магчымасьць выступаць як самастойныя члены грамады“ [1]). Гэта-ж думка паўтараецца і ў „Прынцыпах камунізму“, дзе зазначаецца, што пры дэмакратычным ладзе, узьнікаючым на аснове рэвалюцыі, пралетарыят павінен ажыцьцёвіць „выхаваньне ўсіх дзяцей з таго моманту, як яны могуць абыходзіцца бяз матчынага догляду, у дзяржаўных установах і на дзяржаўны кошт“.

Што тут разумеецца пад дзяржаўнымі ўстановамі ня цяжка растлумачыць. Тут маецца на ўвазе **школа**.

Пры камунізьме калі дзяржава зьнікне, грамадзкае выхаваньне дзяцей таксама будзе праводзіцца праз школу, якая павінна даваць навучаньне за грамадзкі кошт.

Кажучы аб пэрыядзе дыктатуры пралетарыята, Маркс і Энгельс пэўна падкрэсьліваюць, што палітэхнічную і прафэсыйна-тэхнічную адукацыю рабочыя будуць атрымліваць у адпаведных школах. „Не падлягае ніякаму сумненьню,— кажуць яны,—што нямінучае заваяваньне палітычнай ўлады рабочай клясай, заваюе належнае места **ў школах рабочых** і тэхналёгічным навучаньні, як тэарытычным, так і практычным“ [2]).

[1]) Маркс—Энгельс, соч., т. III, Госиздат, стр. 282.
[2]) „Капитал“ под ред. Степанова и Базарова. 1928 г., стр. 469 (падкрэсьлена *П. П.*).

У рэзалюцыі I Кангрэсу, I Інтэрнацыяналу, Маркс расшыфроўвае сутнасьць палітэхнічнае адукацыі і вызначае структуру палітэхнічнай школы. Адначасова, ён зазначае, што палітэхнічныя школы будуць існаваць „пры разумным грмадзкім ладзе“, пад якім ён разумее пэрыяд дыктатуры пралетарыяту і камуністычную грамаду. У адным месцы свайго твору „Капітал“ Маркс піша, што „з фабрычнай сыстэмы, як гэта можна падрабязна прасачыць у Робэрта Оуэна, узьніклі зародышы будучага выхаваньня, пры якім, для ўсіх дзяцей звыш вядомага ўзросту будзе злучана вытворчая праца з навучаньнем і гімнастыкай, ня толькі як спосаб захапленьня грамадзкай вытворчасьцю, але як адзіны спосаб вытворчасьці ўсебакова разьвітых людзей“. Такім парадкам, Маркс упэўнена зазначае, што пэдагагічны экспэрымэнт Робэрта Оуэна Нью-Лэпарку зьяўляецца зародышам выхаваньня будучыні.

А якім чынам, было арганізавана выхаваньне ў Робэрта Оуэна? Яно было пабудавана на аснове злучэньня навучаньня дзяцей з іх вытворчай працай і праводзілася праз школу. Значыцца, Маркс лічыць, што школьная форма навучаньня таксама, як і прынцып злучэньня навучаньня з вытворчай працай, зьяўляецца зародышам выхаваньня будучыні. Крытыкуючы Дзюрынга, Энгельс між іншым зазначае, што „у сацыялістычнай грамадзе праца і выхаваньне будуць злучаны і для гэтага мяркуецца забясьпечыць падрастаючым пакаленьням ўсебаковую тэхнічную адукацыю“. Далей Энгельс рашуча нападае на Дзюрынга за тое, што апошні ў сваёй выдуманай сацыялітарнай камуне зьнішчае шырокае тэхнічнае школьнае навучаньне, пад якім Энгельс разумее навучаньне ў палітэхнічнай школе. „Як мы бачылі,—гаворыць ён,—існуючы цяпер падзел працы ў сваіх істотных рысах, захоўваецца ў Дзюрынгавай вытворчасьці будучыні, а тым самым зьнішчаецца і неабходнасьць практычнага ўжываньня ў яго межах шырокага тэхнічнага школьнага навучаньня, адымаецца ў яго ўсялякае значэньне для самой вытворчасьці. Такім парадкам школа п. Дзюрынга, па незразумелых прычынах, ігнаруе гімнастыку, істотныя мэты навукі іператва-

раецца у некарысную, накшталт таўчэньня вады“[1]). Адсюль відаць, што Энгельс, выказваючыся супроць школы Дзюрынга зусім не адмаўляе школьнай формы навучаньня пры будучай грамадзе. Ён з яскравасьцю патрабуе ажыцьцяўленьня палітэхнічнай школы, падкрэсьліваючы, што важнейшым яе момантам павінна быць спалучэньне навучаньня з вытворчай працай і гімнастыкай і што самае навучаньне павінна прасьледаваць істотныя мэты навукі.

Ленін таксама шмат разоў выказваўся за неабходнасьць пабудовы палітэхнічнай школы. Ён рашуча выступаў супроць старой схалястычнай славеснай школы, а таксама і супроць недаацэнкі тэарытычных занятак у школе. Ён казаў, што ніякі ўнівэрсытэт і ніякая школа нікуды ня варты, калі яны не даюць практычнага ўменьня. „Таму простае кніжнае засваеньне таго, што гаворыцца ў кнігах аб камунізьме,—тлумачыў Уладзімір Ільліч камсамольцам,—было-б у вышэйшай ступені няправільным. Цяпер у нашых артыкулах няма нічога падобнага на тое, што гаварылася раней аб камунізьме, бо гэта апісаньне зьвязана з штодзённай і ўсебаковай работай. Без работы, без барацьбы кніжныя веды камунізму з камуністычных брашур і твораў роўна нічога ня варты, бо яно працягвала-б стары разрыў паміж тэорыяй і практыкай, той стары разрыў, які складаў самую адмоўную рысу старое буржуазнае грамады“ [2]).

Ленін змагаўся супроць камуністычных начотчыкаў і хвастуноў, якія, начытаўшыся таго, што пададзена ў кнігах і брашурах, аказваліся няздольнымі ўжываць свае веды на практыцы, ня ўмелі „дзейнічаць так, як гэтага сапраўды камунізм патрабуе“.

Ленін патрабаваў стварэньня такой школы, якая гадавала-б навуковыя веды і разам з тым прывучала-б падрастаючае пакаленьне ўдзельнічаць у клясавай барацьбе пралетарыяту і сацыялістычным будаўніцтве. „Мы ня верылі-б навучаньню, выхаваньню і адукацыі,—казаў ён,—калі-б яно было загнана толькі ў школу і адарвана ад бурнага жыцьця. Пакуль рабочыя і сяляне застаюцца прыгнечанымі памешчыкамі і капіталістамі, пакуль школы застаюцца ў руках памешчыкаў і капіталістаў, пакаленьне моладзі застаецца сьляпым і цёмным. А наша школа павінна даваць моладзі аснову ведаў, даваць здольнасьць выпрацоўваць самім камуністычныя погляды, павінна рабіць з іх адукаваных людзей. Яна павінна за той час, пакуль людзі ў ёй навучаюцца, рабіць з іх удзельнікаў барацьбы за вызваленьне ад эксплёататараў“ [1]).

Ленін зазначаў нашай моладзі, што патрэбна вучыцца—„толькі зьвязваючы кожны крок дзейнасьці ў школе, кожны крок выхаваньня, адукацыі і навучаньня, непарыўна з барацьбой усіх працоўных супроць эксплёатараў“ [2]). „І патрэбна,—працягваў ён,—каб Саюз камуністычнай моладзі сваю адукацыю, сваё навучаньне і сваё выхаваньне злучыў з працай рабочых і сялян, каб ён не замыкаўся ў свае школы і не абмяжоўваўся толькі чытаньнем камуністычных кніг і брашур. Толькі ў працы, разам з рабочымі і сялянамі можна стаць сапраўднымі камуністымі“ [3]).

Такім парадкам, Ленін не выказваўся за тое, каб ліквідаваць школу, а патрабаваў таго, каб навучаньне ў школе было зьвязана з барацьбой працоўных супроць эксплёататараў і з працай рабочых і сялян. Пры гэтым ён выразна падкрэсьліваў, што наша моладзь павінна засвоіць не камуністычныя лёзунгі, а глыбокія навуковыя веды. „Але Вы зрабілі-б аграмадную памылку,—папярэджваў камсамольцаў Уладзімір Ільліч,—калі-б паспрабавалі зрабіць той вывад, што можна стаць камуністым, не засвоіўшы таго, што накоплена чалавечымі ведамі. Было-б памылковым думаць, што дастаткова засвоіць камуністычныя лёзунгі, вывады камуністычнай навукі, не засвоіўшы сабе тэй сумы ведаў, вынікам якіх зьяўляецца сам камунізм“ [4])

---

[1]). Энгельс „Анти—Дюринг“. 1918 г., стр. 287-288

[2]) Ленин, соч., 2-е изд., т. XXУ, стр. 385-386.

[1]) Там-жа стар. 394

[2]) Там-жа стар. 395

[3]) Там-жа стар. 396.

[4]) Там-жа стар. 386-387

І далей Ленін паўтарае: „Мы не павінны браць ад старой школы таго, калі памяць маладога чалавека ацяжарвалася нязьмернай колькасьцю ведаў, на дзевяць дзесятых непатрэбных, а на адну дзесятую скажоных, але гэта не азначае, што мы можам абмежавацца камуністычнымі ведамі і завучыць толькі камуністычныя лёзунгі. Гэтым камунізму ня створыш. Камуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць ведамі ўсіх тых багацьцяў, якія выпрацавала чалавецтва. Нам непатрэбна зуброжкі, але нам патрэбна разьвіць і ўдасканаліць памяць кожнага навучаючагася ведамі асноўных фактараў, бо камунізм ператворыцца ў пустату, ператворыцца ў пустую шыльду, камуніст будзе толькі простым хвастуном, калі ня будуць прапрацованы ў яго сьвядомасьці ўсе атрыманыя веды. Вы павінны ня толькі засвоіць іх, але засвоіць так, каб аднесьціся да іх крытычна, каб не забіваць свайго розуму тым хламам, які непатрэбен, а ўзбагаціць яго ведамі ўсіх фактараў, без якіх ня можа быць сучаснага адукаванага чалавека“ [1]).

У прыведзеных вытрымках дадзена асноўнае Ленінскае разуменьне таго, як патрэбна вучыцца камунізму: неабходна ня толькі набыць глыбокія веды, але таксама іх пераапрацаваць у сваім сазнаньні, адносячыся да іх крытычна. Не ацяжваючы свайго розуму хламам, мы павінны браць такія веды, якія неабходны для задач сацыялістычнага будаўніцтва. Гэту думку Ленін паясьняе практычным прыкладам. „Мы ведаем, — кажа ён, зьвяртаючыся да камсамолу,—што камуністычную грамаду нельга пабудаваць, калі не адрадзіць прамысловасьць і земляробства, прычым патрэбна адрадзіць іх не па старому. Трэба адрадзіць іх на сучаснай, па апошнім слове навукі пабудаванай аснове. Вы ведаеце, што гэтай асновай зьяўляецца электрычнасьць, што толькі, калі адбудзецца электрыфікацыя ўсёй краіны, усіх галін прамысловасьці і земляробства, калі вы, гэтую задачу ўцяміце, толькі тады вы, для сябе зможаце пабудаваць тую камуністычную грамаду, якой ня зможа пабудаваць старое пакаленьне. Перад вамі стаіць задача гаспадарчага адраджэньня ўсёй краіны, рэарганізацыя, аднаўленьне і земляробства, і прамысловасьці на сучаснай тэхнічнай аснове, якая грунтуецца на сучаснай навуцы і тэхніцы, на электрычнасьці. Вы дужа добра разумееце, што да электрыфікацыі няпісьменныя людзі не падыйдуць і мала тут аднэй простай пісьменнасьці. Тут недастаткова разумець, што такое электрычнасьць: трэба ведаць, як тэхнічна прыстасаваць яе да прамысловасьці, і да зямляробства, і да пасобных галін прамысловасьці і зямляробства. Патрэбна навучыцца гэтаму самім, патрэбна навучыць гэтаму ўсё падрастаючае працоўнае пакаленьне.[1])

Гэта працяжная вытрымка рашчыняе нам з вычарпальнай паўнатой, што менавіта Ленін лічыў важнейшым моманам палітэхнічнае адукацыі і як ён разумеў сутнасьць навуковых ведаў. З дастатковай выразнасьцю ён патрабаваў аўладаць навейшымі дасягненьнямі навукі і тэхнікі і асабліва ведамі па электрычнасьці ў такой ступені, каб можна было гэтыя веды тэхнічна прыстасаваць у сацыялістычнай прамысловасьці і сельскай гаспадарцы. Даць такія веды—гэта і ёсьць асноўная задача палітэхнічнай школы.

Ленін заўсёды падкрэсьліваў важную ролю палітэхнічнай школы ў сыстэме сацыялістычнага будаўніцтва. Аб гэтым мы чытаем і ў праграме нашай партыі, дзе напісана, што „ў пэрыяд дыктатуры пралетарыяту, г. зн. у пэрыяд падрыхтоўкі ўмоў, якія робяць магчымым поўнае ажыцьцяўленьне камунізму, школа павінна быць ня толькі праваднікам камунізму наогул, але і праваднікам ідэёвага, арганізацыйнага і выхаваўчага ўплыву пралетарыяту на поўпралетарскія і непралетарскія пласты працоўных мас, у мэтах выхаваньня пакаленьня, здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм“. Тое-ж самае гаворыць і пастанова ЦК КП(б)Б аб пачатковай і сярэдняй школе, дзе зазначана, што „у пэрыяд сацыялізму, калі пралетарыят ажыцьцяўляе канчатковае зьнішчэньне клясаў ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, выключна важнае значэньне набывае вытрыманае камуні-

[1]) Ленін соч. т. XXV. Стар. 328.

[1]) Там-жа стар. 289.

стычнае выхаваньне ў савецкай школе і ўзмацненьне барацьбы супроць усялякіх спроб прышчапіць дзецям савецкай школы элементы антыпралетарскай ідэалёгіі". Наўрад ці патрэбна шмат намаганьняў, каб зразумець, што антыпартыйная ўстаноўка на ліквідацыю школы ёсьць па-сутнасьці спроба прышчапіць нашым дзецям буржуазную ідэалёгію.

Нашы школьныя ліквідатары крычаць на кожным кроку, што адмірае настаўнік. Зусім іншыя адносіны да настаўніка мы наглядаем у Леніна. Яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы ён зазначаў, што склад лектароў у школе вызначае сабою ідэалёгічную накіраванасьць выкладаньня. „Ва ўсякай школе самае важнае ідэёва-палітычная накіраванасьць лекцый,—пісаў ён тады ў лісьце да вучняў Капрыйскай партыйнай школы (у 1909 г.). Чым азначаецца гэта накіраванасьць? Цалкам і выключна складам лектароў. Вы добра разумееце, таварышы, што ўсякі „кантроль", „усялякае" „кіраўніцтва", усялякія „праграмы", „статуты" і інш. усё гэта — гук пусты ў адносінах да складу лектароў. Ніякі кантроль, ніякія праграмы і г. д. абсалютна ня могуць зьмяніць таго кірунку занятак, які вызначаецца складам лектароў" [1]). Бязумоўна, правільнае кіраўніцтва справай выхаваньня, праграмы і статуты маюць значэньне для ўстанаўленьня вядомай ідэалёгічнай накіраванасьці выкладаньня. Але тут выключна рашаючае значэньне ўсё-ж такі мае палітычная ўстаноўка саміх лектароў, гэта і падкрэсьлівае Ленін. Вось чаму, ён патрабуе зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на перавыхаваньне старых кадраў настаўніцтва ў камуністычным дусе і на стварэньне новых кадраў. Для гэтага ён раіць уцягнуць масу выкладчыцкага пэрсаналу ў клясавую барацьбу пралетарыяту і сацыялістычнае будаўніцтва. „Настаўніцкая армія,— пісаў ён у 18 годзе,—павінна паставіць сабе гіганцкія асьветніцкія задачы і раней ад усяго павінна стаць галоўнай арміяй сацыялістычнай асьветы. Трэба вызваліць жыцьцё, веды ад падпарадкаваньня капіталу, ад ярма буржуазіі. Нельга абмяжаваць сябе рамкамі вузкай настаўніцкай дзейнасьці. Настаўніцтва павінна зьліцца з усёй масай працоўных, якая вядзе барацьбу. Задача новай пэдагогікі—зьвязаць настаўніцкую дзейнасьць з задачай сацыялістычнай арганізацыі грамады" [1])
На Усерасійскай нарадзе палітасьветы і аддзелаў народнае асьветы ў 1920 г. Ленін казаў: „Працаўнікі асьветы, настаўніцкі пэрсанал быў выхаваны ў дусе буржуазных забабонаў і звычак, у дусе, варожым пралетарыяту. Яны былі зусім не зьвязаны з ім. Цяпер мы павінны выхаваць новую армію пэдагагічнага настаўніцкага пэрсаналу, які павінен быць цесны з партыяй, з яе ідэямі, павінен быць прасякнут яе духам, павінен прыцягнуць да сябе рабочыя масы, прасякнуць іх духам камунізму, зацікавіць іх тым, што робяць камуністы" [2])
Патрэбна сказаць,—працягваў Ленін, што сотні тысяч настаўнікаў—гэта ёсьць апарат, які павінен рухаць работу, абуджаць думку, змагацца з забабонамі, якія яшчэ да гэтых часоў існуюць у масах. Спадчына капіталістычнай культуры, прасякнутасьць яе недахопамі ў настаўніцкіх масе якая пры наяўнасьці іх ня можа быць камуністычнай, аднак, ня можа перашкаджаць браць гэтых настаўнікаў у шэрагі працаўнікоў асьветніцкай, палітычнай работы, бо гэтыя настаўнікі ўладаюць ведамі, без якіх мы ня можам дамагчыся сваёй мэты." [3])
Каб прыцягнуць настаўнікаў на бок рэвалюцыйнага пралетарыяту, неабходна ўстанавіць партыйнае кіраўніцтва над імі і падпарадкаваць іх уплыву камуністычнай партыі; неабходна „прасякнуць іх сваім духам, запаліць агнём сваёй ініцыятывы", „перамагчы старыя буржуазныя забабоны", „заразіць іх сазнаньнем непамернасьці сваёй работы". Кожны камуніст на фронце асьветы павінен ператварыцца з агітатара-прапагандыста ў кіраўніка агітатараў, павінен стаць „кіраўніком гіганцкай палітычнай арганізацыі", пад якой Ленін разумее армію працаўнікоў асьветы. Нікуды ня варты такі камуніст, які ня ўмее кіраваць настаўнікамі і ня

[1]) Ленін, соч. т. XIV, стар. 118.

[1]) Ленін, соч. т. XXIII, стар. 66
[2]) Ленін, соч. т. XXV, стр 452
[3]) Там-жа стар. 453

выкарыстоўвае іх вопыт для правільнай арганізацыі савецкай школы. Ленін не пакідаў клапаціцца аб настаўніцтве, зазначаючы, што пэдагог у нас павінен стаяць на такой вышыні, на якой не стаяў, не стаіць і ня можа стаяць ні ў аднэй капіталістычнай краіне. Роля пэдагога ў савецкай школе не адмірае, а, наадварот, набывае выключнае значэньне. Таму мы павінны ўзмацніць нашу ўвагу да савецкага настаўніка, умацаваць адзінаначальле ў школе, павялічыць адказнасьць пэдагога за вынікі выхаваньня.

„Левыя“ апартуністы запэўняюць, што ў нас нібыта адмірае падручнік. Ленін, наадварот, клапаціўся аб тым, каб стварыць для нашай школы добрую вучэбную літаратуру, якая зьяўлялася-б ідэалёгічна вытрыманай, і адбівала-б у сабе асноўныя моманты сацыялістычнага будаўніцтва. Адносіны Леніна да падручніка лепш ад усяго выяўляюцца на прыкладзе кнігі Сьцяпанава-Скварцова „Электрыфікацыя РСФСР“. У прадмове да гэтай кнігі Ленін пісаў: „Ад усёй душы рэкамэндую гэту працу т. Сьцяпанава ўвазе ўсіх камуністых. Аўтару ўдалося даць надзвычайна ўдалы зьмест цяжэйшых і важнейшых пытаньняў. Аўтар дужа добра зрабіў, што парашыў пісаць кнігу не для інтэлігэнтаў (як у нас прынята пісаць кнігі), а для працоўных, для сапраўднай масы народу, для радавых рабочых і сялян“. Далей Ленін патрабаваў, каб літаратары-марксысты ўзяліся, па прыкладзе Сьцяпанава, пісаць адпаведныя папулярныя кнігі для працоўнага насельніцтва і для савецкай школы. „Чаго нам больш ад усяго не хапае для сапраўднай“ (а ня чыноўніцка-бязьдзельнай) работы па народнай асьвеце,—гэта менавіта вось такіх „дапаможнікаў для школ“ (для ўсіх, абавязкова ўсіх школ наогул), як сапраўднае,—казаў Ленін аб кнізе т. Сьцяпанава;—рэкамэндую распаўсюджваць яе рашуча па ўсіх школах нашай краіны.“ Цяпер са зьяўленьнем у сьвет сапраўднага „дапаможніка для школ“ т. Сьцяпанава, патрэбна дамагчыся,—і мы дамажамся таго, каб у кожнай павятовай бібліятэцы (а затым і ў кожнай валасной) было-б па некалькі экзэмпляраў гэтага „дапаможніка“; каб пры кожнай электрычнай станцыі ў Расіі (а іх звыш 800) ня толькі была гэта кніга, але і чыталіся абавязкова агульнадаступныя народныя чытаньні аб электрычнасьці і аб электрыфікацыі РСФСР і аб тэхніцы наогул; каб кожны народны настаўнік у кожнай школе прачытаў і засвоіў гэты „дапаможнік“ (для дапамогі ў гэтай справе павінен быць у кожным павеце арганізаваны гурток альбо група інжынэраў і выкладчыкаў фізыкі) „і ня толькі прачытаў, зразумеў і засвоіў сам, але ўмеў-бы пераказаць гэта проста і зразумела вучням школы і сялянскай моладзі наогул“. Ленін цаніў кнігу т. Сьцяпанава таму, што ён бачыў у ёй падручнік палітэхнічнага характару, даступны для шырокіх пластоў працоўных. Адсюль бачна, што Ленін усяляк заахвочваў ініцыятыву стварэньня добраякаснага падручніка для масавай савецкай школы.

Ітак, Ленін патрабаваў умацаваць савецкую школу, паставіць настаўніка на нябывалую вышыню і стварыць неабходную вучэбную літаратуру, якая дапамагла-б распаўсюджваньню навуковых ведаў. Школьныя ліквідатары, наадварот, стараліся разбурыць школу, прынізіць ролю настаўніка і зьнішчыць падручнік. Яны выступалі і выступаюць супроць вучэньня Леніна. Таму, мы павінны весьці рашучую барацьбу супроць школьных ліквідатараў, якія адлюстроўваюць у сваіх поглядах варожыя нам устаноўкі контррэвалюцыйнага трацкізму.

Л. Шашкоў

# Дробна-буржуазная тэорыя свабоднага выхаваньня і антыленінская тэорыя „адміраньня школы“

На першы погляд здаецца, што паміж гэтымі тэорыямі няма і ня можа быць нічога агульнага. Але гэта толькі здаецца, і менавіта на першы погляд. У сапраўднасьці паміж гэтымі тэорыямі ёсьць вельмі багата агульнага. Нават больш таго. Паміж гэтымі тэорыямі зусім немагчыма знайсьці граніц размежаваньня; часамі вельмі цяжка сказаць, дзе канчаецца тэорыя свабоднага выхаваньня, і дзе пачынаецца антыленінская тэорыя „адміраньня школы“. Чым больш пачынаеш учытвацца і задумвацца над сутнасьцю гэтых тэорый, тым з большай відавочнасьцю прыходзіш да таго заключэньня і пэўнага вываду, што тэорыя „адміраньня школы“ вырасла з дробна-буржуазнай тэорыі свабоднага выхаваньня, што яна зьяўляецца той-жа па сутнасьці, адбіткам тэорыі свабоднага выхаваньня, толькі ў новых умовах, ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту, ва ўмовах рэканструкцыйнага пэрыяду і пад іншай назвай. Фармуляваныя намі суадносіны паміж тэорыяй свабоднага выхаваньня і тэорыяй „адміраньня школы“, мы надалей пастараемся даказаць на цэлым шэрагу асноўных момантаў, характэрных для гэтых дзьвёх тэорый. Але раней, чым прайсьці да разгляду гэтых момантаў, неабходна перш за ўсё сказаць некалькі слоў аб сутнасьці дробнабуржуазнай тэорыі свабоднага выхаваньня. Што-ж тычыцца тэорыі „адміраньня школы“, дык на ёй няма патрэбы спэцыяльна спыняцца ў зьвязку з тым, што антыленінская сутнасьць гэтай тэорыі і яе шкоднасьць у дастатковай ступені ўжо асьвятлялася ў пэрыядычным савецкім друку.

Што-ж сабой прадстаўляе тэорыя свабоднага выхаваньня?

Чые інтарэсы і пажаданьні гэта тэорыя адлюстроўвае?

Тэорыя свабоднага выхаваньня адлюстроўвае ў пэдагогіцы ідэалёгію, інтарэсы і спадзяваньні дробнай буржуазіі. Гэта тэорыя вызначылася яшчэ ў Песталёццы. Але ў яго яна не атрымала свайго шырокага разьвіцьця, а тым самым і распаўсюджваньня. Больш шырока гэта тэорыя была разьвіта ў Русо. Агульныя намёткі гэтай тэорыі, меўшыя месца ў Песталёццы і Русо, да ўскрайнасьці былі разьвіты сучаснымі заходнімі пэдагогамі—ідэалёгамі дробнай буржуазіі—Гансбэргам, Шаральманам і інш.

У царскай Расіі гэта тэорыя ўпяршыню афармляецца ў самым канцы XIX стагодзьдзя. Афармляецца яна ў тэй менавіта час, калі разьвіцьцё капіталізму дасягае свайго высокага разгортваньня, калі выкрышталізоўваецца дзьве асноўных, антаганістычных клясы—пралетарыят і буржуазія і абвастраецца клясавая барацьба паміж гэтымі клясамі. Становішча дробнай буржуазіі ў гэты час азначалася ўжо як становішча клясавай групоўкі, якая хістаецца паміж пралетарыятам і прамысловай буржуазіяй. Дробная буржуазія, як вядома, пры капіталізьме церпіць прыгнечаньне і падлягае часамі рэзкім і хуткім пагоршаньням свайго жыцьця. Будучы нездаволенай такім сваім становішчам, але зьяўляючыся „крывадушнай па самой сваёй прыродзе“ (Ленін), яна ня можа пасьлядоўна змагацца за зьмену існуючых парадкаў і ня ў сілах знайсьці выхад са створанага становішча. Таму, яна імкнецца хоць-бы сваім дзецям даць „поўнае“ „усебакавае“, свабоднае жыцьцё. Адсюль—пратэст супроць старой буржуазнай школы, барацьба за новую школу свабоднага выхаваньня. Адсюль—тэорыя свабоднага выхаваньня і разуменьне дзіцёнка як самабытнага арганізма, у якім самой прыродай закладзены ўсе задаткі, якія здолен сам па сабе, бяз якога-б там ні было ўзьдзеяньня і ўмяшацельства, з неабходнасьцю разьвіцца і самавыхавацца.

Вось што можна і патрэбна раней за ўсё сказаць аб сутнасьці тэорыі свабоднага выхаваньня. Гэтыя папярэднія заўвагі аб сутнасьці тэорыі свабоднага выхаваньня неабходна было зрабіць для таго, каб яскравей уявіць тое агульнае, што маецца паміж гэтымі тэорыямі і што іх зрадняе. Пасьля гэтых папярэдніх заўваг пяройдзем да разгляду пытаньняў, якія зазначаюць на сувязь і ўзаемаадносіны гэтых тэорый, зазначаюць на тое становішча, што тэорыя „адміраньня школы“ ёсьць па сутнасьці дробнабуржуазная тэорыя свабоднага выхаваньня ў новых умовах і пад іншай назвай.

## Суадносіны пэдагогікі і палітыкі

Пачнем з пытаньня пра суадносіны пэдагогікі і палітыкі. Які выгляд мае гэта справа ў тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня і „левакоў“, якія стварылі тэорыю „адміраньня школы“?

У працах такіх тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня, як Гансбэрг, Шаральман, Талстой і часткова Вэнцэль, мы знаходзім выражэньне пратэсту супроць умяшацельства дзяржавы з яе палітыкай у справы школы. Яны выказваюць пратэст супроць усялякіх праграм, як сацыяльнага заказу школе з боку буржуазіі, як пануючай матэрыяльна і духоўна клясы і створанага ёй камітэту па сваіх справах—буржуазнае дзяржавы. „Замест гэтай апекі,—кажа Гансбэрг,—мы патрабуем, каб школа кіравалася радай настаўнікаў, мы не жадаем гэтага аснованага на недавер'і нагляду за намі пры дапамозе начальніка, які ўвесь час шнырыць па клясах, падглядае і падслухоўвае. Калегія з 15-20 выкладчыкаў заўсёды зможа, застаючыся ў рамках законнасьці, устанавіць свае абавязкі і правы (Гансбэрг—Пэдагогіка, стар. 155).

Але Гансбэрг падкрэсьлівае, што калегія выкладчыкаў, кіруючы школай, будзе заўсёды заставацца ў рамках законнасьці, г. зн. у рамках існуючых законаў і парадкаў, якія ўстаноўлены буржуазнай дзяржавай. Тэарэтыкі свабоднага выхаваньня патрабуюць аўтаноміі школы, бязумоўна ў рамках магчымага, патрабуюць незалежнасьці пэдагогікі ад палітыкі. Але Гансбэрг і інш. далей гэтага ня ідуць. У іх разуменьні суадносін пэдагогікі і палітыкі, апошняя не выключаецца пэдагогікай і не рашчыняецца ў ёй, як гэта мы маем у Шульгіна і К°. Па думцы Гансбэрга і інш., пэдагогіка, як навука, існуе роўналегла з палітыкай і незалежна ад яе. Палітыка і пэдагогіка,—гэта два родных браты, якія існуюць зусім самастойна і незалежна адзін ад другога. Пэдагогіка і палітыка „павінны заняць у адносінах да этыкі падпарадкаванае палажэньне, павінны набыць у гэтым сэнсе этычны характар“ (Гансбэрг.)

Няма вялікай патрэбы падрабязна спыняцца і даказваць утапічна-ідэалістычны характар такога разуменьня тэарэтыкамі свабоднага выхаваньня суадносін паміж пэдагогікай і палітыкай. Усім добра вядома, што ў руках буржуазіі, як пануючай клясы, школа заўсёды зьяўлялася і зьяўляецца „зброяй клясавага панаваньня“, зброяй прыгнечаньня працоўных мас. Буржуазія, пакуль яна пануе, матар'яльна і духоўна, ніколі і нікому не дазволіць зрабіць школу і пэдагогіку незалежнай ад свае палітыкі, ніколі ня згодзіцца выпусьціць з сваіх рук школу—гэту зброю свайго клясавага панаваньня—і бескантрольна перадаць кіраўніцтва гэтай школы, (як гэта казаў Гансбэрг) у рукі якойсьці калегіі выкладчыкаў.

У. І. Ленін зусім невыпадкова гаварыў аб тым, што „школа па-за жыцьцём, па-за палітыкай—хлусьня, ліцамер'е“. Такім чынам, усе гэтыя размовы тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня ёсьць пустыя, ні на чым не абгрунтаваныя размовы, ёсьць чысьцейшай вады ідэалізм.

Шульгін у сваёй, так званай, тэорыі „адміраньня школы“ ў пытаньні разуменьня суадносін пэдагогікі і палітыкі ідзе яшчэ далей, чым гэта мы бачылі ў тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня. Калі апошнія не адмаўляюць існаваньня палітыкі, не рашчыняюць яе ў пэдагогіцы, не замяняюць апошнюю першай, то ў т. Шульгіна атрымліваецца нешта іншае. Тав. Шульгін паняцьце пэдагогікі, як навукі аб выхаваньні дзяцей і падлеткаў, бязьмежна пашырае. Аб гэтым

яскрава сьведчаць наступныя словы самога Шульгіна: „І ў нас упяршыню пэдагогіка вырастае ў навуку аб выхаваньні ўсіх узростаў, усяго чалавецтва“. („На путях к новой школе“, № 9, стар. 15).

У другім месцы т. Шульгіна мы чытаем: „Прадмет пэдагогікі пашыраецца ня толькі ў тым сэнсе, што яна мае справу з выхаваньнем дарослага, але і ў тым, што выхаваньне гэта працякае ва ўстановах і арганізацыях, якія адной з сваіх задач, вельмі часта не рашаючай, ставяць і гэту задачу“ (Зборнік Марксыцка-ленінскай пэдагогікі, стар. 120).

І нарэшце, у трэцім месцы ў т. Шульгіна мы чытаем аб тым, што „пэдагогіка заўсёды была тонкай зброяй ў руках дзяржавы“. Пастаноўка пытаньня нібыта правільная, але тым ня менш яна патрабуе агаворкі аб тым, што пэдагогіка ніколі, ні ў аднэй дзяржаве не замяняла сабой палітыкі і заўсёды грала і грае падпарадкаваную ролю ў адносінах палітыкі. А ў т. Шульгіна ўжо ў гэтай пастаноўцы пытаньня атрымліваецца, што пэдагогіка, як зброя ў руках дзяржавы, зьяўлялася і зьяўляецца чымсьці сваеасаблівым, выключаючым сабой палітыку. Тав. Шульгін, відавочна, у Маркса і Леніна прачытаў, але мабыць нічога не зразумеў аб тым, што рабочая „дзяржава адмірае“, а калі і як адмірае рабочая дзяржава,—гэтыя пытаньні відавочна, менш ад усяго цікавілі тав. Шульгіна.

А што-ж робіцца з пэдагогікай?

На гэта пытаньне т. Шульгін адказвае такім парадкам: што па меры таго, як адмірае дзяржава, „зьмяняецца значэньне пэдагогікі, бязьмежна ўзрастае яе ўдзельная вага“. „І далей,—працягвае т. Шульгін,—„веды людзей, уменьне іх выхоўваць становіцца ў цэнтры ўсяго становіцца рашаючым“. Так прымітыўна ўяўляе сабе т. Шульгін адміраньне дзяржавы і бязьмежнае ўзрастаньне пэдагогікі.

Такім парадкам, у т. Шульгіна атрымліваецца поўнае ігнараваньне палітыкі, падмена апошняй пэдагогікай. Ён у сваіх працах зусім не ўпамінае аб палітыцы партыі і яе вядучай ролі, а ўвесь час гаворыць толькі аб пэдагогіцы, як тонкай зброі ў руках дзяржавы, гаворыць увесь час аб тым, што выхаваньне ва „ўстановах і арганізацыях“ павінна ісьці ў асноўным па лініі пэдагогікі, а не палітыкі. Такое скажонае разуменьне т. Шульгіным суадносін пэдагогікі і палітыкі, нічога агульнага ня мае з разуменьнем гэтых суадносін У. І. Леніным, які якраз папераджаў ад зьмешваньня пэдагогікі з палітыкай, і асабліва Ленін лічыў шкодным падмену палітыкі пэдагогікай.

У. І. Ленін гаварыў аб тым, што „у палітычнай дзейнасьці сацыял- дэмакратычнай партыі[1]) заўсёды ёсьць і будзе вядомы элемэнты пэдагогікі. Далей У. І. Ленін растлумачвае прызначэньне і ролю гэтага элемэнту пэдагогікі ў палітычнай дзейнасьці партыі. Па думцы У. І. Леніна гэты элемэнт пэдагогікі мае і павінен мець месца ў палітычнай дзейнасьці таму, што „патрэбна выхоўваць усю клясу наёмных рабочых да ролі барацьбітоў за вызваленьне ўсяго чалавецтва ад усялякага ўціску, патрэбна абучаць новыя і новыя пласты гэтае клясы, патрэбна ўмець падыйсьці да самых шэрых, неразьвітых, найменш закранутых і нашай навукай і навукай жыцьця прадстаўнікоў гэтай клясы, каб здолець загаварыць з імі, здолець зблізіцца з імі, здолець вытрымана і з цярплівасьцю ўзьняць іх да сацыял-дэмакратычнае сьвядомасьці, не ператвараючы наша навучаньне ў сухую догму, навучаючы яго не аднэй кніжкай, а і ўдзелам у штодзённай жыцьцёвай барацьбе гэтых самых шэрых і самых неразьвітых пластоў пралетарыяту“ (Ленінскі 5-ы зборнік, стар. 309.)

Вось як разумеў У. І. Ленін суадносіны пэдагогікі і палітыкі. У. І. Ленін, як бачыце, падкрэсьлівае, што выхаваньне рабочае клясы і ў першую чаргу выхаваньне і навучаньне ўсё новых і новых пластоў гэтае клясы зьяўляецца задачай палітыкі, у якой ёсьць пэўны элемэнт пэдагогікі.

Адначасова з гэтым У. І. Ленін падкрэсьлівае, што навучаць і выхоўваць рабочую клясу патрэбна ня толькі пры дапамозе аднэй кніжкі, а і шляхам пры-

[1]) Гутарка У. І, Леніна ідзе аб рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыі канца XIX стаг.

цягненьня „гэтых самых шэрых, самых неразьвітых пластоў пралетарыяту“ ў штодзённую жыцьцёвую барацьбу.

Нарэшце, У. І. Ленін з усёю рашучасьцю падкрэсьлівае тую акалічнасьць, што „сацыял-дэмакрат, які задачы палітыкі стаў-бы зводзіць да пэдагогікі, перастаў-бы быць сацыял-дэмакратам. Хто надумаўся-б з гэтай „пэдагогікі“ зрабіць асобны лёзунг—супроцьстаўляць яе „палітыцы“ (як гэта робіць „лявак“ т. Шульгін *Ш.*), будаваць на гэтым супроцьстаўленьні асобны напрамак, той адразу і нямінуча апусьціўся-б да дэмагогіі“ (Ленінскі 5-ы зборнік, стр. 309).

„Лявак“ Шульгін прайшоў міма ўсіх гэтых выказваньняў У. І. Леніна, іх „не заўважыў“, нізводзіў задачы палітыкі да пэдагогікі, супроцьстаўляў апошнюю палітыцы, займаўся пустымі размовамі.

„Лявак“ Шульгін зусім „запамятаваў“, што выхоўваць і навучаць дзяцей і падлеткаў не адно і тое-ж, што навучаць і выхоўваць дарослых. Што гэтыя рэчы патрабуюць якасна своеасаблівых падыходаў, мэтадаў і г. д. Гэтыя „дробязі“ якраз т. Шульгіным і К⁰ былі абмінуты, не заўважаны. У выніку імі даваліся зусім супроцьлеглыя ўстаноўкі ў адносінах да ўстановак У. І. Леніна і нашай партыі.

## Школа і яе роля

Другім пытаньнем, на якім мы хочам спыніцца, зьяўляецца—„школа і яе роля“, у асьвятленьні дробнабуржуазнай тэорыі свабоднага выхаваньня і тэорыі „адміраньня школы“.

Раней за ўсё адзначым той факт, што як у асьвятленьні тэорыі свабоднага выхаваньня, так і ў „лявацкай“ тэорыі „адміраньня школы“ разуменьне аб школе да непазнаванасьці пашыраецца. У асьвятленьні гэтых тэорый школа—гэта ня тое, што звычайна разумелася і разумеецца, як пэўнае памяшканьне, пэўнае абсталяваньне, у якой ёсьць настаўнікі, вучні і інш. У асьвятленьні гэтых тэорый у паняцьце „школа“ ўкладваецца ўсё, што хочаце. А менавіта: бібліятэка, тэатр, кіно, поле, чытальня, майстэрня, завод.

Вось як адзін з вельмі раньніх тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня Л. М. Талстой ўяўляе сабе школу: „вучань і настаўнік сустракаюцца між сабой як ім хочацца“ (Збор твораў т. IV, стар. 175). Што гэта значыць непрымусовая, нічым і нікім не рэгулюемая сустрэча між вучнем і настаўнікам? Гэта значыць, што школа як пэўнае памяшканьне з усім сваім умяшчаемым, якое знаходзіцца ў пэўным месцы і інш., па думцы Талстога, зьяўляецца не абавязковай, што такім месцам, дзе дзеці навучаюцца і выхоўваюцца, зьяўляецца тэатр, кіно, бібліятэка, поле і што хочаце.

Талстой у сваіх выказваньнях аб школе і ў сваім скажоным разуменьні школы не адзін. Цэлы шэраг іншых тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня, куды пазьней, паўтараюць у асноўным думкі Л. М. Талстога аб школе і яе ролі. Так, напрыклад, пасьля ўжо Кастрычніцкай рэвалюцыі, у 1918 годзе, на стар. 119 часопісу „Свободное Воспитание“, № 8—9, мы чытаем: „Далоў школу — маленькія, нізенькія на палову цёмныя хацінкі з плямамі вільгаці на сьценах. Далоў школу—казарму ў адзін альбо два паверхі, дзе ўсё казённа, дзе ўсё аднолькава, дзе ўсё шэра“. Здавалася-б, што пасьля ўсяго гэтага павінны ісьці лёзунгі, якія патрабуюць надзвычайна добрых школ, памяшканьняў і інш., але ня ў тым справа. Далей у гэтым-жа часопісе мы чытаем: „Далоў школу—надзвычайна добрае памяшканьне, дзе ўсё так нова, так блішчыць, дзе так шмат каштоўных, добрых рэчаў, што заўсёды палохаешся што-кольвек разьбіць! Усе яны толькі мерцьвяць дзяцей. Яны—могілкі жывых людзей. Дайце сьвятла! Дайце паветра! Дайце прасторы! І дзіцёнак будзе жыць, і працаваць, і радавацца, і тварыць.“ Такія лёзунгі выкідваліся Шацкімі, Гарбуновымі-Пасадавымі, Вентцэлямі і К⁰ у 1918 годзе. Вось гэткае іх скажонае разуменьне школы—як магілы, мерцьвячай дзяцей. Але справа 1918 годам не канчаецца. Куды пазьней т. Шульгін пераважоўвае тое, што калісьці, праўда, ня зусім яскрава, было сказана Талстым і некалькі пазьней, пасьля ўжо Кастрычніцкай рэвалюцыі, было сказана зусім выразна і яскрава Шацкім, Гарбуновым-

Пасадавым і К°. У зборніку „За марксистскую педагогику“, на стар. 25, т. Шульгін, у асноўным паўтараючы калісьці сказанае панам Талстым, Гарбуновым-Пасадавым, Шацкім і інш., гаворыць наступнае: „Ад школы, дзе праводзяць пяць-шэсьць гадзін, да новай, сваеасаблівай школы ідзе жыцьцё. А яна ёсьць кіно, газэта, бібліятэка, радыё і праца, будаўніцтва і барацьба. Вось куды ідзе працэс. Усё больш і больш будуць зьнікаць межы школы і жыцьця. У працэсе працы будуць навучацца, і навучацца будуць працуючы“.

У другім месцы т. Шульгін гаворыць аб тым, што па меры таго, як дзеці будуць усё больш і больш уцягвацца і ўрастаць у будаўніцтва, па меры гэтага „школа ўсё больш перастае быць школай, памірае як школа, і вырастае штосьці новае (напэўна—тэатр, кіно радыё і інш.—*Ш.*), нябывалае, нябачанае. Усё больш і больш дзеці навучаюцца па-за ёй: працуюць на полі, у майстэрні, на фабрыцы. Усё больш яна становіцца з месца вучобы месцам арганізацыі дзіцячай працы. Але гэта ўжо ня школа. Яе асноўная роля навучаць адпадае. Дзеці пачынаюць навучацца і навучаюцца ўсюды. А школа? Школа дапамагае ім у гэтым—і толькі. Пляную іх працу“ (На путях к новой школе, № 9, стр. 11, 1927 г.).

Усе гэтыя выняткі паказваюць, што па сутнасьці няма розьніцы ў выказваньнях паміж панам Талстым і т. Шульгіным, паміж Гарбуновым-Пасадавым, Шацкім, Вэнтцэлям—гэтымі махровымі ідэалёгамі дробнай буржуазіі ў галіне пэдагогікі і т. Шульгіным, які лічыў сябе за 100-проц. марксыстага-ленінца.

Усе яны разам паняцьце аб школе да непазнаванасьці пашыраюць, атоежсамляюць яе з тэатрам, кіно, радыё, полем, майстэрняй, заводам.

Усе яны лічаць школу, у звычайным разуменьні гэтага слова, непатрэбнай справай, нават шкоднай; зьнішчаюць усякія межы паміж школай і жыцьцём, паміж школай і іншымі культурна-асьветніцкімі ўстановамі і арганізацыямі.

Вось усё тое, што можна было сказаць і што можна аднесьці да першай часткі пытаньня аб тым, як асьвятляецца сутнасьць школы тэорыяй свабоднага выхаваньня і тэорыяй „адміраньня школы“.

Зараз скажам некалькі слоў адносна другой часткі пытаньня, аб тым, як тэорыяй свабоднага выхаваньня і антыленінскай тэорыяй „адміраньня школы“ трактуецца роля школы. Тэарэтыкі свабоднага выхаваньня (і ў гэтых адносінах не зьяўляецца выключэньнем „ лявак“ т. Шульгін,) у пытаньні аб значэньні ролі школы выходзяць з самабытнасьці, самаразьвіцьця, самавыхаваньня дзіцёнка і цэлы ігнаруючы клясавасьць выхаваньня і цэлы шэраг іншых пытаньняў. Калі прыродай у дзіцёнка ўсё закладзена, усе задаткі і дараваньні ў дзіцёнка маюцца, дык яны з неабходнасьцю самі па сабе разаўюцца. Параўноўваюць дзіцёнка з яйкам; як у яйку закладзена, гаворыць ён, усё неабходнае для таго, каб толькі пры вядомых умовах разьвівалася куранё, так і ў дзіцёнка ад прыроды закладзена ўсё неабходнае, якое само па сабе разаўецца. І роля школы такім парадкам зводзіцца да таго, што з яе боку павінна быць толькі „дапамога жыцьцёваму разьвіцьцю фізычных, разумовых і маральных сіл“ (Вэнтцэль). Другі прадстаўнік тэорыі свабоднага выхаваньня Шаральман таксама па пытаньні аб ролі школы выказваецца ў падобным дусе. Так, напрыклад, ён кажа, што „працоўная школа строга і пэўна прасьледуе толькі адну мэту: разьвіцьцё ўсіх, якія маюцца, сіл у дзіцёнка“ (Шаральман—Трудовая школа, стр. 18).

У Гансбэрга мы чытаем аб тым, што „ў такой школе (школе свабоднага выхаваньня—*Ш.*) ня будзе шмат размоў аб выкладаньні“. А чаму? На гэта пытаньне Гансбэрг адказвае вельмі проста. Ня будзе размоў аб выкладаньні таму, што гэта будзе ўжо ня школа вучобы, а школа, якая „галоўным чынам павінна даваць магчымасьць прыгожага і свабоднага пашырэньня таго, нярэдка вузкага і самотнага жыцьця, якім жывуць гарадзкія дзеці ў цесных і брудных рабочых вуліцах, у малюсенькіх душных кватэрах, пры гэтым пад наглядам дарослага, які будзе ня столькі іх настаў-

нікам, колькі больш вопытным таварышом і абаронцай“ (Гансбэрг—Пэдагогіка, стар. 13).

У другім месцы Гансбэрг тое-ж самае падкрэсьлівае, што ў „новай“ школе свабоднага выхаваньня ня будзе і гутаркі аб выкладаньні, таму што ў гэтай школе „дзецям прадастаўляюцца самыя разнастайныя выпадкі праяўляць сябе, рухацца, гуляць і працаваць—пры тым-жа тую работу, якая ім падабаецца, тут дзеці гуляючы, павольна, але пэўна высьпяваюць у чалавека, для якога праца—сэнс і радасьць жыцьця“ (Гансбэрг—Пэдагогіка, стар. 13). Як бачыце, справа ідзе не аб адукацыі і выхаваньні, а толькі аб гульні і працы дзяцей, пры гэтым той, працы, якая імі самымі ўжываецца, якая ім самым падабаецца. Значыцца, па думцы Гансбэрга, толькі ў працэсе гэтай гульні і працы дзеці могуць, праўда павольна, але затое пэўна высьпяваць. З гэтай няправільнай ўстаноўкі, ідэалізуючай дзіцёнка, ігнаруючай веды, асновы навук, робіцца зусім няправільны вывад аб ролі школы, якая зводзіцца ў асноўным да таго, каб тэхнічна абслужыць дзіцёнка, стварыць пэўныя ўмовы для разьвіцьця самабытнага арганізму дзіцёнка, забясьпечыць падручнікамі, навучальнымі дапаможнікамі і г. д. Асноўная функцыя школы—навучаць, у трактоўцы Гансбэрга і інш. тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня, такім парадкам, адпадае.

Гэтыя выказваньні тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня ільлюць ваду на млын буйнай буржуазіі эпохі імпэрыялізму, якая зараз,—хоць і па іншых матывах,—адмаўляецца ад прадастаўленьня ведаў дзецям рабочае клясы і дзецям наогул працоўных, адмаўляцца ад інтэлектуальнага выхаваньня на карысьць выхаваньня характару, на карысьць муштры пэўных органаў у пэўных вузкіх кірунках.

Робіць гэта буржуазія эпохі імпэрыялізму таму, каб выхаваць абмежаваных, але пакорлівых і паслухмяных паслугачоў буржуазіі, якія маўкліва пераносяць усе цяжкасьці і нягоды капіталістычнай эксплёатацыі.

Усе гэтыя выказваньні Гансбэрга, Шаральмана, Вэнтцэля і інш., жыва нам напамінаюць выказваньні „левакоў“ тав. Шульгіна і інш. аб ролі школы ў эпоху дыктатуры пралетарыяту. Напамінаюць выказваньні аб тым, што школа ўсё больш і больш перастае быць школай, памірае як школа, што яна ўсё больш і больш становіцца з месца вучобы, месцам толькі арганізацыі дзіцячай работы, што „яе асноўная роля—навучаць адпадае“ (Шульгін); што дзеці самі па сабе заўсёды і ўсюды навучаюцца ў працэсе барацьбы і будаўніцтва, і што роля школы, такім парадкам, — гаворыць Шульгін і нізводзіцца да таго, каб ім, дзецям, толькі дапамагаць у гэтым самавыхаваньні, саманавучаньні і нарэшце, плянаваць іх работу.

Такое разуменьне т. Шульгіным і К° ролі школы нічога агульнага ня мае з тым, што гаварыў аб ролі школы У. І. Ленін, з тым, што гаворыцца ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, ад 5-га верасьня 1931 году,—дзе падкрэсьліваецца „узрастаючае значэньне і роля школы ў сацыялістычным будаўніцтве, падкрэсьліваецца неабходнасьць рашучага ўзмацненьня ўвагі масавай школе, працы настаўніка і ўмацаваньня штодзённага канкрэтнага кіраўніцтва школай“ (З пастановы ЦК УсеКП(б)).

## Настаўнік і яго роля

Агульнасьць установак у асьвятленьні тэорыі свабоднага выхаваньня і тэорыі „адміраньня школы“ мы можам прасачыць і на такім пытаньні, як настаўнік, яго роля і ўзаемаадносіны паміж настаўнікам і вучнем. Як першая, так і другая тэорыя ў пытаньні аб ролі настаўніка і ўстанаўленьні пэўных узаемаадносін паміж ім і вучнем выходзяць з той-жа зусім няправільнай пазыцыі, з якой яны выходзілі пры азначэньні ролі школы. Тэарэтыкі свабоднага выхаваньня, як і т. Шульгін, разважаюць такім, парадкам, што, паколькі дзіцёнак самабытны, самавыхоўваецца, самаразьвіваецца і саманавучаецца, пастолькі роля настаўніка нікчэмна і проста. Роля настаўніка нізводзіцца да тэхнічнага абслугоўваньня, да дапамогі гэтаму „самавыхоўваючамуся“, „самаразьвіваючамуся“ „у самым сабе“ дзі-

цёнку. А паколькі гэта так, дык гэту тэхнічную функцыю настаўніка,—ужо заключаюць тэарэтыкі свабоднага выхаваньня і т. Шульгін, з посьпехам можа выканаць кожны іншы дарослы, ужо высьпеўшы чалавек, кім-бы ён ні быў і чым-бы ён ні займаўся. Ён заўсёды зможа ў працэсе свае работы, між іншым, заняцца і пытаньнямі тэхнічнага абслугоўваньня дзяцей, якія самавыхоўваюцца і саманавучаюцца. У падрыхтоўцы спэцыялістых-настаўнікаў няма ніякай патрэбы. Л. М. Талстой у свой час нават матэматычна даводзіў, якая вялізарная эканомія атрымаецца дзяржаўных сродкаў у выніку адмаўленьня ад падрыхтоўкі настаўнікаў-спэцыялістых, у выніку таго, калі пытаньнямі народнае адукацыі будуць займацца ўсе патрошку і ніхто спэцыяльна.

Каб давесьці тое, што мы вышэй сказалі, прывядзем шэраг выказваньняў як тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня, так і выказваньняў „лявака“ т. Шульгіна. „Разумець сэнс дзіцячых жаданьняў, прадбачыць іх патрэбу, прапаноўваць матар'ял для дзейнасьці і дапамагаць іхным намаганьням“,—вось да чаго нізводзіцца і як разумеецца роля настаўніка нейкім Эсьлендарам, які супрацоўнічаў у часопісе „Свободное Воспитание“ яшчэ да рэвалюцыі.

„Дапамагчы маладой душы свабодна высьпець і нарадзіцца для свабоднага самадзейнага жыцьця“—гэткая роля настаўніка ў разуменьні нейкага Вэнтцэля. Настаўнік сапраўдны раней за ўсё не „настаўнік“, а звычайны жывы чалавек, удумлівы, адзыўчывы, вясёлы, які любіць дзяцей, які верыць у дзяцей, у школу, у жыцьцё... „Каб не перашкаджаць росту і разьвіцьцю дзяцей, каб наглядаць за імі і дапамагаць ім, патрэбна быць жывым чалавекам і добрасумленна працаваць. Больш нічога не патрэбна. Няхай настаўнік будзе чалавек, толькі жывы чалавек“...„Свабодна дзіцё разьвіваецца і расьце. Накіруйце ўсю ўвагу на гэты рост і разьвіцьцё, на здольнасьці і інтарэсы дзіцёнка“. Падобныя выказваньні мы чытаем на стар. 120 часопісу «Свободное Воспитание». „Непрымусовыя, вольныя зносіны між вучнямі і настаўнікамі. Настаўнік павінен быць для дзіцёнка не аўтарытэтам, але добрым таварышом яго, які-б падзяляў з ім усе турботы і гора: зацікаўленасьць з боку настаўніка да ўсяго, што абуджае зацікаўленасьць у дзіцёнка. Такі погляд Шаральмана, дадзены ім у „Трудавой школе“ на стар. 29. Паміж гэтымі выказваньнямі аб ролі настаўніка і выказваньнямі т. Шульгіна няма ніякай прынцыповай розьніцы. Так, напрыклад, у Шульгіна мы чытаем: „Школа ізноў разглядаецца—як школа вучобы і настаўнік—як настаўнік, а не як памочнік дзяцей у арганізацыі іх самавыхаваньня і навучаньня“(зборнік „За марксисцко-ленинскую педагогику“ стр. 30). У другім месцы т. Шульгін кажа аб тым, што „дзіцёнак як бы вырас. Ён з дарослымі просты. Просты з ім настаўнік. Цяпер яны будуюць агульную справу і прабіраюць адзін аднаго у газэтах, ў сваіх газэтах. І той і другі пішуць ў газэтах фабрыкі“. І далей у т. Шульгіна мы чытаем аб тым, што „памірае і настаўнік, стары настаўнік як ён быў“. А што-ж робяць пасьля гэтага дзеці? На гэта пытаньне т. Шульгін адказвае: „З аднае вытворчасьці ў другую пераходзяць дзеці, і яны не гастралёры, ня экскурсанты, ня лодыры. Яны практычныя працаўнікі і разам з тым вучні. І з імі там працуе спэцыялісты дадзенай катэгоры працы. Ён разам з тым і пэдагог“ (На путях к новой школе, №9, стр. 11, за 1927 г.). Нам здаецца, што няма патрэбы ў якіх-небудзь спэцыяльных кам'энтарыях. Бязглуздасьць і несамастойнасьць усіх гэтых поглядаў, іх ідэалістычны характар, відавочны сам па сабе для ўсякага, які хоць трошку разьбіраецца ў пытаньнях марксыцка-ленінскай пэдагогікі.

Асобна мы павінны адзначыць і падкрэсьліць шкоднасьць установак тав. Шульгіна для савецкай палітэхнічнай школы, якія ня толькі не даацэньваюць ролю настаўніка, але зусім ігнаруюць апошняга“ атаежсамляюць са спэцыялістым любой спэцыяльнасці, якія ставяць яго ў адзін ранг з вучнямі. Усе гэтыя выказваньні т. Шульгіна аб ролі настаўніка нічога агульнага ня маюць з выказваньнямі У. І. Леніна, які неаднократна казаў і падкрэсьліваў, што пры дыктатуры пралетарыяту настаўнік павінен быць пастаўлен на такую вышыню, на якой ён

ніколі не стаяў і ня мог стаяць пры капіталізьме. Тав. Шульгін гэтыя ўстаноўкі У. І. Леніна аб ролі настаўніка ў савецкай школе палічыў патрэбным зусім абыйсьці маўчаньнем, іх „не заўважыць“, супрацьпаставіць свае, антыленінскія, шкодныя ўстаноўкі, якія зьніжаюць ролю школы і ролю настаўніка.

## Аб прынцыпах арганізацыі дзяцей

Па гэтым пытаньні ў тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня, а таксама і ў т. Шульгіна і Крупенінай тое-ж самае няма прынцыповых разыходзін. Так, напрыклад, прадстаўнік тэорыі свабоднага выхаваньня Вэнтцэль па гэтым пытаньні гаворыць наступнае: „Падзел на групы адпадае—групуюцца дзеці „натуральна“ па супаданьні аднародных мэт“. Яму дапамагае, паўтарае яго думку, прадстаўніца антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“, супрацоўніца т. Шульгіна, т. Крупеніна. Яна кажа вось што: „Ці патрэбна захоўваць школьныя групы, дзе дзеці групуюцца па адзнаках узросту і больш альбо менш аднолькавай адукацыйнай падрыхтоўцы, альбо можна і патрэбна стаць на шлях зусім іншых прынцыпаў групоўкі, прынцыпаў арганізацыі? Ці нерацыянальней было-б групаваць іх па прынцыпе супольнай працы ў пэўных відах грамадзкай працы і вытворчасьці?“ (Зборнік пэдагогікі пераходнай эпохі, стр. 28).

Розьніца, як бачыце, у выказваньнях Вэнтцэля і Крупенінай ёсьць. Яна заключаецца ў тым, што Вэнтцэль у катэгарычнай форме адмаўляе прынцып падзелу школьнікаў па групах з улікам узросных асаблівасьцяй, катэгарычна адмаўляе прынцып падзелу школьнікаў ў залежнасьці ад іх аднолькавай адукацыйнай падрыхтоўкі. Тав. Крупеніна гэтыя прынцыпы падвяргае сумненьню, падкрэсьліваючы адначасова з гэтым рацыянальнасьць прынцыпа арганізацыі дзяцей у залежнасьці ад іх супольнай працы.

Тав. Шульгін і асабліва тав. Рывіс у гэтым пытаньні, як вядома, пайшлі куды далей, чым тав. Крупеніна. Усім добра вядома, што т. Рывіс актыўна ў многіх сваіх працах абараняў шкодны для школы прынцып, па сутнасьці прынцып Вэнтцэля, прынцып арганізацыі так званых зьмешаных, скразных брыгад, адкідаючы зусім узростныя асаблівасьці і ступень падрыхтаванасьці, ступень разьвіцьця дзяцей. Аб шкоднасьці так званых скразных брыгад для справы выхаваньня і адукацыі ў друку гаварылася ўжо шмат. І ўсім добра вядома, да чаго такая арганізацыя дзяцей вяла. Яна вяла да зьніжэньня агульна-адукацыйных ведаў, да нікчэмнасьці гэтых ведаў, да таго, што веды дзецям даваліся бяз усялякай сыстэмы ў працэсе агульна-вытворчае працы дзяцей і на яе аснове. На практыцы, арганізацыя скразных брыгад у спалучэньні з іншымі фактарамі, стварылі ў школе той асноўны, карэнны недахоп, які адзначаны ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе. Сутнасьць гэтага недахопу заключаецца ў тым, што „навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшых школ зусім пісьменных людзей, якія-б добра ўладалі асновамі навук“ (фізыка, хэмія, матэматыка, родная мова, геаграфія і інш) (З пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе).

## Мэтадалёгічныя асновы і сацыяльныя карэньні тэорыі свабоднага выхаваньня і антыленінскай тэорыі „адміраньня школы“

### а) Сацыяльныя карэньні гэтых тэорый

Думаю, што асноўны тэзіс, які фармуляваны ў пачатку артыкулу па шэрагу асноўных пытаньняў, на якіх мы спыняліся, нам удалося, праўда, вельмі коратка, але ўсё-ж даказаць. Думаю, нам удалося паказаць, што прынцыповай розьніцы паміж гэтымі тэорыямі няма. Больш таго. Я думаю, што са ўсяго сказанага з відавочнасьцю выцякае тая акалічнасьць, што тэорыя „адміраньня школы“ мае сваёй базай якраз дробна-буржуазную тэорыю свабоднага выхаваньня, паколькі яна гістарычна апераздзіла тэорыю „адміраньня школы“.

Мы ў дадзеным выпадку маем узор таго, як „лявак“ Шульгін і К°, зьяўляючыся рупарам, ідэолёгам дробнай бур-

жуазіі ў СССР, някрытычна ўспрымаў буржуазную і дробна-буржуазную спадчыну ў галіне пэдагогікі і пераносіў яе ў савецкую школу,-выдаючы яе за марксыцкую тэорыю, наносячы пэўную шкоду нашай школе і рабочай клясе.

Паколькі мы казалі і фактычна гэта давялі, што прынцыповай розьніцы паміж тэорыяй свабоднага выхаваньня і тэорыяй „адміраньня школы“ няма, дык, значыцца, мы павінны шукаць і аднолькавай сацыяльнай базы гэтых тэорый. Мы ўжо вышэй казалі, што сацыяльнай базай тэорыі свабоднага выхаваньня зьяўляецца дробная буржуазія, гэта хісцкая, няўстойлівая, клясавая групоўка ва ўмовах капіталістычнае грамады. Значыцца, сацыяльнай базай у тэорыі „адміраньня школы“ зьяўляецца дробная буржуазія, меўшая іх яшчэ якая мае месца ў СССР. І што, такім парадкам „левакі“ Шульгін і К⁰ зьяўляюцца ідэолёгамі гэтай буржуазіі ў галіне пэдагогікі. Яны аб'ектыўна адабразілі ў пэдагогіцы спадзяваньні гэтай дробнай буржуазіі, жадалі яны гэтага, ці не жадалі.

Дробнабуржуазнасьць тэй і другой тэорыі нам стане асабліва яснай, калі мы прасочым шлях гістарычнага разьвіцьця тэорыі свабоднага выхаваньня, якая на пэўным этапе перарасла ў так званую тэорыю „адміраньня школы“.

Шмат каму, мабыць, добра вядома тое, што да рэвалюцыі ў царскай Расіі тэорыя свабоднага выхаваньня не знайшла свайго шырокага практычнага ўжываньня і распаўсюджваньня, калі ня лічыць асобных спроб (якія не ўдаліся) з боку некаторых асоб. Размоў, зразумела, аб свабодным выхаваньні было дужа багата, як ў Расіі, так і ў Заходняй Эўропе і ПАЗШ.

Пасьля рэвалюцыі мы маем вялікае ажыўленьне дзейнасьці тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня. У 1918 годзе выдаецца спэцыяльны часопіс „Свободное Воспитание“. Рэдактарам гэтага часопісу зьяўляецца нейкі рэакцыянэр Гарбуноў-Пасадаў. Актыўна супрацоўнічаюць у гэтым часопісе Вэнтцэль, Шацкі, Эсьлендар, Шульгін У. Н. і цэлы шэраг іншых. Палітыка, якая вялася гэтым часопісам у галіне народнае асьветы, цалкам і поўнасьцю адабралася Наркамасьветы РСФСР, часопіс сыстэматычна атрымліваў вялікую субсыдыю. На старонках яго разьвівалася і шырака прапагандавалася тэорыя свабоднага выхаваньня, выдавалася за марксыцкую тэорыю.

Шмат хто з пералічаных, на старонках часопісу „Свободное Воспитание“, дагаварваюцца проста да контр-рэвалюцыйных поглядаў, да таго, што школа і выхаваньне ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту павінны стаяць па-за клясай, па-за палітыкай.

Вось, напрыклад, вельмі характэрная думка для дробнага буржуа, якая выказана ў 1918 годзе т. Шацкім: „Тое, што адбываецца вакол, нас уціскае, мы так адчуваем цяжкасьць усяго творачага, што ня можам вызваліцца ад гэтага становішча. Сярод усяго гэтага мроку, які нас абкружае, ёсьць адна сьветлая кропка і гэта сьветлая кропка—дзеці“. („Свободное Воспитание“, № 8-9 за 1918 г., стр. 62).

Пралетарская рэвалюцыя для Шацкага—мрок, яна яго ўціскае, зьяўляецца для яго нейкай цяжкасьцю, вакол беспрасьветная цемра. Па думцы Шацкага, застаецца адна чыстая, сьветлая кропка, не закранутая, мабыць, рэвалюцыяй—гэта дзеці, якіх патрэбна выхоўваць „свабоднымі“.

Яшчэ больш рэакцыйныя думкі выказаў ў 1918 г. Гарбуноў-Пасадаў. Апошні гаворыць наступнае: „Так званыя буржуазныя, уласьніцкія колы стварылі сваю клясавую школу, школу белaручак, пагарджаўшых „чорнай“, ручной працай. Цяпер высоўваецца іншае клясавае пачынаньне—стварэньне спэцыяльна пралетарскай школы. Тое і іншае-пэдагагічная памылка“ (Гарбуноў-Пасадаў, часопіс „Свободное Воспитание“, стр. 14, № 8-9, за 1918 г.).

Згодна Гарбунова-Пасадава выходзіць, што хоць гэта і было пэдагагічнай памылкай, але тым ня менш буржуазія мела сваю клясавую школу. Пралетарыяту, які перамог у Кастрычніцкую рэвалюцыю, Гарбуноў-Пасадаў ня раіць ствараць сваю пралетарскую клясавую школу, каб не паўтарыць тую-ж пэдагагічную памылку, якая, значыцца, была

зроблена і якую робіць буржуазія. Парада рабочай клясе „добрая“—няма чаго і казаць. Калі чытаеш гэтыя мясьціны ў Гарбунова-Пасадава, дык мімавольна напамінаецца прыказка аб тым, што „услужливый дурак опаснее врага“. Але тут справа бязумоўна ня ў гэтым, справа не ў „паслузе“, справа заключаецца ў рэакцыйнасьці і дробна-буржуазнасьці прыроды Гарбунова-Пасадава і інш. Справа заключаецца ў тым, што Гарбуноў-Пасадаў у сваіх пэдагагічных выказваньнях адабражаў інтарэсы і пажаданьні дробнай буржуазіі, фактычна прыкрываючыся разважаньнем аб бясклясавасьці школы і выхаваньня.

Гарбуноў-Пасадаў, у гэтым разе, не разумее альбо не жадае зразумець таго, што ў клясавай грамадзе школа і выхаваньне ня можа быць апалітычнай, зьяўляцца арганізацыяй, якая стаяла-б над клясамі; не разумее таго, што школа ў клясавой грамадзе зьяўляецца зброяй у руках пануючай матар'яльна, а значыцца і духоўна клясы. Гарбуноў-Пасадаў, нарэшце, не разумее таго, што школа толькі пры дыктатуры пралетарыяту „са зброі клясавага панаваньня буржуазіі ператвараецца ў зброю поўнага зьнішчэньня падзелу грамады на клясы, у зброю камуністычнага перараджэньня грамады“ (з праграмы УсеКП(б)); што школа, такім парадкам, зьяўляецца не надклясавай арганізацыяй, а менавіта клясавай арганізацыяй, зброяй у руках пралетарыяту, які будуе сацыялізм у СССР. Гэтага якраз асноўнага Гарбуноў-Пасадаў, зьяўляючыся па сваёй прыродзе дробным буржуа, не зразумеў, і ня здольны быў зразумець.

Такая вось ажыўленая дзейнасьць теарэтыкаў свабоднага выхаваньня, пры добраспрыяльных паблажках з боку Наркамасьветы, працягвалася да 1922 г. 1922 год зьяўляецца пераломным годам. Пасьля 1922 году ў дзейнасьці тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня мы наглядаем некаторае зацішша. Гэта зацішша, мабыць, магчыма тлумачыць двума прычынамі. Па-першае, некаторымі зьменамі ў кіруючых працаўнікох наркамасьветы і, па-другое, увядзеньнем у школах комплекснай сыстэмы выкладаньня. Такое становішча працягвалася да 1928 году. У 1928г., у зьвязку з абвастрэньнем клясавай барацьбы, дзейнасьць працягвацеляў справы тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня, так званых „левакоў“, на чале з т. Шульгіным, ажыўляецца на новай аснове пад лёзунгам барацьбы з правым апартунізмам у пэдагогіцы. Адначасова з гэтым, „левакі“, выконваючы сацыяльны заказ дробнай буржуазіі ў галіне пэдагогікі, працягваюць справу тэарэтыкаў свабоднага выхаваньня, пераносяць някрытычна іх устаноўкі ў савецкую школу, ствараючы паступова, жадаючы гэтага, ці не жадаючы, тое, што завецца тэорыяй „адміраньня школы“, якая вядзе да разбурэньня школы. Але барацьба гэта вядзецца з няправільных мэтадалёгічных пазыцый, мэталёгічных пазыцый меншавіствуючага ідэалізму.

### б) Мэтадалёгічныя асновы тэорыі „адміраньня школы“

Мэтадалёгічным абгрунтаваньнем тэорыі „адміраньня школы“ зьяўляецца меншавіствуючы ідэалізм. Сутнасьць меншавіствуючага ідэалізму заключаецца ў адрыве філёзофіі дыялектычнага матар'ялізму ад грамадзкай практыкі, ад палітыкі нашай партыі,—у стварэньні тым самым, дыялектыкі пустых паняцьцяў, катэгорый, пазбаўленых зьместу. А пустыя паняцьці ёсьць, ня што іншае, як ідэалістычная гульня ў ідэі, матэрыі. Сутнасьць меншавіствуючага ідэалізму складаецца, нарэшце, у стварэньні пустых абстракцый, руху, самаразьвіц..я грамады, клясы, не папаўняючы іх палітычным зьместам пралетарскай рэвалюцыі і клясавай барацьбы.

Меншавіствуючы ідэалізм ёсьць някрытычнае засваеньне буржуазнае спадчыны, гегельянства, падмена апошнім Маркса, недаацэнка ленінскага этапу ў філёзофіі.—Гэта, што тычыцца сутнасьці мэтадалёгіі меншавіствуючага ідэалізму. А зараз толькі некалькі слоў аб саміх, жывых людзях, меншавіствуючых ідэалістых.

Вельмі яркую і яскравую характарыстыку меншавіствуючых ідэалістых мы знаходзім у У. І. Леніна. У. І. Ленін іх характарызуе наступным парадкам: „у іх

П. Панкевіч

## Аб зьмесьце сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў школах БССР

Зьмест сацспаборніцтва і ўдарніцтва мае сваё адабражэньне ў сацумовах. Над якімі пытаньнямі павінны канцэнтраваць сваю ўвагу школы пры ўступленьні ў сацспаборніцтва? Асноўным важнейшым момантам у працы школ зьяўляецца барацьба за ажыцьцяўленьне пастановы ЦК Усе КП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе. На жаль, ня ўсе школы паклалі ў аснову сацумоў гэтую пастанову. Ёсьць школы, якія зусім і ня кажуць аб ёй. Гэта сьведчыць аб тым, што некаторыя школы не перабудавалі цалкам сваёй працы ў напрамку ажыцьцяўленьня партыйных дырэктыў аб школе на працягу 1931—32 навучальнага году. Задачы сацспаборніцтва і ўдарніцтва звычайна фармулююцца ў прадмове сацўмовы. Ёсьць школы, якія ня маюць гэтых прадмоў, напрыклад,—Слуцкая 1-я ШКМ, школа камуны БВА, Дузебнецкая школа, Шылавіцкая, Горацкая руская школа і г. д. Некаторыя школы ўступную частку сацумоў падаюць ў расьцягнутай і расплыўчатай форме, дзякуючы чаму нявыразна выступае асноўная ўстаноўка сацспаборніцтва. Напрыклад, дагавор паміж Парыцкай ШКМ і камбінатам імя Дзяржынскага мае наступную прадмову:

„Мы, школьны калектыў Парыцкай ШКМ Бел. неразрыўная частка ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва краіны саветаў, у момант абвостранай клясавай барацьбы, у момант завяршэньня ліквідацыі апошніх карэньняў клясы кулацтва, у момант завяршэньня пабудовы сацыялістычнай эканомікі нашай гаспадаркі ня можам стаяць у баку ад гіганцкага будаўніцтва. У сучасны момант, калі ўвесь гнілы капіталістычны сьвет перажывае глыбокі фінансавы эканамічны крызіс, калі ў краінах капіталу адбываецца нябывалы рост беспрацоўя, калі голад, холад усё больш акутвае працоўныя масы, калі гэты крывавы буржуазны лад стаў на адкрыты шлях фашызацыі, калі рабочыя замест хлеба і працы, атрымоўваюць ад крыважаднага фашызму карцэры, напоўненыя вадою, 10 год катаржных прац, пажыцьцёвае турэмнае заключэньне, вольхарэзінавыя дубінкі і г. д. і г. д.—у гэты самы момант з кожным днём паглыбляецца кантраст паміж Савецкай краінай і сусьветным гнілым капіталізмам. Бязумоўна, у гэтай гераічнай барацьбе вялікую ролю грае працоўная моладзь, яе авангард—ленінскі камсамол, які заўседы стаяў і стаіць на перадавой пазыцыі гістарычнай клясавай барацьбы. Такія абставіны вымушаюць капіталістычны сьвет шукаць выхаду, і нам вядома, што ён гэты выхад знаходзіць у крыві працоўнага чалавецтва. Прымаючы гэта пад увагу, наша сацыялістычная бацькаўшчына павышае тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва. Уся працоўная сям"я краіны саветаў аддае сваю энэргію, падвышае свой энтузыязм на выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, на ўзмацненьне сталых шэрагаў пралетарыяту, на ліквідацыю прарываў дырэктыў партыі і савецкай улады. Пагэтаму, мы школьны калектыў, як неразрыўная частка сацыялістычнага будаўніцтва краіны саветаў, змагаючыся за лепшае выкананьне і перавыкананьне дырэктыў партыі і савецкай улады, выклікаем вас, Парыцкі камбінат імя Дзяржынскага, на сацспаборніцтва".

Мы наўмысна падаем гэтую працяглую вынятку, каб паказаць, як нельга пісаць уступную частку сацумовы. Перш за ўсё тут сустракаюцца блытаныя фармулёўкі. Напрыклад, аўтары сацумовы пішуць, быццам наша сацыялістычная бацькаўшчына павышае тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва толькі таму, што капіталістычны сьвет знаходзіць сабе выхад з эканамічнага крызісу ў крыві працоўнага чалавецтва. Зразумела, гэтая фармулёўка недапушчальна ў дакуманце школы. Далей, у дагавары сказана аб тым, што з кожным днём павялічваецца кантраст „паміж Савецкай краінай і суcьветным гнілым капіталізмам“. А ў чым менавіта выражаецца гэты кантраст— дагавор аб гэтым ня кажа ні слова. Адсюль нявыразнасьць самой устаноўкі. Дагавор не падкрэсьлівае, якія задачы стаяць перад школай на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва; і незразумела, чаму змоўчвае аб неабходнасьці змагацца за ажыццяўленьне пастановы ЦК партыі аб школе. Асноўная задача не адбілася ў дагаворы, а замест гэтага наварочана шмат, хаця-б і рэвалюцыйных, слоў, якія ў дадзеным выпадку ня могуць дапамагчы школе правільна праводзіць у жыцьцё партыйныя дырэктывы. Больш акрэсьлена фармулюцца задачы ў сацумове Каменскай беларускай ШКМ, дзе сказана наступнае: „Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі рабочая кляса ў цеснай сувязі з працоўнымі масамі сялянства будуе ў нашай краіне сацыялізм і вядзе рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты вёскі і гораду, ажыцьцяўляючы лёзунг ліквідацыі кулацтва на базе суцэльнай калектывізацыі і выкананьня вялікага сацбудаўніцтва не ў 5 гадоў, а ў 4 гады. Мы, піянэры і вучні Каменскай беларускай ШКМ, усьвядоміўшы неабходнасьць шпаркіх тэмпаў будаўніцтва сацыялізму і перабудовы школы ў сапраўдную кузьню камуністычнага выхаваньня—ў школу палітэхнічную з ужываньнем сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, выклікаем піянэраў і вучняў Весялоўскай ШКМ на сацыялістычнае спаборніцтва“. Тут ужо няма такіх надумак, высокапарных слоў, як мы гэта назіраем у сацумове Парыцкай ШКМ.

Сацумова Каменскай беларускай ШКМ коратка і выразна абгрунтоўвае неабходнасьць сацспаборніцтва. Але тут, як і ў Парыцкай школе, ні слова ня сказана аб тым, што зараз асноўнай задачай школьнага будаўніцтва зьяўляецца правядзеньне ў жыцьцё пастановы ЦК партыі аб школе. Гэтыя два прыклады з Парыцкай і Каменскай школамі прымушаюць нас зрабіць вывад, што некаторыя школы БССР у 1931-32 навучальным годзе не пераключыліся цалкам на рэйкі выкананьня пастановы ЦК партыі, што вучні не заўсёды праводзілі належную барацьбу за аўладаньне „асновамі навукі“. Ёсьць школы, у якіх скажаюцца нашы асноўныя ўстаноўкі, і ў сацумове В—Зіменскай ШКМ, Быхаўскага раёну, мы чытаем: „ ШКМ павінна разрашыць праблему падрыхтоўкі для калгасаў кадраў масавай кваліфікацыі. Яна зможа выканаць яе толькі ў тых выпадках, калі зробіцца сапраўднай палітэхнічнай школай. Перабудова ШКМ у палітэхнічную школу будзе ў першую чаргу залежаць ад таго, наколькі калгасныя, грамадзкія і партыйныя арганізацыі дапамогуць ёй арганічна ўрасьці ў калгасна-сацыялістычнае будаўніцтва вёскі“. Гэтая фармулёўка нясе на сабе пячатку „лявацкіх“ загібаў. Аўтары сацумовы ставяць перад ШКМ задачу падрыхтоўкі кадраў для калгасаў. І менавіта ў гэтым яны бачаць сутнасьць палітэхнізацыі школы. А гэта якраз няправільна. Палітэхнічная школа ня рыхтуе кадры ні для калгасаў, ні для саўгасаў, ні для фабрычных прадпрыемстваў. Калі-б мы сапраўды паставілі перад палітэхнічнай школай задачу падрыхтоўкі кадраў для тых прадпрыемстваў, саўгасаў і калгасаў, да якіх яна прымацавана, мы няўхільна сталі-б на шлях прафэсійна-тэхнічнай асьветы. Паколькі ШКМ ёсьць не прафэсійна-тэхнічная школа, а палітэхнічная, яна ня можа рыхтаваць кадры для калгасаў. На жаль, В—Зімінская ШКМ гэта не разумее і, дзякуючы, гэтаму, дапусьціла ў сацумове „лева“-апартуністычную фармулёўку. Таксама няўдала сфармулявана думка аб тым,—быццам ШКМ павінна „ўрасьці ў калгасна сацыялістычнае будаўніцтва вёскі“. І тут мы маем „лявацкі“ рэцыдыў. Асабліва яскра-

ва „лева“ — апартуністычная сутнасьць такой устаноўкі выступае ў канкрэтнай частцы сацумовы, дзе перапічваюцца практычныя мерапрыемствы, якія павінна ажыцьцявіць школа. У параграфе 6-м гэтай умовы падкрэсьліваюцца наступныя абавязкі школы: „Актыўна ўдзельнічаць у выкананьні вытворчага пляну калгасаў і ў пераводзе яго на вышэйшую ступень, у барацьбе з прагуламі, п'янствам, за ўдзел ШКМ ва ўсіх палітычна-гаспадарчых кампаніях, за падвышэньне ўраджайнасьці, за правільную арганізацыю працы ў калгасе і правільнае разьмеркаваньне ўраджаю на 1931 год“. Зразумела, палітэхнічная школа павінна праводзіць вытворчую і грамадзкую працу. Але гэтая вытворчая і грамадзкая праца дзяцей павінна быць падпарадкавана навучальна-выхаваўчым задачам школы. Неабходна было-б гэтую ўстаноўку падкрэсьліць у сацумове з поўнай выразнасьцю. Школа не зрабіла гэтага, і ў рэзультаце атрымалася „лявацкая“ фармулёўка. Асабліва недапушчальна высоўваць задачу перад палітэхнічнай школай актыўна ўдзельнічаць у выкананьні вытворчага пляну калгасу. Відавочна, аўтары сацумовы атоеж-самляюць фармулёўку „арганічна ўрасьці у калгасна сацыялістычнае будаўніцтва вёскі“ з выразам „актыўна ўдзельнічаць у выкананьні вытворчага пляну калгасаў“. А гэта апошняя фармулёўка ёсьць рознастайнасьць „лявацкага“ лёзунгу „уключыць школу ў прамфінплян прадпрыемства“, што значыць, другімі словамі, падпарадкаваць вучобу вытворчай працы вучняў на прадпрыемстве.

Тут мы маем адлюстраваньне тэорыі „адміраньня школы“. З паказаным „лявацкім“ рэцыдывам неабходна неадкладна пакончыць і выправіць лінію В.-Зімінскай ШКМ у напрамку ажыцьцяўленьня пастановы ЦК партыі аб школе.

Нельга прызнаць здавальняючай і фармулёўку некаторых пунктаў сацумовы Убаркаўскай ШКМ, Лоеўскага раёну. Пункт 5-ты гэтай сацумовы гаворыць: „Павесьці рашучае змаганьне за палітэхнізацыю школы, за адмову ад слоўных мэтадаў выкладаньня, за ўнядрэньне ў яе працу актыўных дасьледчых мэтадаў, для чаго школа ўключаецца ў адзіны плян калгасу, будуючы сваю вытворчую працу на вытворчасьці калгасу на падставе ўтворанай з ім умовы“. Патрабаваньне ўключыць школу ў адзіны плян калгасу і не сказаць, што вытворчая і грамадзкая праца вучняў павінна быць падпарадкавана навучальна-выхаваўчым задачам школы, зьяўляецца „лева“-апартуністычнай устаноўкай. Тое-ж самае мы бачым і ў Бялынкавіцкй ШКМ. Тут у сацумове напісана: „Усю акадэмічна-вытворчую працу школы накіраваць па шляху клясавага, інтэрнацыянальнага, антырылігійнага, камуністычнага выхаваньня, перавёўшы ўсю акадэмічную працу на актыўныя мэтады працы (лябараторна-дасьледчы мэтад), сьцісла ўвязваючы тэарытычныя веды з практыкай на вытворчасьці (калгас) на аснове заключанай умовы“. На першы погляд здаецца, што гэта фармулёўка зьяўляецца вытрыманай, бо тут выразна падкрэсьліваецца ўстаноўка на камуністычнае выхаваньне. Сапраўды-ж пры ўважлівым падыходзе да аналізу сацумовы высьвятляецца, што гэта сацумова мае „лявацкія“ загібы. Тут даецца ўстаноўка разгортваць акадэмічна-выхаваўчую працу школы ў напрамку „клясавага, інтэрнацыянальнага, антырэлігійнага, камуністычнага выхаваньня“.

Ці мажліва гэтым абмежавацца?

Ні ў якім разе. Тое, што мы павінны праводзіць „клясавае, інтэрнацыянальнае, антырэлігійнае, камуністычнае выхаваньне“ зьяўляецца зусім бясспрэчным. Але тут сацумова ня кажа аб самым галоўным моманце камуністычнага выхаваньня на дадзеным этапе, а менавіта: аб неабходнасьці ліквідаваць „карэнны недахоп школы“ і даць вучням мажлівасьць аўладаць „асновамі навук“. Важнейшая задача школы чамусьці зусім забыта пры разгортваньні сацспаборніцтва паміж Бялынкавіцкай і Касьцюковіцкай ШКМ.

Дзеля таго, каб паказаць, якім чынам некаторыя школы зусім правільна адбіваюць у сацумовах неабходнасьць барацьбы за ажыцьцяўленьне пастановы ЦК партыі аб школе, пададзім некалькі прыкладаў. Аленавіцкая ШКМ, Кохаваўскага раёну, ў сваей сацумове адзначае: „Мы вучні Аленаўскай ШКМ, выконваючы гістарычную пастанову ЦК Усе

КП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, у барацьбе за якасьць вучобы і сьвядомую ленінскую дысцыпліну ў школе, праводзячы таксама грамадзкую працу на такой аснове, каб уся грамадзкая праца вучняў была падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы, выконваючы таксама пастанову ЦК Усе ЛКСМ аб недапушчальнай перагрузцы дзяцей і праводзячы ўсё гэта па сацыялістычных мэтадах працы—ударніцтва і сацспаборніцтва, выклікаем на сацспаборніцтва Аболецкую і Коханаўскую ШКМ". Уступная частка гэтай сацумовы фармулявана коратка і выразна: асноўная ўстаноўка тут знайшла адпаведнае месца. Школа правільна завастрае ўвагу вакол ажыцьцяўленьня пастановы ЦК партыі адносна зьнішчэньня „карэннага недахопу" і не забывае падкрэсьліць неабходнасьць разгортваньня грамадзкай працы на аснове падпарадкаваньня яе навучальным і выхаваўчым мэтам школы. XI Нова-Барысаўская руская ШКМ, уступаючы ў сацспаборніцтва з X польскай ШКМ, абгрунтоўвае задачу школы такім чынам: „Гістарычная пастанова ЦК Усе КП(б) ад 5-га верасьня 1931 году адзначае цэлы шраг дасягненьняў і недахопаў нашай школы. Цэнтральным месцам нашых недахопаў зьяўляецца недастатковая падрыхтаванасьць вучняў па агульна-адукацыйных прадметах, слабая палітэхнізацыя школы і недастаткова акрэсьленая праца ў сэнсе клясавага выхаваньня дзяцей у марксысцка-ленінскім духу. Дзеля таго, каб выканаць пастанову ЦК партыі і аўладаць тэхнікай ведаў (асновамі навук), мы абавязуемся"...

Далей пералічваюцца канкрэтныя пункты сацумовы. Мы бачым, што і XI Нова-Барысаўская ШКМ кладзе ў аснову сацспаборніцтва пастанову ЦК партыі аб школе. Некаторыя школы без усялякай падрабязнай матывіроўкі адзначаюць задачы школьнага будаўніцтва, праз ужываньне мэтадаў сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Сацумова Ленінскай ШКМ, Слуцкага раёну, пачынаецца такім чынам: „1931 году 25-га верасьня. Мы, калектыў вучняў і працаўнікоў Ленінскай ШКМ, выклікаем на сацспаборніцтва вучняў і працаўнікоў Лучнікоўскай ШКМ, выходзячы з задач пастановы ЦК Усе КП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе і пастановы ЦК КП(б)Б аб рэалізацыі гэтай пастановы на працягу 1931-32 навучальнага году, бярэм на сябе выканаць наступныя абавязкі". Бяз пустога шматслоўя, каротка і акрэсьлена, Ленінская ШКМ адзначае галоўную задачу школы—рэалізаваць пастанову ЦК партыі на працягу 1931-32 навучальнага году шляхам разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва. І такія кароткія акрэсьленыя фармулёўкі, якія выпукляюць на першы плян барацьбу за аўладаньне „асновамі навук", значна каштоўней, чым вялікія прадмовы, у якіх навернута шмат „рэвалюцыйных" фраз, але ў якіх не завастраецца ўвага на асноўным: на ліквідацыі карэннага недахопу школ. Мы павінны цьвёрда памятаваць, што на сучасным этапе ў аснову сацспаборніцтва і ўдарніцтва трэба класьці рэалізацыю гістарычнай пастановы ЦК Усе КП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе. Зразумела, што самі вучні ня справяцца з задачай правільнай фармулёўкі ўсіх пунктаў сацумовы. На дапамогу ім павінны прыйсьці настаўнікі і загадчык школы, на якога, ўрэшце, і ўскладаецца адказнасьць за камуністычнае выхаваньне ў школе.

Разьбярэм зараз зьмест школьных сацумоў. Представім зьмест сацспаборніцтва па 27 школах у наступнай табліцы.

Па сацумовах усіх 27 школ маецца 741 пункт. З іх найбольшая колькасьць прысьвячаецца грамадзкай працы, а менавіта: 247 пунктаў, што складае 33,3 проц. ад агульнай колькасьці пунктаў. Другое месца займаюць пункты, якія маюць адносіны да барацьбы за агульна-адукацыйныя веды—137, альбо 18,4 проц. Далей ідуць пункты па-за школьнай і клюбнай працы—88, альбо 11,8 проц.; потым па арганізацыйных пытаньнях—64 пункты, альбо 8,6 проц.; па палітэхнізацыі—61 пункт, альбо 8,2 проц, і г. д. Калі аб'яднаць грамадзкую працу з пазашкольнай і клюбнай, а барацьбу за агульна-адукацыйныя веды з пытаньнямі палітэхнізацыі, дык мы атрымаем, што на першую групу прыпадае 45 проц., а на другую толькі

26,6 проц. Такім чынам, нашы школы на працягу 1931-32 навучальнага году яшчэ не паставілі ў цэнтры ўвагі сацспаборніцтва барацьбу за агульна-адукацыйныя веды. Асабліва нізкі процант па гэтым пытаньні даюць школы—Круглянская (10,7 проц.), Бялынкавіцкая (12,5 проц.),Чэрнеўская (11,7 проц.),Горкаўская(11,4 проц.), Сялібская (9,5 проц.), Новасёлкаўская (8,3проц.), Дузебнеўская (5,2 проц. Неабходна дамагацца таго, каб у бліжэйшы час барацьба за вучобу зрабілася цэнтральнай задачай сацспаборніцтва вучняў.

| НАЗВА ШКОЛЫ | Кольк. пункт | Барацьба за агульн.-адук. веды | Палітэхнізац. | Бар. за дысцыпл. | Грам. праца | Пазашкол. і клюбн. праца | Матар'ял. забесп. вучн. | За сацыял. ін. | Антырэл. і інтэрн. выхаван. | Арганізац. пытаньне | Ваянізацыя | Самакірав. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Зарубская ШКМ | 32 | 8 | 3 | 3 | 6 | 8 | 3 | — | — | 1 | 1 | — |
| 2. Сураская ФЗС | 15 | 4 | 1 | — | 6 | 2 | — | — | — | 1 | — | — |
| 3. Круглянская ШКМ | 28 | 3 | 1 | 5 | 10 | 2 | 3 | — | — | 1 | — | — |
| 4. Дрыбінская бел. ШКМ | 29 | 7 | 1 | 3 | 6 | 5 | 3 | 1 | 1 | 2 | — | — |
| 5. В.-Зімінская " | 15 | 5 | — | — | 4 | 3 | — | — | — | — | — | — |
| 6. Пухавіцкая бел. | 35 | 2 | 6 | 3 | 13 | 3 | 4 | — | 2 | 2 | — | — |
| 7. Ленінская шк., Сл. р. | 43 | 10 | 13 | — | 13 | 4 | 1 | — | 1 | 1 | — | — |
| 8. Бялынкавіцкая | 32 | 4 | 3 | 2 | 17 | 2 | 2 | — | 1 | 1 | — | — |
| 9. Чачэрская | 34 | 4 | 2 | 1 | 13 | 7 | 3 | — | 2 | 2 | — | — |
| 10. Старадароская | 44 | 9 | 5 | — | 17 | 4 | — | — | 1 | 5 | — | — |
| 11. Цепленская | 24 | 8 | 2 | — | 4 | 3 | 2 | 1 | 1 | 2 | — | 1 |
| 12. Шылавіцкая | 29 | 6 | — | — | 15 | 1 | 3 | — | — | 3 | — | 1 |
| 13. Цараўская | 25 | 5 | 2 | — | 5 | 3 | 3 | 2 | — | 4 | — | 1 |
| 14. Ціхініцкая | 49 | 8 | 3 | 1 | 15 | 3 | 5 | 1 | 1 | 7 | 1 | 1 |
| 15. Пабалоўская | 19 | 4 | 1 | — | 7 | 3 | 2 | 1 | 2 | 1 | — | — |
| 16. Кастрычнікаўская, Сл. р. | 21 | 4 | 2 | — | 8 | — | 1 | 2 | — | 4 | — | — |
| 17. Багушэвіцк я | 25 | 9 | — | 3 | 9 | — | 1 | — | — | 3 | — | — |
| 18. Горацкая расейская | 30 | 5 | 1 | 1 | 4 | — | 1 | — | 2 | — | — | — |
| 19. Горкаўская ШКМ, Старадароскага р-ну | 35 | 4 | 1 | 1 | 17 | 4 | 3 | — | 2 | 3 | — | — |
| 20. Сялібская ШКМ | 42 | 4 | 6 | 2 | 8 | 7 | 3 | — | 5 | 6 | — | — |
| 21. Крычаўская яўр. імя Сталіна | 22 | 5 | 1 | 1 | — | 5 | 1 | — | 2 | 5 | — | — |
| 22. Горацкая яўр. ШКМ | 10 | 3 | 1 | — | 2 | 4 | — | — | 1 | — | — | — |
| 23. Грэская ШКМ | 23 | 6 | 1 | 1 | 4 | 4 | 3 | — | 1 | 2 | — | — |
| 24. Новасёлкаўская | 12 | 1 | — | 1 | 7 | 1 | 1 | — | 1 | — | 2 | — |
| 25. Дузебнеўская | 19 | 1 | 2 | — | 7 | 6 | — | — | — | 3 | — | — |
| 26. Даўговіцкая | 13 | 2 | 1 | — | 5 | 2 | 3 | — | — | — | — | — |
| 27. Аленавіцкая | 36 | 6 | 2 | — | 15 | 2 | 1 | — | 3 | 5 | — | — |
| РАЗАМ: | 741 | 137 | 61 | 28 | 247 | 88 | 52 | 10 | 29 | 64 | 4 | 4 |

У чым выражаецца барацьба за вучобу ў справе сацспаборніцтва вучняў? Большасьць школ канцэнтруюць сваю ўвагу на тым, каб зьнішчыць спазьненьні і прагулы. З 28 школ, уключаючы сюды і Уборкаўскую ШКМ, якой ня было раней, 26 школ паставілі гэтае пытаньне ў сацумове. Барацьба супроць другагодніцтва, а таксама за пасьпяховасьць вучняў паказана 12 школамі. Звычайна школы высоўваюць процант другагодніцтва, да якога яны імкнуцца, 4-5, а некаторыя школы нават 2 і 3. Заўважым, што Дзяржплян СССР праэктуе давесьці процант другагодніцтва ў другой пяцігодцы да 0,5. Што-ж тычыцца пасьпяховасьці, дык большасьць школ арыентуецца ў сацспаборніцтве на 95 проц. Аднак, ёсьць школы, якія ставяць перад сабой задачу дасягнуць 100 проц. пасьпяховасьці. Дапамога адстаючым вучням паказана ў сацумовах 19 школ, барацьба за 100 проц. ахоп дзяцей школьнага ўзросту вучобай—10 школ, за поўнае выкананьне навучальных праграм і плянаў—11 школ, перавод заняткаў на новыя мэтады выкладаньня—13 школ, за якасьць вучобы—4 школы, за рацыянальны падлік працы—4 школы і г. д. Некаторыя школы яшчэ дадаткова высоўваюць такія пытаньні, як забесьпячэньне вучняў па-

дручнікамі, плянаваньне працы, арганізацыя і абсталяваньне школьных габінэтаў, падвоз вучняў да школы з далёкіх месц, прэміраваньне лепшых вучняў, ужываньне акадэмічных боек паміж клясамі па асноўных дысцыплінах, падрыхтоўка выкладчыкаў да заняткаў, устанаўленьне парадку і цішыні на лекцыях.

Сур'ёзным недахопам сацумоў у дачыненьні да пастаноўкі пытаньня аб вучобе зьяўляецца тое, што барацьба за пасьпяховасьць фармулюецца агульна, без дыфэрэнцыяцыі паміж дысцыплінамі. Было-б мэтазгодна, каб у сацумовах адзначаліся колькасныя і якасныя паказчыкі па дысцыплінах, каб найбольшая ўвага канцэнтравалася на асноўных прадметах выкладаньня, каб нават сацспаборніцтва было разгорнута па лініі паасобных дысцыплін, напр.—хэміі, фізыцы, матэматыцы і г. д. На жаль, гэта ў нашых школах пакуль-што не назіраецца.

У агульна-школьных сацумовах пытаньне палітэхнізацыі школ займае невялікае месца. Больш увагі гэтаму пытаньню ўдзяляецца ў сацумовах паміж школай і прадпрыемствам, альбо паміж школай і калгасам. Зараз мы спынімся толькі на пытаньні палітэхнізацыі ў тым выглядзе, як яно адбіта ў сацумовах паміж школамі. Большасьць школ, а менавіта—26 з 28, ставяць у парадку сацспаборніцтва задачу заключэньня ўмовы з прадпрыемствам ці калгасам. 17 школ уключылі ў сацумову пытаньне аб арганізацыі майстэрняў і рабочых пакояў пры школах, 14 школ высоўваюць патрабаваньне—наладзіць палітэхнічнае вытворчае навучаньне. З інш. задач, якія адбіваюцца ў сацумовах, трэба адзначыць: вывучэньне мэханізмаў, аўладаньне ўменьнем працаваць на сельскагаспадарчых машынах, уменьне карыстацца прасьцейшымі інструмантамі, арганізацыя палітэхнічных гурткоў, арганізацыя трусаводнай гаспадаркі пры школе, пабудова шпакоўні, пабудова парнікоў, арганізацыя мэтэрыялёгічнай станцыі, забесьпячэньне школьнай бібліятэкі тэхнічнай літаратурай, арганізацыя палітэхнічных музэяў.

У адносінах да дысцыпліны пункты сац. умоў фармуляваны ў большасьці выпадкаў абстрактна.

Сустракаюцца гэткія пытаньні, як, напрыклад: зьнішчыць лаянку і курэньне, наладзіць дысцыпліну ў школе і па-за школай, арганізаваць чырвоную і чорную дошкі, разгарнуць самакрытыку ў напрамку ўзьняцьця дысцыпліны, выхоўваць у вучнях камуністычныя адносіны да маёмасьці, 100 проц. выкананьне сваіх абавязкаў і г. д.

Па грамадзкай працы з 28 школ—21 школа высунула 34 пункты ў сац. умовах адносна прапаганды дзяржаўнай пазыкі, 16 школ намецілі 34 пункты—аб культурным абслугоўваньні прадпрыемстваў, саўгасаў і калгасаў, 18 школ паставілі задачу распаўсюджваньня літаратуры, 23 школы парашылі прымаць удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці, 15 школ—згадзіліся ўдзельнічаць у розных палітычных кампаніях і г. д. Апрача таго, у сац. умовах школ па лініі грамадзкай працы адзначаны гэткія пытаньні, як, напрыклад—абслугоўваньне хатчытален, збор утыль-сыравіны, попелу і жалезнага лому, правядзеньне бацькоўскіх сходаў, удзел у добраахвотных грамадзкіх т-ствах, барацьба за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, удзел у культ. паходах, уцягненьне дзяцей у піянэр-арганізацыі, удзел у гаспадарчых працах калгасаў, шэфства над іншымі школамі, арганізацыя вучнёўскага чырвонага абозу, гаспадарчая дапамога школе. Трэба адзначыць, што на зьмесьце школьных сац. умоў па грамадзкай працы ў значнай ступені адбіваецца ўплыў сац. спаборніцтва 3-х піянэрскіх арганізацый: БССР, Азербайдж. ССР і Заходняй вобласьці.

У галіне па-за школьнай і клюбнай працы—21 школа высоўваюць 22 пункты адносна выпіскі газэт і часопісаў вучням. 17 школ прапануюць 20 пунктаў па сацспаборніцтву адносна выпуску школьных насьценгазэт, 10 школ намячаюць 13 пунктаў адносна арганізацыі гурткоў у школе, 10 школ высоўваюць 13 пунктаў—аб арганізацыі дзіцячых тэатраў, кіно, вечароў. Таксама ёсьць прапанова радыёфікаваць школы, ства-

рыць школьныя клюбы, арганізаваць куткі, наладзіць школьную бібліятэку і г. д.

У справе антырэлігійнага і інтэрнацыянальнага выхаваньня сацумовы школ прадугледжваюць арганізацыю антыкаляднай і антывялікоднай кампаній, правядзеньне інтэрнацыянальных вечароў, удзел вучняў у „Бязбожніку", разгортваньне кампаніі сярод вучняў і бацькоў за наведваньне школы ў рэлігійныя сьвяты і г. д. Неабходна адзначыць, што антэрылігійнае і інтэрнацыянальнае выхаваньне заняло зусім невялікае месца ў сацспаборніцтве школ на працягу 1931-32 навучальнага году. Гэта трэба прызнаць ненармальным становішчам.

Праблема матар'яльнага забесьпячэньня вучняў вырашалася ў час спаборніцтва ў напрамку правільнай арганізацыі інтэрнатаў і хатніх умоў, арганізацыі вучнёўскай каапэрацыі, стварэньня школьнага фонду, забесьпячэньня вучняў абуткам і вопраткай, наладжваньня школьных сталовак, гарбаты, сьнеданьня і абедаў, забесьпячэньня вучняў навучальнымі прыладамі.

Барацьба за санмінімум у школе праводзілася шляхам наладжваньня сыстэматычных мэдыцынскіх аглядаў вучняў, арганізацыі школьнай аптэчкі, устанаўленьня кантролю за чыстатой у школе, стрыжкі валасоў і г. д. Праўда, у галіне стрыжкі валасоў сацумовы часта маюць вялікія недарэчнасьці. Напрыклад: сацумова паміж 1-м канцэнтрам Пухавіцкай беларускай і яўрэйскай ШКМ на 19-м пункце патрабуе: „Падстрыгчы валасы хлапцом пад нулявы нумар, а дзяўчатам гадаваць". Затым у тэй-жа Пухавіцкай беларускай ШКМ у сац. умове паміж брыгадамі №3 і №9 5-й клясы ужо напісана другое на пункце: „Зьняць валасы як хлапцом, гэтак і дзяўчатам". Там-жа, сац. умова паміж II і IV групамі кажа наступнае: „Падстрыгчы валасы хлапцом пад №1, а дзяўчатам таксама падстрыгчыся". Але сац. умова паміж VI клясай і V кл. у тэй-жа школе патрабуе: „Скінуць хлапцом валасы, а дзяўчатам—насіць прычоскі". Чаму ўаднэй і тэй-жа школе па розных групах сац. умовы устанаўляюць розны падыход да стрыжкі валасоў—цяжка сказаць. Дзякуючы такому разнабою, сац. умова набывае нясур'ёзны характар. Гэткія недарэчнасьці школа павінна зьнішчыць у бліжэйшы час.

Па арганізацыйных пытаньнях сац. умовы высоўваюць пункты адносна праверкі вынікаў сац. спаборніцтва, адносна ўстанаўленьня сувязі з іншымі школамі, ажыцьцяўленьня 6 ўмоў т. Сталіна, наладжваньня кіраўніцтва школай, правядзеньня справаздач школы і г. д.

Некаторыя школы ў парадку сацспаборніцтва ставяць задачы аб рацыянальнай арганізацыі работ самакіраваньня, адносна поўнага ахопу вучняў працай самакіраваньня, пытаньне аб справаздачах вучкому і г. д.

Па лініі ваянізацыі сацумовы прадугледжваюць набыцьцё дробна-калібэрных вінтовак для школы, удзел у працы Асаавіяхіму, збор грошай на абарону.

Для таго, каб даць поўны малюнак аб зьмесьце сацспаборніцтва ў нашых школах, трэба яшчэ дадаткова разглядзець дагавары паміж школамі з аднаго боку, і прадпрыемствамі, саўгасамі і калгасамі, з другога.

У гэтых дагаварох галоўным чынам закранаюцца пытаньні палітэхнізацыі школы. Возьмем для прыкладу дагавор, які заключаны паміж XI Нова-Барысаўскай расійскай ФЗС і папяровай фабрыкай „Прафінтэрн" ад 4 лістапада 1931 г:

1. Фабрыка „Прафінтэрн" у 1931-32 г. абавязуецца выканаць свой прамфінплян.

2. Вылучыць рабочых-ударнікаў для працы ў важнейшых арганізацыях школы для практычнай працы, лічачы іх работу ў школе асноўнай грамадзкай нагрузкай: а) у школьны савет —т.т. Кр-ка і П-коў; б). у камсод—т. С-ва; в) у вытворчую нараду—т. П-ва.

Ячэйцы УсеЛКСМ вылучыць камсамольцаў для дапамогі: а) піянэр-працы т. П-га і б) школьнаму самакіраваньню т. Н ка.

3. У мэтах забесьпячэньня пралетарскага кантролю і ўплыву на працу ў школе устанавіць сыстэматычную сувязь фабрычных цэхаў з асобнымі школьнымі групамі. З гэтай мэтай пры-

мацаваць электрычны цэх да VII групы школы, папяровы—да VI групы, мэханічны—да V групы „А“, дравесна-масны—да V групы „Б“.

4. Вылучыць у якасьці інструктара т. Х-ча. Для працы ў школьных майстэрнях вылучыць т.С-ва.

5. Вылучыць т. С-ка ў якасьці сацыялістычнага саўмясьціцеля на працу намесьніка загадчыка школай.

6. Арганізаваць сярод рабочых і інжынэрна-тэхнічных сіл абгаварэньне і прапрацоўку праграмы школы і вытворчага пляну школы.

7. ІТР абавязуецца: а) разам з пэдагагічным калектывам школы, на аснове праграмы Наркамасьветы, распрацаваць канкрэтную праграму вытворчага навучаньня дзяцей і падросткаў на фабрыцы, у школьнай майстэрні і рабочым пакоі, паклаўшы ў аснову, каб вытворчая праца вучняў была падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы; б) вылучыць т. Кр-ка для выкладаньня ў школе тэхналёгіі і тэхнічнага чарчэньня, а таксама кіраўніцтва тэхнічным настаўніцкім гуртком.

8 Вылучыць 13 рабочых месц на фабрыцы, у цэхах,—для арганізацыі вытворчага навучаньня вучняў V, VI і VII клясаў, забясьпечыўшы кіраўніцтва дзьвюма зьменамі.

9. Сіламі ІТР і кваліфікаваных рабочых забясьпечыць сыстэматычны інструктаж і дапамогу вучням у час вытворчага навучаньня.

10. Заводакіраўніцтва абавязуецца: а) тэхнічна забясьпечыць месца, дзе адбываецца вытворчае навучаньне школьнікаў; б) стварыць узорную санітарна-гігіенічную абстаноўку для працы вучняў; в) забясьпечыць вытворчую практыку пэдагогаў школы, для чаго вылучыць т. Л-ко.

11. Заводакіраўніцтва абавязуецца перадаць школе варштаты і інструманты, якія нельга скарыстаць у мэханічнай і сталярнай майстэрні фабрыкі, але якія прыгодны для школьнай майстэрні, рабочага пакою і лябараторый.

12. Абсталяваць школьную майстэрню і рабочы пакой сталярнымі і сьлясарнымі інструмантамі, маторам, варштатамі для апрацоўкі дрэва і інш. да 20 студзеня 1932 г.

13. Забясьпечыць школьную майстэрню і рабочы пакой неабходнай сыравінай для нармальнай іх працы.

14. Аказаць дапамогу вучням школы ў напрамку арганізацыі аздаравіцельных мерапрыемстваў школы—піянэрскія лягеры, экскурсіі, для чаго выдаць 250 р. пры выкананьні прамфінпляну.

15. Аказаць дапамогу бяднейшым вучням у школе, для чаго фабком штомесячна адлічвае з культфонду па 10 руб. у камсод школы.

16. Фабкому вылучыць 30 руб. на дзіцячую тэхнічную літаратуру.

17. Фабрычная газэта асьвятляе работу школы і разгортвае самакрытыку вакол гэтых пытаньняў.

18. Паказаныя ў п. п. 4, 5, 7 і 10 таварышы, вылучаныя фабрыкай, замацоўваюцца для працы ў школе ня менш чым да канца навучальнага году. Перакідка іх на іншую грамадзкую працу дапускаецца ў самых крайніх выпадках з умовай іх замены роўналежнымі працаўнікамі.

19. Фабком абавязуецца штомесячна вылучаць адпаведную суму па каштарысе на палітэхнізацыю школы.

## Абавязацельствы, якія бярэ на сябе школа:

1. XI Нова-Барысаўская расійская ФЗС абавязуецца поўнасьцю выканаць навучальную праграму як па аб'ёму, гэтак і па якасьці ведаў.

2. Дамагацца ліквідацыі другагодніцтва і адсеву вучняў, усямерна падвышаючы якасьць набываемых вучнямі сыстэматычных ведаў, шляхам: а) арганізацыі спэцыяльнай працы з адстаючымі; б) забесьпячэньня беднаты вопраткай, абуткам, харчаваньнем і навучальнымі прыладамі.

3. У аснову сваёй працы школа абавязуецца пакласьці барацьбу за якасьць вучэбна-выхаваўчай працы, за сапраўднае палітэхнічнае выхаваньне ў школе шляхам: а) арганізацыі навучальнай працы на аснове аўладаньня сыстэматычнымі ведамі і навыкамі з боку вучняў

у аб'ёме школьных праграм (фізыка, хэмія, мова, геаграфія і інш.); б) устанаўленьня акрэсьленага кіраўніцтва ў школе і ўмацаваньня адзінаначальля; в) увядзеньня цьвёрдага раскладу заняткаў у школе; г) злучэньня навучаньня з вытворчай працай і ўсямернага разьвіцьця грамадзкай працы вучняў з падпарадкаваньнем яе навучальна-выхаваўчым задачам школы; д) складаньня вытворчага пляну школы, рабочых пляна ў і іх поўнага выкананьня.

4. Ахапіць пэдагогаў завочным навучаньнем і гурткамі па палітэхнізацыі.

5. Арганізаваць у канцы навучальнага году экскурсіі для лепшых ударнікаў школы.

6. Разьвіць у вучнях санітарна-гігіенічныя навыкі.

7. Актыўна ўдзельнічаць у вытворчай працы прадпрыемства і дапамагаць у выкананьні прамфінпляну прадпрыемства, на аснове падпарадкаваньня грамадзка-вытворчай працы навучальна-выхаваўчым мэтам школы:

а) арганізаваць працу па збору рабочых рацыяналізатарскіх прапаноў, па апрацоўцы іх і давядзеньні іх да рэалізацыі;

б) садзейнічаць грамадзкім арганізацыям прадпрыемства ў барацьбе з прагуламі, п'янствам і лятунамі на прадпрыемстве;

в) увязаць работу грамадзкіх арганізацый школы: МОПРу, Асаавіяхіму, „Бязбожнік" і іншых з адпаведнымі арганізацыямі фабрыкі.

8. Дамагацца поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод рабочых фабрыкі і іх сем'яў і забясьпечыць ліквідацыю няпісьменнасьці пры ўдзеле настаўнікаў.

9. Вылучыць настаўнікаў для тэхнічных гурткоў рабочых па выкладаньні матэматыкі, фізыкі, белмовы.

10. Вылучыць настаўнікаў для правядзеньня лекцый, гутарак і дакладаў на розныя тэмы—антырэлігійныя, бытавыя, навуковыя і інш. Каляндарны плян скласьці культ. паліт. кіраўніцтву фабрыкі разам з школай.

11. Школа ўдзельнічае ў правядзеньні рэвалюцыйных сьвяткаваньняў на фабрыцы; вылучаныя брыгады вучняў упрыгожваюць клюб фабрыкі лёзунгамі, плякатамі і г. д.

12. Школа дапамагае фабрыцы ў яе працы па шэфству над калгасам, ажыцьцяўляючы тэта шэфства і над школай падшэфнага калгасу.

13. Уся грамадзкая праца школы павінна быць сплянавана такім чынам, каб яна была поўнасьцю падпарадкавана навучальным і выхаваўчым мэтам школы, не парушала цьвёрдых раскладаў заняткаў, адпавядала-б інтарэсам саміх дзяцей і не стварала-б для пэдагогаў празьмернай нагрузкі, якая не дае магчымасьці ім выконваць абавязкі ў школе.

14. Правесьці на фабрыцы суботнікі, з якіх 2 дармавых і 3 платных.

15 Ва ўсей працы разьвіваць ударніцтва і сацспаборніцтва.

16. Арбітрам па праверцы сацдагавору прасіць „Бальшавік Барысаўшчыны".

17. Гэты дагавор павінен быць шырока растлумачаны рабочым фабрыкі, вучням і працаўнікам школы.

Дагавор XI Нова-Барысаўскай ФЗС і фабрыкі „Прафінтэрн" настолькі вычарпальны, што ён амаль цалкам закранае ўсе асаблівасьці тых дагавароў, якія заключаюцца паміж школамі і прадпрыемствамі. Зварачваем увагу на тое, што вышэйпададзены дагавор у асноўным правільна адбівае ўстаноўкі, якія паказаны ў пастанове ЦК УсеКП(б) аб школе. Напрыклад, у дагаворы знаходзіць адбітак наступная дырэктыва партыі: „Прадпрыемствам, саўгасам, МТС і калгасам аказаць усямерную дапамогу Наркамасьветы у вырашэньні гэтай задачы (задачы палітэхнізацыі школы, ПП.), шляхам вылучэньня неабходнага абсталяваньня і інструмантаў для школьных майстэрняў і лябараторый, вылучэньня кваліфікаваных рабочых і спэцыялістых для непасрэднага ўдзелу ў працы школы, дапамогі пэдагогам у вывучэньні вытворчасьці і г. д.". Таксама дагавор XI Нова-Барысаўскай ФЗС зусім правільна завастрае ўвагу на справе падпарадкаваньня вытворчай і грамадзкай працы вучняў навучальна-выхаваўчым мэтам школы.

Пададзім яшчэ вынятку з дагавору, які заключаны паміж Кастрычніцкай ШКМ, Слуцкага раёну, і калгасам „Трактар“.

Абавязкі, якія бярэ на сябе калгас:

1. Забясьпечыць удзел калгаснікаў, адміністрацыі, партыйных арганізацый ва ўсей навучальна-выхаваўчай і грамадзка-партыйнай працы школы: а) прымацаваць ад яч. КСМ т. Б-га да ячэйкі Асаавіяхім; б) т. Ц-па да ячэйкі МОПР і в) Ш-ка да арганізацыі „Бязбожнік“.

2. Праўленьне калгасу вылучае т. Х-ча П. і Х-ча Р. для азнаямленьня вучняў з вытворчасьцю ў малочнай, з машынамі, з рухавіком, складанай малацілкай, самавязалкай.

3. Арганізаваць вытворчае навучаньне вучняў, выходзячы з асноўнай задачы навучаньня: прадаставіць рабочыя месцы пры варштатах у майстэрні калгасу „Трактар“ V-VI групам школы у колькасьці 100 чалавек, з разьлікам 8 лекцый у дэкаду.

4. Папоўніць школьную майстэрню абсталяваньнем (інструмантамі) на суму 250 руб.

5. Забясьпечыць майстэрні школы сыравінай для нармальнай вытворчай працы ў іх.

6. Праўленьню калгасу „Трактар“ вылучыць у фонд дапамогі бедным вучням 300 руб.

7. Праўленьню калгасу аказаць дапамогу школе ў арганізацыі пазашкольнай працы з дзецьмі: абсталяваць дзіцячы клюб, піянэр-пакой.

8. У мэтах больш канкрэтнай і сталай сувязі заслухоўваць ня менш 2 разоў у год справаздачы школы на пасяджэньнях праўленьня калгасу, а таксама ставіць даклады школы на агульных сходах калгасу.

9. Усім арганізацыям калгасу актыўна ўдзельнічаць у навучальна-пэдагагічнай працы школы, у выкананьні навучальнага пляну шляхам: а) арганізацыі „варты трывогі“, сыгналізуючы аб тым ці іншым прарыве ў школе; б) унясеньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў навучальна-выхаваўчай і арганізацыйна-гаспадарчай дзейнасьці школы.

10. Праўленьне калгасу дапушчае вучняў да вывучэньня сельскагаспадарчых машын, у тым ліку і складаных, вылучыўшы для гэтае мэты наступны інвэнтар: рухавік, складаную малатарню, самавязалку-жнейку, трактар і іншы складаны інвэнтар.

11. Дапушчае вучняў у малочную фэрму з мэтай вытворчага навучаньня ў ёй.

12. Прымае ўдзел у натуральных формах у гаспадарчых выдатках: а) у будаўніцтве школьнага памяшканьня рабочай і цягавай сілай; б) дапамагае рамантаваць будынкі і інвэнтар рабочай сілай; в) забясьпечвае дастаўку апалу для школы, арганізуе падвоз вучняў да школы.

## Абавязкі, якія ўскладае на сябе школа

1. Ахапіць школай на 100 проц. дзяцей калгасьнікаў ад 8 да 12 год.

2. Вылучыць брыгаду агульным лікам у 30 чал. у калгасныя арганізацыі для культурнай і палітычнай работы, а менавіта: 15 чалавек для працы па ліквідацыі няпісьменнасьці, 5 чал. для працы ў чырвоным кутку і 10 чал. па наладжваньні культмасавых вечароў.

3. Забясьпечыць ліквідацыю няпісьменнасьці і малапісьменнасьці калгасьнікаў у ліку 30 чал. акаляючага насельніцтва ў 115 чалавек да 1 мая 1932 г.

4. Вылучыць 10 вучняў і 1 пэдагога для дапамогі ў працы дзіцячых пакояў—яслаў калгасу.

5. Вылучыць 2 настаўнікі для правядзеньня лекцый, гутарак, дакладаў на розныя тэмы: антырэлігійныя, бытавыя, навуковыя, грамадзка-палітычныя і г. д. па пытаньнях, якія будуць высунуты саветам культурнага будаўніцтва пры калгасе—хаце-чытальні.

6. У парадку правядзеньня грамадзкакарыснай працы, прымаць удзел у барацьбе за выкананьне плянаў сацбудаўніцтва шляхам: а) арганізацыі зьбіраньня прапаноў рабочых па рацыяналізацыі вытворчасці і іх апрацоўцы; б) барацьбы за якасьць прадукцыі; в) арганізацыі „варты трывогі“, сыгналізуючай аб тым ці іншым прарыве ў калгасе, і мабілізуючы вучняў для адпаведнай работы з іх бацькамі і рабочымі ў мэтах хутчэйшага ліквідаваньня

гэтых прарываў; г) масавай працы па барацьбе з прагуламі і п'янствам; д) збору на тэрыторыі калгасу ня менш 1 тоны жалезнага лому і іншага да 1 студзеня 1932 г.; е) збору тары; ж) збору папяровай і іншай макулатуры.

7. Дапамагаць у рабоце калгаснай бібліятэцы.

8. Выходзячы з вучэбна-выхаваўчай мэты школы, але ні ў якім разе не скарыстоўваючы вучняў у якасьці рабочай сілы, удзельнічаць у пасеўных і ўборачнай сельскагаспадарчых кампаніях, у барацьбе з шкоднікамі, у арганізацыі вопытна-агранамічнай працы і падвышэньні ўраджайнасьці, вылучаючы для гэтай мэты брыгады:— а) ачысьціць у калгасе 8 тон насеньня; б) пратруціць у калгасе 3 тоны; в) сабраць попелу і даравога ўгнаеньня 5 тон; г) ачысьціць ад шкоднікаў 3 га саду; д) зрабіць і разьвесіць 100 шпакоўніц; е) узяць шэфства над 1 сьвінарнікам (200 штук сьвіней і парасят); ж) закласьці 2 сілосныя ямы; з) закласьці 1 парнік на 5 рам; і) растлумачыць насельніцтву аб значэньні тэхнічных культур; к) прыняць удзел у складаньні пляну калгасу, распрацаваць яго ў школе-атрадзе і папулярызаваць яго сярод насельніцтва; л) выслаць 8 брыгад у час веснавога севу; м) арганізаваць газэту шматыражку ў час палявых работ; н) весьці шырокую прапаганду сярод індывідуальных бядняцка-серадняцкіх пластоў насельніцтва з мэтай уцягненьня іх у калгас.

9. На 500 руб. распаўсюдзіць літаратуры.

10. Арганізаваць газэту ў кожнай групе і праз газэту вывучыць калгас.

11. Узяць шэфства над грамадзкімі арганізацыямі ў калгасе—МОПР, Асаавіяхім, „Бязбожнік“.

Мы бачым, што дагавор, які заключаны паміж Кастрычнікаўскай ШКМ і калгасам „Трактар“, у асноўным паўтарае тыя задачы, якія пастаўлены дагаворам паміж XI Нова - Барысаўскай ФЗС і фабрыкай „Прафінтэрн“. Прыблізна па такіх-жа прынцыпах будуюцца дагаворы і іншых ФЗС і ШКМ, якія вывучаны намі. Аднак, ёсьць цэлы шэраг школ, якія дапушчаюць у сацумовах „лявацкія“ ўстаноўкі. Напрыклад: дагавор паміж ШКМ Камуны БВА і камунай БВА, Любанскага раёну—мае наступны пункт: „Сваю навучальную і вытворчую працу школа ўвязвае з працай і жыцьцём камуны і грунтуецца на ёй, як на вытворчай базе“.

На якой аснове школа ўвязвае сваю працу з працай камуны,—дагавор аб гэтым нічога ня кажа. Але далей выступае зусім выразна „лявацкая“ ўстаноўка.

Пункт 3-ці дагавору запісаны такім чынам: „Свайго ўласнага сельскагаспадарчага абсталяваньня, гаспадаркі і прыладаў школа не заводзіць, а карыстаецца абсталяваньнем, гаспадаркай і прыладамі камуны для навучальных мэтаў. Адпаведныя сродкі вытворчасьці школа ўносіць у непадзельны капітал камуны“. Гэты пункт зусім супярэчыць пастанове ЦК Усе КП(б) аб школе, якая патрабуе, каб кожная школа арганізавала пры сабе майстэрню і рабочы пакой. Згодна 3-га пункту дагавору, ШКМ камуны БВА ня можа арганізаваць уласную майстэрню і завесьці гаспадарку на прышкольным вучастку. Дарэчы сказаць, аб прышкольным вучастку зусім канкрэтна сказана ў п.п. 4 і 5 дагавору, у якіх прадугледжваецца яго ліквідацыя. Там напісана: „Камуна абавязуецца даваць школе, дзе яна знойдзе патрэбным, любыя вучасткі і дзялянкі для дасьледчай і навучальнай працы, забясьпечваючы ўсім неабходным для гэтае працы—угнаеньнем, насеньнем, інвэнтаром і цягавай сілай. Прыбыткі ад дасьледчых вучасткаў паступаюць цалкам у камуну, прычым, апошняя аплачвае рабочую сілу школы, калі яна была патрачана, па звычайнай сваёй расцэнцы“. Значыцца, камуна не дазваляе школе арганізаваць уласны прышкольны вучастак, а патрабуе, каб дзеці займаліся дасьледчай працай на любым вучастку тэрыторыі камуны, разглядаючы пры гэтым вучняў, як рабочую сілу.

Тут ня можа быць сумненьняў у тым, што школа камуны БВА стала на шлях ліквідацыі майстэрняў і зямельных вучасткаў. „Лявацкая“ ўстаноўка гэтай школы яшчэ раз падкрэсьліваецца ў наступным месцы дагавору: „Школа абавязуецца свае пляны прыстасаваць да плянаў

камуны і вытворчую працу ўвязваць і праводзіць так, каб яна насіла карысна-гаспадарчы характар для камуны". Замест таго, каб сказаць, што ўвязка плянаў школы з плянамі камуны павінна ісьці ў напрамку падпарадкаваньня вытворчай і грамадзкай працы дзяцей навучальна-выхаваўчым мэтам школы, дагавор патрабуе зусім супроцьлеглае—імкнуцца да таго, каб вытворчая праца дзяцей насіла карысна-гаспадарчы характар для камуны, гэта значыць, з пункту погляду дагавору, яна павінна быць падпарадкавана не навучальна-выхаваўчым мэтам школы, а гаспадарчым інтарэсам камуны. На гэтым фоне, бязумоўна, „лева"-апартуністычны напрамак атрымліваюць наступныя фармулёўкі: „У парадку правядзеньня грамадзка-карыснай працы—прымаць удзел у барацьбе за выкананьне гаспадарчых плянаў камуны". Альбо яшчэ: „Школа абавязуецца ўзяць вядзеньне, паколькі гэта будзе адпавядаць сілам школы, усей дасьледчай працы камуны". „Лявацкім" пражэкцёрствам зьяўляецца патрабаваньне ўскласьці „ўсю дасьледчую працу" той ці іншай гаспадарчай арганізацыі на школу, бо такая праца, паколькі яна ня будзе падпарадкавана навучальна-выхаваўчым задачам школы, адмоўна адаб'ецца на выкананьні школьных праграм і плянаў. На жаль, гэта не разумеюць аўтары дагавору ШКМ Камуны БВА. Але наша задача—дапамагчы школам, якія яшчэ не пазбавіліся „лева"-апартуністычных памылак, найхутчэй усьвядоміць іх шкоднасьць для справы камуністычнага выхаваньня і перавесьці гэтыя школы на шлях бальшавіцкай барацьбы за якасьць вучобы і сапраўдную ленінскую палітэхнізацыю.

Цяпер пяройдзем да аналізу сацумоў, якія заключаюцца паміж школамі ў працэсе сацспаборніцтва. Мы ставім перад гэтымі сацумовамі наступныя задачы: адбіваць устаноўкі, якія дадзены партыяй і Савецкім урадам у галіне культурнага будаўніцтва, быць рэальнымі, гэта значыць, сацумовы павінны быць складзены так, каб яны былі даступны для вучняў, каб школа магла ажыцьцявіць іх ва ўстаноўлены тэрмін, і, урэшце, сацумовы павінны быць канкрэтны: у іх неабходна акрэсьлена вызначыць якасныя і колькасныя паказальнікі, якія павінны быць выкананы вучнямі пры сацспаборніцтве.

Сацумова, якая заключана паміж Старадароскай беларускай ШКМ і яўрэйскай ШКМ, складаецца з наступных пунктаў: „Старадароская беларуская ШКМ бярэ на сябе заданьне на працягу 1931-32 навучальнага году ў парадку сацыялістычнага спаборніцтва—выканаць наступнае:

**А) У галіне адміністрацыйна-арганізацыйнай працы**

1. Рацыянальна выкарыстоўваць сродкі школы па іх прызначэньні. Стварыць спэцыяльны фонд школы (акрамя асыгнаваньняў дзяржавы) ня менш, як 2.000 руб.
2. Паставіць на належную вышыню працу кіруючых органаў школы. Вытворчыя нарады школы склікаць: — а) франтальную (агульную, П. П.) ня менш 1 разу ў месяц; б) па канцэнтрах—ня менш аднаго разу ў 2 дэкады.
3. На працягу навучальнага году склікаць ня менш 3-х сходаў бацькоў—агульна-школьных і 8 сходаў — па групах.
4. Дамагацца пастаноўкі справаздачы школы перад грамадзкасьцю: ня менш 5 справаздач на працягу навучальнага году.
5. Замацаваць увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня на 100 проц.
6. Арганізаваць працу гурткоў: палітычнага, антырэлігійнага, драматычнага, харавога, вайскова-спартыўнага, краязнаўчага і радыё-тэхнічнага.
7. Паставіць на належную вышыню працу школьнай бібліятэкі, папоўніўшы яе новай літаратурай ня менш як на 250 р. (ня ўключаючы сюды падручнікі).
8. Спачатку навучальнага году заключыць умовы па палітэхнізацыі, прыступіўшы да выкананьня ўмоў і плянаў не пазьней 1-га кастрычніка:—а) абсталяваць майстэрню пры школе; б) арганізаваць музэй краязнаўства і палітэхнізацыі.
9. Акрэсьлена паставіць працу школьнай канцылярыі.
10. Арганізаваць дасьледчы вучастак пры школе, які быў-бы сродкам палітэхнізацыі.

**Б) Навучальная і выхаваўчая праца:**

1. Забясьпечыць 100-процантнае выкананьне праграмы школы і нармальнай працягласьці навучальнага году.

2. Паставіць на належную вышыню плянавасьць і вучот ва ўсей працы школы.

3. Давесьці наведваньне школы з боку вучняў ва ўсіх кварталах году ня менш як на 100 проц., ня лічачы асабліва ўважлівых прычын.

4. Не дапушчаць аніводнага пропуску і спазьненьня з боку настаўніцтва бяз уважлівых прычын.

5. Шырока разгарнуць працу па ўкараненьні актыўных марксысцка-ленінскіх мэтадаў выкладаньня.

6. Арганізаваць сыстэматычную дапамогу адстаючым вучням.

7. Давесьці проц. пасьпяховасьці па школе ня ніжэй 96 пры падвышэньні якасьці ведаў выпускаемых са школы вучняў і перавадзімых з групы ў групу. Дамагацца 100 процантнага выпуску 7-й групы.

8. На працягу навучальнага году ператварыць школу ў сапраўды-палітэхнічную, дабіўшыся поўнага выкананьня ўмоў і плянаў палітэхнізацыі.

9. У галіне інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня дабіцца:

а) сваячасовага выкрыцьця ўсіх выпадкаў антысэмітызму, шавінізму, нацыяналдэмакратызму, рэлігійнасьці і інш. праяў шкоднай ідэялёгіі з тым, каб адразу рэагаваць на гэтыя зьявы праз вучнёўскае самакіраваньне, агульныя вучнёўскія і бацькоўскія сходы і школьны насьценны друк;

б) прасякненьня праграмнага матарʼялу неабходнымі выхаваўчымі момантамі;

в) 100 проц. наведваньня вучнямі школы ў дні рэлігійных сьвят;

г) арганізацыі на працягу году ня менш 10 вечароў інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага зьместу з удзелам усіх рабочых, калгасьнікаў і інш. працоўнага насельніцтва;

д) выпуску на працягу году ня менш 25-ці нумароў насьценнай газэты з інтэрнацыянальным і антырэлігійным зьместам. Усіх насьценгазэт па школе выпусьціць на працягу году ня менш 100 нумароў—агульна-школьных і па клясах;

е) 100 проц. ахопу вучняў добраахвотнымі арганізацыямі (МОПР, АЗЭТ, АСА, СВБ і інш.) з максымальным удзелам вучняў ня больш як у 2-х арганізацыях і разгортваньня вакол гэтых ячэек сыстэматычнай працы па інтэрнацыянальна-клясавым і антырэлігійным выхаваньні;

ж) наладжваньня шчыльнай сувязі з нацыянальнымі школамі, практыкуючы сумеснае выкананьне грамадзка-карыснай працы, сумесныя пасяджэньні вучнёўскага самакіраваньня, экскурсіі і г. д.;

з) 100 проц. ахопу вучняў падпіскай на газэты, часопісы і шырокага разгортваньня крытыкі і самакрытыкі;

і) правядзеньня сьвяткаваньня: Кастрычніцкай рэвалюцыі, дня Леніна, 1-га мая, дня школы, МЮД.

10. Школа праводзіць растлумачальную працу па папулярызацыі ідэй камуністычнага выхаваньня наогул і палітэхнізацыі школы ў прыватнасьці сярод акаляючага насельніцтва.

11. Шырока разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва сярод паасобных кляс, вучнёўскіх брыгад і паасобных вучняў.

**В) Самакіраваньне і піянэр-праца**

1. З пачатку навучальнага году арганізаваць вучнёўскае самакіраваньне паводле існуючага палажэньня.

2. Забясьпечыць сталую плянавасьць і вучот працы ўсіх органаў вучнёўскага самакіраваньня.

3. Распрацаваць пытаньне аб увядзеньні клюбных гадзін з тым, каб пасьля 7-га лістапада ўвесьці іх, забясьпечыўшы належны зьмест іх працы.

4. Забясьпечыць умовы для шырокага разгортваньня працы ячэек добраахвотных таварыстваў.

5. Паставіць на належную вышыню працу гурткоў, дабіўшыся плянавасьці ў іх працы.

6. Арганізаваць пры школе куткі: „Ленінскі“, „МОПР“, „Вайсковы“, „Антырэлігійны“.

7. Зьмест працы вучнёўскага самакіраваньня падпарадкаваць выкананьню

вытворчага пляну школы і дагавароў з камбінатам і МТС, наладжваньню сьвядомай дысцыпліны сярод вучнёўскага калектыву і наладжваньню грамадзка-карыснай працы школы, падпарадкаваўшы яе вучэбна-выхаваўчым задачам школы.

Аказваць усямерную дапамогу існуючым пры школе піянэрскім арганізацыям, дабіўшыся таго, каб піянэр-арганізацыі зрабіліся сапраўды палітычным арганізатарам вучнёўскай масы.

9. Заслухаць даклады вучнёўскага самакіраваньня на школьным савеце ня менш 3 разоў у год і ня менш 2 разоў на рабочых сходах камбінату.

10. Дабіцца поўнага ахопу вучняў працай вучнёўскага самакіраваньня, разьмеркаваўшы раўналежна нагрузку сярод вучняў.

### Г) Грамадзка—карысная праца

1. Школа бярэ культшэфства над адным калгасам і 3-4ма вясковымі школамі.

2. Прымае ўдзел ва ўсіх грамадзка-палітычных кампаніях.

3. Вядзе растлумачальную працу па мабілізацыі ўвагі насельніцтва па выкананьні пяцігодкі ў галіне прамысловай і сельскагаспадарчай.

4. Вядзе культмасавую працу ў калгасах.

5. Вядзе працу па далейшай калектывізацыі вёскі з тым, каб дырэктыва партыі аб калектывізацыі да вясеньняй сяўбы 1932 г. калектывізаваць сельскую гаспадарку на 75 проц. у раёне школы была выканана. Школа сваімі сіламі арганізуе калгас у вёсцы Воршань.

6. Школа арганізуе сіламі настаўніцтва і вучняў 2 школы малапісьменных і 2 лікпункты, а таксама праводзіць групавое і індывідуальнае навучаньне з тым, каб на працягу навучальнага году поўнасьцю зьнішчыць няпісьменнасьць у раёне школы.

7. У вясновую сяўбовую ды уборачную кампанію—даць калгасам ня менш 600 працадзён і ў вясновую сяўбовую кампанію ня менш 1.000 працадзён, ачысьціць насеньня ня менш 20 тон і пратруціць ня менш 30 тон.

8. Школа вядзе працу па наладжваньні вучоту ў калгасах, замацаваньні зьдзельшчыны, наладжваньні арганізацыі працы і разьмеркаваньні ўраджаю ў тых калгасах, дзе школа будзе праводзіць працу ў парадку палітэхнізацыі.

9. Вядзе працу па растлумачэньні сярод калгасьнікаў і працоўнага сялянства-аб значэньні і карысьці набыцьця акцыі „Трактарацэнтру“. Сваімі сіламі школа распаўсюджвае акцыі ня менш, як на 15.000 руб.

10. Прымае ўдзел у распаўсюджваньні дзяржаўных пазык, у прыватнасьці пазыкі трэцяга рашаючага году пяцігодкі і наогул працу па мабілізацыі сродкаў. Працаўнікі школы падпісваюцца ня менш як на 100 проц. трэцяга рашаючага, а вучні падпісваюцца з такім разьлікам, каб на кожнага вучня пры калектыўнай падпісцы прыпадала ня менш 2-х руб. у сярэднім, калектыўныя ўкладаньні і вярбоўка 400 руб.

11. Школа вядзе працу па распаўсюджваньні літаратуры, газэт і часопісаў сярод працоўнага насельніцтва ня менш як на 400 руб.

12. Сабраць попелу ня менш як 100 пуд. усей школе і ня меньш 2 пуд. кожнаму вучню дома.

13. Сабраць жалезнага лому ня менш 4 тон, папяровых адкідаў ня менш 0,5 пуд. Сабраць на карысьць палітзьняволеных 100 руб., на карысьць абароны краіны 100 руб.

Гэтая сацумова Старадароскай беларускай ШКМ характэрна тым, што яна зьяўляецца дакумантам сацспаборніцтва настаўнікаў і вучняў. У ёй прадугледжаны такія пункты, якія могуць быць выкананы толькі сіламі настаўнікаў, напрыклад: пункт—аб вытворчых нарадах. У сацумове сустракаюцца недастаткова канкрэтныя пункты, напрыклад—фармулёўка, што школа „вядзе растлумачальную працу па мабілізацыі ўвагі насельніцтва па выкананьні пяцігодкі ў галіне прамысловай і сельскагаспадарчай“. Альбо: „Школа вядзе культмасавую працу ў калгасах“. Тут ёсьць толькі агульныя выразы, не паказаны канкрэтныя каэфіцыенты, за якія школа павінна змагацца. Нельга прызнаць здавальняючай таксама фар-

мулёўку адносна абавязкаў школы па грамадзкай працы ў калгасах, бо тут не падкрэсьліваецца тое, наколькі гэтая грамадзкая праца будзе садзейнічаць паглыбленьню і пашырэньню навучальна-выхаваўчай працы школы.

Часта назіраецца, што школы ў парадку сустрэчнага пляну бяруць на сябе дадатковыя абавязкі, якія ня былі вызначаны у сацумовах школ, выступіўшых у якасьці ініцыятараў сацспаборніцтва.

Выклікаючы на сацспаборніцтва Забалоцкую школу, Пабалаўская 7-годка высунула ў сацумове наступныя пункты:

1. За 100 проц. наведваньне школы вучнямі, выключаючы ўважлівыя прычыны.
2. За 100 проц. зьнішчэньне спазьненьняў сярод вучняў і настаўнікаў.
3. Дабіцца пасьпяховасьці вучняў на 100 проц.
4. Стварыць гурткі дапамогі слабым вучням.
5. За падтрыманьне гігіены ў школе і дома.
6. За 100 проц. выпісваньне газэт вучнямі.
7. На працягу ўсяго навучальнага году выпусьціць ня менш, як 6 агульна-школьных і клясных газэт штомесячна.
8. Зьбіраць на працягу году мэталёвы і шкляны лом, а таксама папяровую макулатуру.
9. Сабраць да вясновай сяўбы ня менш, як 100 пуд. попелу.
10. Кожнаму вучню ўступіць ня менш, як у адну грамадзкую арганізацыю.
11. Разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж вучнямі і клясамі.
12. Падпісацца калектыўна на пазыку 3-га рашаючага году 5-годкі, на суму ня менш як на 200 руб.
13. Падпісацца калектыўна на акцыі Трактарацэнтру на суму ня менш як на 100 руб.
14. Зрабіць у школе Ленінскі куток, куток „Бязбожніка“, МОПР,у і Асаавіяхіму. Арганізаваць гурткі бягучай палітыкі, ваянізацыі і бязбожніка.
15. Арганізаваць пры школе гарачыя сьнеданьні, ахапіўшы вучняў калгасьнікаў і беднаты.
16. Усіх старэйшых вучняў ахапіць на 100 проц. піянэр-атрадамі.
17. Заключыць умову па палітэхнізацыі з саўгасам або калгасам.
18. Стварыць фонд дапамогі бяднейшым вучням на суму ня менш, як 500 руб.
19. Прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні розных гаспадарча-палітычных кампаній.
20. Кожны вучань, пачынаючы з 3 групы, павінен зрабіцца ўкладчыкам ашчадкасы.

Атрымаўшы выклік Пабалаўскай школы з вышэй пададзеным праектам сац. умовы, Забалоцкая ШКМ-адказала наступнае: „Выклік на сац. спаборніцтва з вашага боку Забалоцкая 4-х камплектовая школа прымае, будучы згодна да выкананьня ўсіх пунктаў умовы, акрамя п.п. 12, 13, 18, якія Забалоцкая школа бярэ выканаць на 50 проц. і з свайго боку дадае наступныя пункты:

1. Вучнёўскае самакіраваньне арганізаваць не пазьней 15 га верасьня 1931 г. Вытворчую нараду арганізаваць да 1-га верасьня, камсод і школьны савет да 1-га кастрычніка.
2. Вытворчыя нарады праводзіць ня менш 2 раз у месяц, камсод і школьны савет 1 раз у месяц.
3. Агульна-школьныя сходы бацькоў склікаць 1 раз у 3 месяцы, сходы па групах 2 разы ў год, на працягу году школа павінна зрабіць ня менш 3-х справаздач.
4. Чотка паставіць працу школьнай канцылярыі, сваячасова дасылаючы патрабуемыя зьвесткі.
5. На 100 проц. выканаць навучальныя праграмы. Разьмеркаваньне падручнікаў, пісьмовых прылад рабіць па клясавым прынцыпе. Да 10-га кастрычніка 1931г. скласьці вытворча-гадавы плян працы школы. Дабіцца 100 проц. пасьпяховасьці вучняў, звярачваючы ўвагу на якасьць працы.
6. Весьці рашучую барацьбу з усімі праявамі антысэмітызму, шавінізму і нацыянал-дэмакратызму, сваячасова выкрываючы і рэагуючы праз школьныя саветы і вучнёўскае самакіраваньне.
7. Школа павінна прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні 3-й вясновай бальшавіцкай сяўбы і ў разгортваньні сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

9 На працягу навучальнага году зрабіць ня менш 3-х ранішнікаў і 2-х антырэлігійных вечароў з удзелам бацькоў.

10. На 100 проц. ліквідаваць няпісьменнасьць на працягу 1931-32 г.

11. Арганізаваць падвоз дзяцей у школу.

12. Наладзіць вучот працы камсоду.

13. Скласьці плян вучнёўскага самакіраваньня, перавёўшы яго на новую праграму.

14. Захоўваць клясавы прынцып у разьмеркаваньні вопраткі, абутку і гарачага сьнеданьня.

15. Аказваць дапамогу партыйным і савецкім арганізацыям у правядзеньні калектывізацыі і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня існуючых калгасаў.

16. Праверку сац. умовы рабіць 2 разы ў год.

17. Утварыць прэміяльны фонд для лепшых ударнікаў-вучняў.

18. Кожны вучань III, IV і V клясы павінны завербаваць ня менш 2-х падпішчыкаў на газэты.

19. Вучням III, IV і V клясы на працягу навучальнага году дабіцца ўцягненьня сваіх бацькоў у калгасы.

Мы бачым, што Забалоцкая школа зрабіла цэлы шэраг прынцыпова важных дадаткаў да праекту сац. умовы Пабалаўскай ШКМ, як, напрыклад, у барацьбе за якасьць вучобы, за разгортваньне інтэрнацыянальнага выхаваньня, за наладжваньне грамадзкай працы школы, за матар'яльнае забесьпячэньне вучняў і г.д. Мы павінны ўважліва падтрымліваць і разьвіваць у школах крытычны падыход да розных прапаноў, якія высоўваюцца той ці іншай стараной у працэсе сац. спаборніцтва. Гэта садзейнічае разьвіцьцю ініцыятывы вучняў і дапамагае ўстанавіць правільныя прынцыпы сац. умоў.

Спаборніцтва паміж клясамі, групамі, часовымі брыгадамі і паасобнымі вучнямі ў большасьці выпадкаў ня ставіць перад сабою якіх-небудзь новых задач у параўнаньні з тымі, што ўстаноўлены ў агульна-школьных сацумовах. Таму мы ня спыняемся спэцыяльна на разглядзе сац. умоў, заключаных паміж клясамі, групамі, брыгадамі і паасобнымі вучнямі. Абмяжуемся толькі некалькімі маленькімі прыкладамі. Сац. спаборніцтва паміж вучнямі 2-й групы Горацкай расійскай ШКМ і 2-й групай яўрэйскай школы разгортваецца па наступных прынцыпах:

1. Не спазьняцца на заняткі.
2. Ня лаяцца і ня драцца.
3. Быць добрымі таварышамі ў адносінах вучняў іншых школ.
4. Сабраць попел для калгасаў.
5. Дапамагаць адстаючым вучням.

Да гэтых пунктаў, якія былі высунуты вучнямі 2-й групы яўрэйскай школы, вучні 2-й групы расійскай ШКМ дадалі новыя абавязкі:

1. Кожнаму вучню сабраць попелу ня менш 8 кгр.
2. Сабраць па 2 кгр. утыль-сыравіны.
3. Кожнаму вучню быць укладальнікам ашчадкасы.
4. Асьвятляць жыцьцё і працу групы у Ільлічоўцы, аднаўляючы яе кожны месяц.
5. Падпісацца на пазыку „3-га рашаючага году".
6. Мець на кожных 5 вучняў 1 газэту.

Гэтая сац. умова, на жаль, мала звярочвае ўвагу на наладжваньне вучобы. Дадаткі вучняў расійскай школы накіраваны, галоўным чынам, у бок канкрэтызацыі пунктаў па грамадзкай працы.

Цікава пабудавана сацумова 3-х груп Горацкай расійскай і беларускай ШКМ. Тут высунуты такія пункты:

1. Сачыць за чыстатой у клясе.
2. Праветрываць клясу ў кожную перамену.
3. Вучні павінны сядзець у клясе без галаўных убораў.
4. У баку павінна быць гатаваная вада.
5. У час сьнеданьня не размаўляць і не хадзіць па клясе. Кожны вучань павінен мець сваю салфэтку.
6. Абавязкова стрыжка валос у хлапцоў—1 раз у месяц, а ў дзяўчат—паводле паказаньня ўрача.
7. Кожнаму вучню набыць зубны парашок і шчотку.
8. Рабіць маленькія даклады (ня сказана—па якіх пытаньнях, П. П.) пры дапамозе ўрача.
9. Весьці вучот хворых вучняў і не дапушчаць у клясу хворых заразьлівымі хваробамі.

10. У кляснай дошцы павінны быць заўсёды трапка і крэйда.
11. Не апранаць чужога паліто і сачыць, каб усе паліто віселі на вешалцы.
12. Да кожнага паліто павінна быць прышыта вешалка.
13. Ва ўсіх вучняў павінны быць абрэзаны ногці.
14. Не адзяваць чужых платкоў, а таксама не закалваць чужых грэбняў.
15. Ня бегаць граднымі нагамі па партах.
16. Акуратна раздаваць чашкі.
17. Пасьля чаю не выбягаць без паліто на вуліцу.
18 Вучні не павінны рэзаць парт і мазаць іх крэйдай.
19. Выпусьціць 4 насьценных газэты ў год.
20. Да рэвалюцыйных сьвят рыхтаваць лёзунгі.
21. Выпісваць газэты індывідуальна і калектыўна.
22. Весьці растлумачальную працу сярод бацькоў (а ў якім напрамку—нічога ня сказана, П. П.).
23. Рабіць на ранішніках даклады.
24. Сачыць за тым, каб кожны вучань уступіў ня менш, чым у 2 арганізацыі.
25. Сачыць за тым, каб кожны вучань выпісаў „Піянэр Беларусі" і „Пионерскую Правду".
26. Змагацца ў школе з антысэмітызмам і шавінізмам.
27. Ліквідаваць абязьлічку.
28. Шырока разгарнуць мэтады ўдарніцтва і сац. спаборніцтва па вучобе і практычнай працы.
29. Сіламі вучняў зрабіць для падшэфнага калгасу 10 грабель.
30. Дамагацца сур'ёзных адносін і акуратнага выкананьня заданьняў па вытворчай працы.
31. Навучальны матар'ял прапрацоўваць, па мажлівасьці, лябараторным мэтадам.
32. Для прапрацоўкі разьбіць вучняў на брыгады, прымацаваўшы моцных да слабейшых.
33. Паміж брыгадамі разгарнуць мэтады ўдарніцтва і сац. спаборніцтва.
34. Дамагацца акуратнага наведваньня вучнямі лекцый і належнай прапрацоўкі матар'ялу, зжыцьця другагодніцтва і дабіцца такім чынам 100% пасьпяховасьці.
35. Дабіцца 100 проц. зьнішчэньня беспрычынных прагулаў і спазьненьняў на лекцыі.
36. Дабіцца правядзеньня ў жыцьцё пастановы ЦК Усе КП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе.
37. Дабіцца беражлівых адносін, як да падручнікаў, гэтак і да навучальных дапаможнікаў.
38. Дабіцца 100 проц. рабочай дысцыпліны ў час перамен і па—за школай.
39. Правесьці збор сродкаў на карысьць палітзьняволеных.
40. Прыняць актыўны ўдзел у веснавой пасяўной кампаніі.
41. Дапамагчы падшэфнаму калгасу ўбраць з палёў бульбу, для чаго арганізаваць тры выхады.
42. Арганізаваць ячэйкі добраахвотных т-ваў, як-та: АСА, МОПР, АЗЭТ, ТПН, „Друг дзяцей" і інш.

Абавязкі па сацспаборніцтву—сац. умова пералічвае коратка, у лёканічнай форме. Важнейшыя моманты школьнай працы тут адбіты з дастатковай паўнатой. Зьвернута значная ўвага на барацьбу за школьную санітарыю і гігіену. У справе арганізацыі школьнай працы сац. умова дапушчае „лявацкі" перагіб. Для прапрацоўкі навучальнага матар'ялу раіцца толькі адзін лябараторны мэтад і разьбіўка вучняў на брыгады. Гэта няправільна. Пры выкладаньні ў школе нельга абмяжоўвацца толькі лябараторным мэтадам, але трэба ўжываць і іншыя мэтады, якія садзейнічаюць набыцьцю і ўмацаваньню ведаў, напрыклад: мэтад гутаркі, лекцыя, экскурсія і г. д. Камплектаваньне брыгад павінна быць добраахвотнае і на кароткі час пры ўжываньні індывідуальных форм працы. Трэба змагацца супроць абязьлічкі, якая вельмі часта захоўваецца ў брыгаднай працы. Кожны вучань павінен мець канкрэтнае заданьне, за якое ён нясе індывідуальную адказнасьць. Праверка ведаў вучняў у асноўным павінна ісьці не па брыгадах, а па лініі кожнага вучня паасобку.

Сац. умовы па брыгадах, якія павінны быць часовымі, маюць звычайны характар. Напрыклад: у Пухавіцкай беларускай ШКМ — сацумова паміж

брыгадай № 10 і брыгадай № 5—5-й клясы „б“, кажа наступнае:

1. Не пазьніцца на лекцыі.
2. 100 процантнае наведваньне школы.
3. Быць кожнаму вучню ў якім-небудзь гуртку.
4. У час лекцыі скідаць вопратку.
5. Сваячасова здаваць заданьні.
6. Выконваць пастановы школы.
7. Не ламаць школьнай мэблі.
8. Весьці сябе добра як у школе, гэтак і па-за школай.

Такая брыгадная сацумова зьяўляецца адбіткам пэўнай часткі агульнашкольнай умовы, паўтараючы яе ў скарочаным выглядзе. Па такім-жа прыкладзе складаюцца сацумовы і паміж паасобнымі вучнямі. Калі часовыя брыгады маюць спэцыяльны напрамак сваёй працы—культурны, гаспадарчы, санітарна-гігіенічны і г. д.,—звычайна сац. спаборніцтва паміж гэткімі брыгадамі таксама набывае спэцыяльны зьмест, а менавіта: культурныя брыгады спаборнічаюць паміж сабой, галоўным чынам, па культурных пытаньнях, санітарна-гігіенічныя брыгады—па аздаравіцельных мерапрыемствах і г. д. Спаборніцтва паміж школамі, клясамі і брыгадамі розных нацыянальнасьцяй у большасьці выпадкаў завастраецца вакол задач інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня. У сацумове 3-й Мсьціслаўскай яўрэйскай ШКМ, побач з іншымі пунктамі, ёсьць і такія: „Змагацца з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і не паслабляць змагацца з антысэмітызмам, яўрэйскім шавінізмам і іншымі нацыяналістычнымі варожымі ўхіламі. Правесьці ня менш 3-х інтэрнацыянальных вечароў, паставіўшы на іх даклады аб нацыянальнай палітыцы камуністычнай партыі і савецкай улады. Наладзіць палітсуд над антысэмітам і шавіністам. Арганізаваць даклад аб нацыянальнай палітыцы ў капіталістычных краінах. Практыкаваць сумесныя пасяджэньні саветаў вучнёўскага самакіраваньня беларускіх і яўрэйскіх школ, а таксама і сходаў. Дабіцца правядзеньня сац. умоў паасобных груп беларускіх і яўрэйскіх школ. Арганізаваць у школах гурткі ваяўнічых бязбожнікаў і ўзмацніць працу ў іх. Правесьці ня менш 3-х антырэлігійных вечароў, паставіўшы на іх даклады аб клясавай сутнасьці рэлігіі. Кожнаму вучню весьці культурную працу сярод сваіх бацькоў. Выпісаць на сродкі вучняў 100 экз. газэты „Бязбожнік“.

Мы ўжо казалі, што сацумовы павінны быць канкрэтнымі і мець акрэсьленыя паказальнікі, за якія вучні змагаюцца ў працэсе сац. спаборніцтва. Але гэтыя паказальнікі павінны быць рэальнымі, адпавядаць навучальна-выхаваўчым задачам школы і быць даступнымі для вучняў. Неабходна ўхіляцца ў сац. умовах агульных фармулёвак, а таксама і такіх лічбаў, якія набліжаюць сац. спаборніцтва да пэдагагічнага пражэкцёрства. У якасьці дакуманту „лявацкага“ пражэкцёрства можна падаць сац. умову паміж 5а і 5б групамі Горскай бел. ШКМ, Горацкага раёну. Тут мы чытаем наступнае: Мы, вучні 5-й групы „Б“—выклікаем 5-ю групу „А“ на сац. спаборніцтва па пытаньнях:

1. Аб 100 проц. выкананьні прамфінпляну (якога прамфінпляну—ня сказана. П. П.).
2. Аб 100 проц. выкананьні гадавой праграмы (якой праграмы таксама не яскрава. П. П.).
3. Аб 100 проц. дысцыпліне, як у школе, так і па-за школаю.
4. Аб 100 проц. пасьпяховасьці ў вучобе.
5. Аб 100 проц. выкананьні грамадзкай працы.
6. 100 проц. ліквідацыя няпісьменнасьці.
7. 100 проц. выкананьня нагрузак.
8. „ „ сац. умоў.
9. „ „ уступленьня вучняў у арганізацыю Асаавіяхім, МОПР, Бязбожнік.
10. 100 проц. зьнішчэньня рэлігійных сьвят у школе (фармулёўка няправільная,—быццам у савецкай школе ёсьць рэлігійныя сьвяты. П. П.).
11. 100 проц. наведваньня школы.
12. „ „ зьнішчэньня спазьненьняў.
13. „ „ выпіска газэт і часопісаў (якіх газэт і часопісаў... мажліва надумаць, што ўсіх газэт і ўсіх часопісаў. П. П.)
14. 100 проц. зьбіраньне попелу на школе (а колькі кгр. менавіта — ня сказана. П. П.).

15. Аб 100 проц. палітэхнізацыі гуртка.
16 100 проц. удзел вучняў у 3-й бальшавіцкай сяўбе.
17. 100 проц. здачы заметак у насьценгазэту.
18. 100 проц. выяўленьне прагульшчыкаў.
19. 100 проц. ўважлівыя адносіны да дзяжурства, як па клясе, так і па школе.
20. 100 проц. наведваньне гурткоў (АСА, МОПР, Бязбожнік, АЗЭТ і г. д.).
21. Аб добрых і якасных выпусках клясных газэт.
22. 100 проц. добрай працы клясных арганізацый.

Гэты „100 процантны" дакумант сьведчыць на 100 проц. аб тым, як нельга злоўжываць „100 процантнымі" паказальнікамі пры сац. спаборніцтве. Цэлы шэраг пунктаў у сац. умове гучыць надзвычайна наіўна, мае абстрактны характар, не зьяўляецца акрэсьленым. Хоць аўтары сац. умовы пратэндуюць на матэматычную точнасьць, апэруючы лічбамі, аднак, шмат якія пункты зусім ня кажуць аб тым, за што-ж, урэшце, вучні павінны змагацца ў сац. спаборніцтве... Ну, што-ж можа даць канкрэтнага такая фармулёўка, як, напрыклад—100 проц. выкананьне грамадзкай працы, 100 проц. палітэхнізацыя гуртка, 100 проц. зьбіраньне попелу па школе і г. д. Гэтыя пункты зусім незразумелы, паколькі яны ня кажуць, якая менавіта павінна быць разгорнута грамадзкая праца, колькі кгр. попелу трэба сабраць па школе з разьлікам на вучня, колькі трэба выпісаць такіх-та газэт і г. д. Некаторыя пункты проста ня будуць выкананы па сваёй нерэальнасьці, напрыклад—100 проц. удзел у пасяўной кампаніі, 100 проц. здача заметак у насьценгазэту, 100 проц. добрая праца клясных арганізацый і г. д.

Пагоня за „стопроцантнымі" паказальнікамі і лічбовымі каэфіцыентамі там, дзе іх ня можа быць па тых ці іншых прычынах, ёсьць „лявацкае" пражэкцёрства ў справе сац. спаборніцтва. Сац. умова 100 процантных заданьняў па ўсіх галінах школьнай працы нерэальна і ня можна быць сур'ёзным дакумантам мабілізацыі вучняў на максымальнае выкананьне школьных плянаў і праграм пры даных канкрэтных умовах.

Такая сац. умова можа ўзбудзіць у вучняў толькі адно: лёгкадумныя адносіны да выкананьня сваіх абавязкаў пры сац. спаборніцтве.

У некаторых школах практыкуецца сац. спаборніцтва паміж вучнямі і настаўнікамі. Такая форма сац. спаборніцтва можа даць вялікі выхаваўчы эфэкт, бо ўзорны прыклад настаўніка, з якім вучні спаборнічаюць, захапляе дзяцей і выклікае ў іх патрэбу рашуча змагацца за выкананьне навучальных праграм і плянаў.

Гэтыя формы сац. спаборніцтва мы сустракаем у І-й Слуцкай бел. ШКМ. Пададзім адзін прыклад: сац. спаборніцтва паміж вучнямі VI й групы „Б" і прымацаваным да групы настаўнікам т. Гр-ч на 1931-32 г. У сац. умове тут напісана: „Мы, вучні VI-й групы „Б", заключыўшы гэты дагавор з настаўнікам Гр-ч, абявязуемся ўдарна выканаць наступнае: зьнішчыць прагулы і спазьненьні на 100 проц., захоўваць працоўную дысцыпліну ў час лекцый усіх выкладчыкаў, берагчы школьную маёмасьць, наведаваць усе сходы—групавыя і агульнашкольныя, сачыць за санітарна-гігіенічнымі ўмовамі ў школе, зьнішчыць поўнасьцю курэньне і лаянку, у час дзяжурства выконваць дасканала свае абавязкі—абавязкі дзяжурнага, выпісваць кожнаму ня менш 2-х газэт, актыўна ўдзельнічаць у выпуску сваёй групавой газэты па кожнаму нумару, актыўна ўдзельнічаць у працы ня менш як у дзьвёх грамадзкіх арганізацыях, акуратна выконваць ускладзеныя адміністрацыяй і арганізацыямі школы абавязкі ў галіне школьнай і па-за школьнай грамадзкай працы, актыўна ўдзельнічаць у правядзеньні палітычна-гаспадарчых кампаній і рэвалюцыйных сьвятах, добрасумленна выконваць лекцыйныя заданьні выкладчыкаў па ўсіх дысцыплінах, выконваць сац. дагаворы з іншымі групамі і школамі на 100 проц., заключыць сац. дагаворы паміж брыгадамі і выконваць іх па ўдарнаму, ляскому і ўсім брыгадам праводзіць сваю працу ў строгай плянавасьці, весьці рашучую барацьбу з праявамі

антысэмітызму і шавінізму розных колераў, змагацца за падняцьце клясаваінтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня, шырока разгарнуць праз друк і насьценгазэту і на сходах крытыку і самакрытыку, дабіцца выкананьня лёзунгу: „Да веснавой пасяўной кампаніі 1932 г. усе бацькі вучняў—бедняскі і серадняскі—сяляне ў калгасы“, стала наведваць школьную чытальню, а таксама карыстацца бібліятэкай, прачытваць ня менш І-й кніжкі ў дэкаду.

Выкладчык Гр-ч па грамадазнаўстве, з свайго боку абавязуецца перад вучнёўскай групай выканаць наступныя пункты гэтага дагавору: 1, 3, 4, 5, 9 10, 11, 14, 18, 19; даводзіць пляны працы па грамадазнаўстве да клясы, брыгады і кожнага вучня, даводзіць у пісьмовай форме заданьні па грамадазнаўстве, дапамагаць брыгадам у час распрацоўкі матар“ялу, асабліва слабейшым вучням; дабіцца 100 проц. пасьпяховасьці па грамадазнаўстве, для падагульненьня разьдзелаў прадмету праводзіць канфэрэнцыі і акадэмічныя бойкі, абвясьціць сябе ўдарнікам, актыўна працаваць у вытворчых нарадах, выконваць абавязкі, якія дае кляском. Яшчэ раз паўтараем, што сац. спаборніцтва паміж вучнямі і настаўнікамі можа даць значны выхаваучы вынік, калі толькі настаўнікі будудь стаяць на вышыні сапраўдных савецкіх пэдагогаў і цьвёрда выконваць узятыя па сац. спаборніцтве абавязкі.

Некаторыя школы разгарнулі сац. спаборніцтва паміж вучнёўскімі грамадзкімі арганізацыямі. У якасьці прыкладу, можа быць прыведзена сац. умова Асаавіяхіму І і ІІ-й ШКМ, г. Мсьціслаўль.

У гэтай сац. умове высунуты пункты: „На працягу навучальнага году ўцягнуць вучняў у ячэйку Асаавіяхіму на 75 проц.; у падшэфным калгасе арганізаваць ячэйку Асаавіяхіму; распаўсюдзіць лётарэйных білетаў ня мёнш як на 200 руб.; зрабіць 2 платных вечары на карысьць абароны краіны; рабіць пасядженьні бюро ячэйкі 2 разы ў месяц і агульны сход І раз у месяц з дакладамі; арганізаваць пры школе куток Асаавіяхіму, забясьпечыўшы яго належнай літаратурай; арганізаваць пры школе стралковы гурток; на сродкі ячэйкі выпісаць часопіс „Асаавіяхіму“ і газэту „Красная Звезда“, сваячасова плаціць сяброўскія узносы; наведваць сходы ячэйкі на 95 проц. Гэта сац. умова, паміж іншым, паказвае, у поўнай ступені, якім чынам праходзіць ваянізацыя нашай школы. Іншыя школьныя грамадзкія арганізацыі—„Бязбожнік“, „Мопр“, і г. д. таксама павінны быць уцягнуты ў сац. спаборніцтва.

Мы ня раз падкрэсьлівалі, што піянэры павінны адыгрываць вядучую ролю сярод дзяцей. У прыватнасьці яны павінны адыгрываць вядучую ролю і ў справе сац. спаборніцтва. Мы павінны цікавіцца тым, наколькі ў сац. умовах піянэрскіх арганізацый адбіваецца барацьба за палітэхнічную школу, за тэмпы і якасьць вучобы. Трэба адзначыць, што піянэрскія арганізацыі на працягу 1931-32 навучальнага году недастаткова займаліся пытаньнямі школы, канцэнтруючы сваю ўвагу, галоўным чынам, на грамадзка-палітычнай працы. 3-я Мсьціслаўская яур.ФЗС, у сваёй сац. умове адзначае: „Піянэрбазы абавязуюцца ўцягнуць 100 проц. вучняў—рабочых, батракоў, калгасьнікаў, серадняскоў—у шэрагі піянэрарганізацыі, лепшых піянэраў перадаваць у камсамол; піянэры змагаюцца за выкананьне навучальнага пляну; піянэры у кожнай школьнай групе арганізуюць піянэрбрыгады; ахапіць 100 проц. дзяцей-вучняў ад 7 да 10 г. у атрады акцябрат, забясьпечыўшы атрады кіраўнічым складам“. Вось і ўсё. Аб задачах піянэрарганізацый адносна барацьбы за якасьць вучобы сказана толькі ў адным пункце сац. умовы, тады як гэта пытаньне павінна было-б займаць цэнтральнае месца ў працы піянэраў. Тое-ж самае мы назіраем і ў І-й Мсьціслаўскай ШКМ, дзе сац. умова высоўвае для сац. спаборніцтва І-га і 3-га зьвяна піянэраў наступныя пункты: „Наладзіць дысцыпліну па зьвеньнявых занятках; аніводнага спазьненьня піянэраў на зьвеньнявыя заняткі; кожны піянэр павінен выпісваць ня менш І экз. газэты; праверыць паліт. вучобу піянэраў сіламі саміх піянэраў; кожны піянер павінен састаяць ня менш як у 3-х грамадзкіх арганізацыях; унесьці кожнаму піянэру на пазыку і на помнік Леніна; зьняць усім піянэрам чубы; акуратна наведваць усе піянэрскія сходы;

кожны піянэр павінен быць першым застрэльшчыкам у барацьбе за якасьць вучобы; падрыхтаваць лепшых піянэраў у камсамол: правесьці ў жыцьцё 6 умоў тав. Сталіна“. Толькі адзін пункт гаворыць аб тым, што — „кожны піянэр павінен быць першым застрэльшчыкам у барацьбе за якасьць вучобы“. Гэта недастаткова. Можна было-б выкінуць у крайнім выпадку малаважныя пункты, як, напрыклад „зьняць усім піянэрам чубы“, але-ж пытаньне школьнай вучобы павінна было-б заняць больш важнае месца ў сац. спаборніцтве, чым гэта назіраецца ў сац. умове піянэраў I-й Мсьціслаўскай ШКМ. А ёсьць выпадкі, калі гэта пытаньне зусім забываецца. Сац. умова I і 2-га атраду піянэраў 2-й Мсьціслаўскай школы зусім ня кажа ні слова аб барацьбе за якасьць вучобы, калі ня лічыць адзін абстрактны пункт, які патрабуе, каб кожны піянэр змагаўся са зрыўшчыкамі палітэхнізму. Адсюль ня цяжка зрабіць вывад: ёсьць піянэрскія арганізацыі, якія яшчэ не пераключыліся на выкананьне пастановы ЦК партыі аб школе. Неабходна дамагацца, каб у бліжэйшы час піянэры, у парадку сац. спаборніцтва, паставілі перад сабой задачу—безадкладнага і поўнага ажыцьцяўленьня пастановы ЦК партыі аб школе, а таксама пастановы ЦК партыі—аб піянэрскай арганізацыі.

Такім чынам, аналіз сац. умоў розных школ паказвае, што апартуністычныя скажэньні ў практычнай працы школ яшчэ ня зжыты і што неабходна працягваць зьнішчальную барацьбу супроць правацкіх і „лявацкіх“ праяў у справе школьнага будаўніцтва. Цэнтральным месцам сац. спаборніцтва вучняў трэба зрабіць барацьбу за ленінскую палітэхнізацыю школы, за тэмпы і якасьць вучобы, за сьвядомую дысцыпліну дзяцей і падлеткаў. У гэтай барацьбе, як мы казалі раней, наперадзе павінны ісьці піянэры і камсамольцы.

---

**Е. Сізы**

# Фізкультура ў палітэхнічнай школе

„Трэба вырасьціць новае пакаленьне рабочых здаровых і бадзёрых, здольных падняць магутнасьць савецкай краіны і абараняць яе грудзьмі ад замаху з боку ворагаў“ (Сталін).

Рашэньне ЦК УсеКП(б) ад 5 верасьня 1931 г. аб сярэдняй і пачатковай школе абавязвае ўсіх, а асабліва працаўнікоў культурнага фронту, удзяляць непараўнаўча большую ўвагу школе, дамагаючыся павышэньня якасьці вучэбнай работы, увязкі яе працы з вытворчасьцю, разьвіцьця самадзейнасьці вучняў. Фізычная культура ў школе павінна стаць аднэй з арганічных частак камуністычнага выхаваньня дзяцей.

Маркс пісаў, што адукацыя па сутнасьці ўключае ў сябе тры моманты: 1) разумовая адукацыя; 2) фізычнае разьвіцьцё, такое, якое даецца ў гімнастычных установах, і вайсковыя практыкаваньні; 3) палітэхнічнае выхаваньне, якое знаёміць з навуковымі асновамі ўсіх вытворчых працэсаў і ў той-жа час дае дзіцяці і падлетку практычныя навыкі і ўменьне абыходзіцца з простымі інструмантамі ўсіх вытворчасьцяй. (Маркс, рэзалюцыі I-га Кангрэсу і Інтэрнацыяналу). Гэтыя паказаньні Маркса высоўваюць фізычную культуру ў школе, поруч з іншымі школьнымі дысцыплінамі, важнейшым фактам правільнага выхаваньня дзіцяці. Трэба сказаць, што пытаньням фізычнага выхаваньня ў школе ўдзяляецца зусім недастатковая ўвага, як па лініі органаў нарасьветы, так і па лініі дзяржаўных органаў кіраўніцтва саветаў фізкультуры.

Фізкультурны рух у Беларусі, дабіўшыся значных посьпехаў у справе ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, перабудове зьместу працы на аснове высунутых задач падрыхтоўкі шырокіх працоўных мас к працы і абароне, ня мог не ахапіць савецкую школу. Аднак, на сёнь-

няшні дзень, мы ня можам заявіць, што пастаноўка фізкультуры ў школе цалкам адказвае адзіным установкам савецкай фізычнай культуры. Працаўнікам і выкладчыкам фізычнай культуры зараз трэба паставіць перад сабой баявую задачу перабудовы праграм па фізкультуры ў школе на аснове комплексу значка „Гатоў да працы і абароны“ з вучотам асаблівасьцяй школы, узросту, груп і г. д. Капіраваньне і механічнае перанясеньне форм у школу, пакінутых для дарослых, будзе бязумоўна няверным; мы павінны, на аснове агульнай установкі гатоўнасьці да працы і абароны, пабудаваць зьмест праграм па фізычным выхаваньні кожнай групы, для кожнага канцэнтру, у канечным выніку дабіваючыся адзінай мэтаімкнёнай сыстэмы для ўсіх узростаў, пачынаючы з дзіцячага, і канчаючы дарослымі.

Асноўнымі задачамі фізкультурнай работы ў палітэхнічнай школе зьяўляюцца:

а) забесьпячэньне нармальнага разьвіцьця і фармаваньня растучага арганізму;

б) ахова замацаваньня і загартаваньня растучага арганізму;

в) садзейнічаньне выхаваньню актыўнасьці, ініцыятывы, сьмеласьці, настойлівасьці, рашучасьці, лоўкасьці, рухомасьці, вытрыманасьці, меткасьці, рытму, хуткай арыентыроўкі, правільнага разьліку, маючых вялізарнейшае значэньне ў справе пасьпяховай падрыхтоўкі да працоўнай, баявой дзейнасьці;

г) выхаваньне прыкладных навыкаў, неабходных да працоўнай і баявой дзейнасьці; каардынацыя рытмічнасьці рухаў правільнага дыханьня пры рабоце, выпрацоўка правільнай хадзьбы, беганьня, перасоўваньне на вэлёсыпэдзе, матацыкле, аўтамабілі, трактары, лодцы, выпрацоўка ўменьня браць натуральныя і штучныя перашкоды, лазаньне, самаабарона, пераноска грузу, стральба і іншыя якасьці;

д) садзейнічаньне выхаваньню калектыўнасьці, арганізаванасьці, дысцыплінаванасьці, таварыскага паважаньня ў дзейнічаньні і згуртанаванасьці;

е) садзейнічаньне ўсей вучэбнай грамадзка-выхаваўчай рабоце, праводзімай ў школе;

ж) паведамленьне тэарытычных і практычных зьвестак па савецкай фізычнай культуры і міжнародным *рабочым спартыўным* руху;

з)выхаваньне фізкультурных, у тым ліку санітарна-гігіенічных навыкаў;

і) і, нарэшце, уцягваньне вучняў у самадзейны фізкультурны рух.

Правядзеньне гэтых задач у жыцьцё ў палітэхнічнай школе па сутнасьці зьявіцца выкананьнем марксысцка-ленінскіх паказаньняў аб усебакова-разьвітых бадзёрых барацьбітох сацыялістычнага будаўніцтва. Хто гэтага не зразумеў, той недаацэньвае аднаго з важнейшых зьвеньняў у справе правільнага камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня. Праўда, сярод сучасных выкладчыкаў няма амаль што такіх, якія-б адмаўлялі фізкультуру ў школе, але да гэтага моманту ўсё-ж існуюць тэндэнцыі пакіданьня яе на „задворках“ навучальнага пляну, незабесьпячэньне заняткаў адпаведным памяшканьнем, абсталяваньнем, кадрам добра падрыхтаваных выкладчыкаў і г. д.

Якія-ж асноўныя шляхі ўнядрэньня фізкультуры ў школу і ўвязкі яе з пытаньнямі палітэхнізму.

Раней за ўсё сама ідэя пабудовы праграм на аснове матар'ялу, які падрыхтоўвае дзяцей да працы і абароны, адказвае задачам, пастаўленым рашэньнямі партыі і ўраду перад савецкай школай. Рэалізацыя гэтых задач у школе павінна ісьці ў плоскасьці ўвядзеньня спэцыяльных плянавых заняткаў—фізпрактыкаваньняў, шляхам укараненьня элемэнтаў фізкультуры ў практычныя навучальныя заняткі, унясеньня пытаньняў фізкультуры ў іншыя дысцыпліны і адпаведнай гігіенізацыі школьных і вытворча-працоўных абставін вучобы, умоў быта і грамадзкай працы. Вельмі важна скарыстаць фізычную культуру для разгортваньня самадзейнай працы вучняў у па-за школьны час. У гэтых адносінах выключныя ўзоры дзіцячай самадзейнасьці паказаны ў Менскіх школах. У праводзімы конкурс на лепшы раён па фізкультуры ўключылася большасьць школ, дзеці разгарнулі працу, правялі сходы, выпусьцілі спэцыяльныя фізкультурныя газэты, арганізавалі

спэцыяльныя фізкультурныя брыгады, пачалі збор грошай у фонд сусьветнай спартакіяды, у парадку шэфства выехалі ў саўгасы і калгасы, дзе арганізавалі фізкультурныя калектывы. У школе праведзены масавыя здачы норм на дзіцячы значок „Гатоў да працы і абароны“. Гэтыя прыклады сьведчаць аб вялікай магчымасьці скарыстаньня фізкультуры ў справе грамадзка-палітычнай работы ў школах.

Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць пытаньню перанясеньня фізкультурнай вучобы ў натуральныя абставіны. У гэтых адносінах арганізацыя дзіцячых лягераў, выхады ў поле на лыжах, правядзеньне заняткаў на рацэ, на мясцовасьці, разьвіцьцё турызму, асабліва бліжэйшага, мае выключнае значэньне для баявой падрыхтоўкі. Да гэтага моманту ў школе вельмі кепска быў пастаўлены вучот якасьці фізычнай падрыхтоўкі кожнага вучня, лепшыя дасягненьні не адзначаліся, ня было адпаведнага стымулу ўдасканаленьня. У новых праграмах неабходна прадугледзіць пэўныя нарматыўныя паказчыкі для кожнай групы. У кожнай групе, як вынік усёй вучэбнай работы па фізкультуры, павінны зьявіцца іспыты па ўстаноўленых нормах, бязумоўна, у залежнасьці ад узросту, біолёгічных асаблівасьцяй, фізычнай падрыхтоўкі і г. д. —Гэта бязумоўна ўздыме інтарэсы школьнікаў да фізычнай культуры, і акрамя таго выкладчык фізкультуры зможа судзіць аб фізычнай адаронасьці вучняў. Неабходна адзначыць значэньне спаборніцтваў у школе. Калісьці яны многімі выкладчыкамі і фізкультурнымі працаўнікамі аспарваліся, што было бязумоўна памылковым; асаблівасьць дзіцяці не выключае магчымасьці правядзеньня спаборніцтваў у школе, бязумоўна зьмест праграм спаборніцтва ў школе павінен быць падпарадкаваны агульным задачам школы і мець камуністычны накірунак, прыстасоўвацца да рэвалюцыйных сьвят, грамадзка-палітычных мерапрыемстваў і г. д. У праграму павінен уводзіцца калектыўны залік, праводзіцца камандныя спаборніцтвы. І акрамя таго спаборніцтвы павінны адпаведным чынам дазіравацца ў залежнасьці ад узросту, фізычнай падрыхтоўкі і г. д. У практыцы фізкультурнай работы ў палітэхнічнай школе павінны знайсьці свой адбітак спаборніцтвы паміж групамі школы, паміжшкольныя спаборніцтвы і агульна-гарадзкія. Бязумоўна, уся гэтая работа па фізкультуры нямысьліма без належнага ўрачэбнага кантролю, санітарнай асьветы, арганізацыі і ўкараненьня самакантролю ў асяродак вучняў. Пасьпяховае разьвязаньне задач, пастаўленых перад фізкультурай у палітэхнічнай школе, залежыць у многім ад падрыхтоўкі адпаведных кадраў спэцыялістых-выкладчыкаў па фізычным выхаваньні. На вялікі жаль у нас, на Беларусі ў школах вельмі часта працуюць інструктары, скончыўшыя 2-х месячныя курсы, альбо сумяшчаюць гэту працу вайсковыя працаўнікі, не атрымаўшыя фізкультурнай адукацыі. Гэта палажэньне патрабуе выключнай увагі да гэтага адстаючага вучастку працы. Задача адчыненьня 3-х аддзяленьняў пры Пэдтэхнікумах, як мінімум у 1932 г., павінна быць рэалізавана НКАсьветы, бязумоўна, не выключаючы магчымасьці падрыхтоўкі кадраў праз каротка-тэрміновыя курсы і ўвядзеньня у праграмы розных курсаў і перападрыхтоўкі выкладчыкаў пытаньняў фізычнае культуры. Трэба канстатаваць, што кіраўніцтва з боку Народнага Камісарыяту Асьветы не забясьпечвала і не забясьпечвае поўную і правільную пастаноўку фізычнага выхаваньня ў школе і ў гэтых адносінах стварэньне кіруючага ядра па фізкультуры пры калегіі НКАсьветы настойліва высоўваецца жыцьцём.

Гэты круг фізкультурных пытаньняў, пастаўленых перад школай у зьвязку з палітэхнізацыяй, павінен быць па баявому і рашуча праведзены ў жыцьцё. Для гэтага неабходна мабілізаваць усіх выкладчыкаў фізычнай культуры, органы нарасьветы з тым, каб у бліжэйшы час перапрацаваць праграмы па фізкультуры на аснове новых установак, пастаўленых перад палітэхнічнай савецкай школай.

# АБМЕН ВОПЫТАМ ПРАЦЫ

А. А. Нікалаеў і П. Г. Пруднікаў

## Вопыт працы 6-ай Віцебскай ФЗС за 1931-32 навучальны год

Віцебская 6-ая ФЗС прышла да канца мінулага навучальнага году з належнымі паказальнікамі работы. І гэта, у асноўным, дасягненьні ў рабоце другога паўгодзьдзя. Першае паўгодзьдзе ў рабоце школы характарызуецца наяўнасьцю глыбачэйшых прарываў у барацьбе за сьвядомую дысцыцліну і, на гэтай аснове, у барацьбе за аўладаньне вучнямі „асноў навук“.

Пра гэта-ж трывожна сыгналізавала школьная насьценная газэта ў артыкуле, прысьвечаным перавыбарам органаў школьнага самакіраваньня:

„Нядаўна мы скончылі першае паўгодзьдзе нашага навучальнага году. Мы скончылі яго з вялікімі прарывамі па ўсіх галінах нашае працы, як у сэнсе дысцыпліны, так і ў вучобе. 20-30-40 проц. непасьпяховасьці—вось ганебныя лічбы вынікаў работы першага паўгодзьдзя“. Дзяткораўскі актыў школы многа раз на працягу ўсяго першага паўгодзьдзя сыгналізаваў пра наяўнасьць прарываў, адзначаючы зусім слабыя тэмпы ў справе мабілізацыі вучнёўскай масы і піянэрарганізацыі на выкананьне пастановы ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе, бязьдзейнасьць органаў школьнага самакіраваньня і слабую разгорнутасьць сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як сярод вучнёўства, гэтак і настаўніцтва.

Такім чынам, першае паўгодзьдзе для школы характарызуецца бязьдзейнасьцю органаў школьнага самакіраваньня, адсутнасьцю выхаваўчай работы сярод вучнёўства, поўным прарывам у грамадзка-палітычнай і культурна-масавай рабоце школы і ў разгортваньні сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як сярод вучнёўства, гэтак і настаўніцтва, і, на гэтай аснове, развалам дысцыпліны, высокім процантам непасьпяховасьці.

Як-жа магло стацца, што школа ў першым паўгодзьдзі прыйшла да такіх ганебных вынікаў? Як магло стацца, што школа, маючы ўсе аб'ектыўныя ўмовы для пасьпяховае работы, ня толькі не прасунулася ўперад у справе рэалізацыі пастановы ЦК аб школе, а зрабіла некалькі крокаў назад? Як магло стацца, што сыгналы дзяткораў былі пачуты параўнаўча позна? Дзе прычыны прарываў?

Сучасная 6-ая ФЗС утварылася ад зьліцьця дзьвёх школ: 6-ай і вопытна-практыкавальнай. Будучы пераведзенай з будынку Белпэдтэхнікуму ў цяперашні, школа папала ў значна горшыя ўмовы ў сэнсе забесьпячэньня памяшканьнямі: на 17 груп ёсьць толькі 8 клясных пакояў.

Факт зьліцьця гэтых школ выклікаў перастаноўку ў кіраўніцтве. Кожная школа прышла з сваімі традыцыямі ў рабоце і, пэўна, кожная з іх прэтэндавала на захаваньне сваіх традыцый. Правільнае правядзеньне зьліцьця школ вымагала шырокай растлумачальнай работы сярод вучняў і настаўніцтва, папярэдняга абмену вопытам, паказу дасягненьняў і недахопаў кожнае школы ў паасобку. На нашу думку гэта ня было праведзена. Вось чаму традыцыі 6-ой школы сустрэліся з традыцыямі вопытна - практыкавальнай, а сустрэўшыся, уступілі ў барацьбу.

Вучнёўскаму актыву ўноў утворанай школы некалі было займацца рэалізa-

цыяй пастановы ЦК аб школе.—Стаяла больш „важнае“ пытаньне:—Якой школы актыў мацнейшы, хто павінен лічыцца „гаспадаром“, а хто „госьцем“ ў новай школе, хто ў каго павінен вучыцца. Пэўна, што гэтыя моманты мелі месца і ў настаўніцкім калектыве і, нават, унутры кіраўніцтва школай. Пра гэта сьведчыць той факт, што актыў былой 6-ай школы, асабліва частка дзяткораў, сталі ў рэзкую апазыцыю новаму загадчыку тав. Каліноўскаму і, замест дапамогі, штодзёна бралі ў яго „інтэрв'ю“, праз друк („Віцебскі Пралетары“, Піонэр Беларусі“) займаліся кампрамэнтацыяй новага кіраўніцтва. Гэта-ж сьцьвярджаецца і выступленьнем выкладчыка грамадазнаўства тав. Раяк на школьным савеце:

„У былой 6-ай школе ў мінулым годзе, відаць, кіравалі ўсёй справай не настаўнікі, а вучні. Настаўнікі пляліся ў хвасьце, за выключэньнем чалавек 2—3. Настаўнікі не маглі ахапіць вучняў былой 6-ай школы і цяпер. Ад зьліцьця дзьвёх школ антаганізму паміж вучнямі не заўважваецца, а ёсьць непаладкі сярод вучняў, што ўтвараюць так званыя актывістыя, у сапраўднасьці-ж бузацёры“ (з пратаколу ад 3-га сьнежня 1931 году).

Такім чынам, апрача ўсяго іншага, 6-ая школа прыйшла да вопытна-практыкавальнай з традыцыяй недаацэнкі ролі настаўніка, абязьлічкі ў рабоце.

Сыстэматычнага дасьледваньня сацыяльна-бытавых умоў вучняў ні той ні другой школай не праводзілася. Праўда, гэта рабілася, але толькі тады, калі вучань чым-небудзь праштрафіцца, словам, ад выпадка да выпадку і, зусім зразумела, што ў такім разе гэтае мерапрыемства не магло мець прафілактычнага значэньня. Таксама школа яўна ігнаравала вывучэньне і арганізацыю па-за школьнай працы вучняў, арганізацыю дасугу і адпачынку рабят.

Камісія Гарсавету, якая рабіла агляд работы школы, у сваіх вывадах адзначае: „Настаўніцтва, ня гледзячы на добрасумленную працу асноўнай яго часткі, па баявому не пераключылася на барацьбу за палепшаньне працы вучнёўскага самакіраваньня, што прывяло да цэлага раду прарываў у дысцыплінаванасьці вучняў“.

А значыцца, мы маем права гаварыць пра недаацэнку ролі органаў школьнага самакіраваньня і піянэрарганізацыі ў справе мабілізацыі вучняў на барацьбу за выкананьне пастановы ЦК аб школе. А адсюль зусім законамерным будзе вывад, што кіраўніцтва школай, настаўніцкі калектыў на першых парах, мабыць, думалі адміністрацыйнымі мерамі рэалізаваць пастанову ЦК. Настаўніцкі калектыў, кіраўніцтва школаю, як відаць, слаба ўсьвядомілі тое палажэньне, што без масы вучнёўства і яе палітычнай арганізацыі-піянэрарганізацыі-пастанову ЦК ня выканаць.

„Выхавацель павінен быць сам выхаваны“ (Маркс). Для настаўніцтва гэтае палажэньне Маркса было ў значнай ступені чужым. Бо як інакш можна вытлумачыць той факт, што з 30 асоб агульнага ліку настаўнікаў гэтае школы да паловы кастрычніка леташняга году ўдарнікамі сябе абвясьціла толькі пяць настаўнікаў. Арганізаваць вучняў на ўдарную работу зможа настаўнік толькі тады, калі сам зьяўляецца сапраўдным ударнікам. Гэты факт сьведчыць пра недаацэнку мэтаду сацспаборніцтва і ўдарніцтва, як мэтаду камуністычнага выхаваньня, з боку настаўніцкага калектыву.

Сувязь школы з прадпрыемствам і рабочай грамадзкасьцю разумелася выключна з пункту гледжаньня спажывецкага: абсталяваньне майстэрняў, забесьпячэньне ўмоў для праходжаньня вытворчага навучаньня вучнямі на фабрыцы, атрыманьне ад фабрыкі 2000 р. грошай на дапамогу дзецям беднаты і г. д.

У адносінах-жа забесьпячэньня з боку фабрыкі і яе арганізацый штодзённага рабочага кантролю над школай, пытаньне ні з боку партыйных, камсамольскіх і прафэсіянальных арганізацый фабрыкі, ні з боку кіраўніцтва школай, больш менш настойліва і выразна ня ставілася.

Школа мае досыць вялікі дзяткораўскі актыў. Здавалася-б, што рэдакцыя „Віцебскі Пралетары“ мусіла ўдзяліць належную ўвагу выхаваньню іх, рабоце з імі.

На вялікі жаль, рэдакцыя гэтым пахваліцца ня можа.

Усё гэта стварыла багатую глебу для кругавое парукі, пашырэньня блатной маралі, зажыму крытыкі і самакрытыкі, разлажэньня сярод часткі вучняў. Узьняў голаву вялікадзяржаўны шавінізм, антысэмітызм, яўрэйскі шавінізм, беларускі шавінізм. Пад размовы аб тым, хто „госьць“, а хто „гаспадар“, лібэральную балбатню пра ўдарніцтва, клясавы вораг тварыў сваю справу.

## Клясавы вораг выкарыстаў слабыя зьвеньні ў арганізацыі працы ўноў утворанай школы.

Прывядзем некаторыя прыклады.

На дэманстрацыю ў кастрычніцкія сьвяты зьявілася ўсяго 15 вучняў. Пэдагагічная рада гэта кваліфікавала, як зрыў дэманстрацыі, загадзя падрыхтаваны. Таксама быў сарваны вечар, прысьвечаны Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Мелі месца сыстэматычныя пагрозы з боку часткі вучняў па адрасе настаўнікаў і вучняў, як адказ на патрабаваньне якасьці ў рабоце і выкрыцьцё „групачак“:

— Мы з вамі іначай пагаворым!

— Мы ведаем, што з вамі рабіць!

Ня толькі пагражалі, але і дзейнічалі. У цёмным карыдоры школы, у цёмных завулках зьбіваліся вучні і сапраўдныя актывісты, якія выкрывалі клясава-варожую ідэялёгію і яе канкрэтных носьбітаў.

Расквітнеў крадзёж; краліся электрычныя лямпачкі, лазілі па кішэнях. Амаль пагалоўна ўсе вучні другога канцэнтру закурылі.

Псаваньне і зьнішчэньне мэблі стала звычайнай зьявай у школе.

У завяршэньне ўсяго гэтага-арганізацыя „общества путешествия“. Вядома, што для падарожжаў патрэбны грошы. Вось „групачка“ вучняў, 5 „Б“ на чале з Качаргіным, важакоМ гэтага „Общества“, праз маленькага хлопчыка абкрадваюць рабочага, сьцягнуўшы ў яго 260 рублёў. Назаўтра гэтыя вучні зьяўляюцца ў школу ў добрых шофэрскіх рукавіцах, з электрычнымі ліхтарамі ў кішэнях.

Узначальваецца ўся дэзарганізатарская работа камсамольцам Капыскіным, выпадкова пралезшым у камсамол. Яго ва ўсім падтрымлівае камсамолец Шафір, канчаткова разлажыўшыўся. Пад уплыў Капыскіна і Шафіра пападае значная частка дзяткораўскага актыву, які замест выкрыцьця гнойнікаў, выкарыстоўвае наш друк („Віцебскі Пралетары“, „Піянэр Беларусі“, насьцендрук) для дыскрэдытацыі кіраўніцтва школы.

Мы прывялі толькі найбольш яскравыя факты. Зусім зразумела, што ўсе яны ёсьць яскравы выраз клясавай барацьбы ў школе і з гэтага пункту гледжаньня яны зьяўляюцца досыць паказальнымі і навучальнымі. І толькі стоячы на гэтых пазыцыях, кіраўніцтва школай змагло-б адшукаць правільныя шляхі ліквідацыі гэтых праяў.

Як-жа на іх рэагуе школьны савет, настаўніцкі калектыў. Дамо слова загадчыку школы тав. Каліноўскаму. „Згаджаюся, што ёсьць недаацэнка вучнёўскіх арганізацый, як спадчына мінулага. Ніхто да гэтага часу ня ўзбудзіў грамадзкую думку. Працавалі ў мінулым годзе камісіі і мусіць думалі, што да дзяткораў трэба мець асаблівы падыход“ (пратакол ад 3-га сьнежня 1931 г.). Стоячы на гэтым пункце гледжаньня, школьнаму савету нічога не заставалася рабіць, як шпарыць направа і налева вымовы з папярэджаньнямі і без папярэджаньня. Адносячы ўвесь дзяткораўскі актыў да дэзарганізатараў і стаўшы на шлях барацьбы з ім у цэлым, Школьна-Пэдагагічны савет аб'ектыўна дапамагаў, лепей кажучы, прыскорыў працэс падупаданьня дзяткораўскай брыгады пад уплыў Капыскіна і Шафіра, аб'ектыўна стаў на шлях зажыму самакрытыкі ў школе. Ня стаўшы на шлях карэннай рэарганізацыі работы школьнага самакіраваньня, як гэта канстатавана ў рэзалюцыі камісіі гарсавету, не павярнуўшыся тварам да органаў школьнага самакіраваньня, школьны савет аб'ектыўна дапамагаў пашырэньню падобных зьяў у школе. Толькі на аснове масавай мабілізацыі вучнёўства, у першую чаргу актыву (у тым ліку і дзяткораў), на аснове ліквідацыі прарываў, магла адбывацца барацьба з падобнымі праявамі.

Школьна-пэдагагічны савет, настаўніцкі калектыў аказаліся бясьсільнымі ў барацьбе са зрыўшчыкамі дэзарганізатарамі вучобы. Дэзарганізатары настолькі распаясаліся, што патрэбен быў удзел шырокай пралетарскай грамадзкасьці, каб ускрыць у школе чужую ідэялёгію, разаблачыць канкрэтных носьбітаў яе і, ўрэшце, на аснове мабілізацыі вучнёўства, прыступіць да ліквідацыі яе. І тое, што аказалася не пад сілу школьнаму савету і настаўніцкаму калектыву, было зроблена камісіяй гарсавету сумесна з партыйнымі і прафсаюзнымі арганізацыямі фабрыкі „Прафінтэрн", да якой школа прымацавана, і газэтай „Віцебскі Пралетары." Дэзарганізатары былі асуджаны, блатная ідэялёгія ўскрыта. Маса вучнёўства, настаўніцкі калектыў, школьнае самакіраваньне, камсамольская ячэйка фабрыкі „Прафінтэрн" былі мабілізаваны на ліквідацыю „Капыскаўшчыны". Гэта адносіцца, прыкладна, да паловы студзеня 1932 г. З гэтага часу і пачынаецца шпаркае аздараўленьне школы, палепшаньне якасьці працы, дысцыпліны. Дзяткораўскі актыў з „дэзарганізатараў" ператварыўся ў адданых барацьбітоў за камуністычнае выхаваньне.

Клясаваму ворагу не ўдалося сарваць рэалізацыю пастановы ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе. Прарывы першага паўгодзьдзя навучылі школу і настаўніцтва, як трэба змагацца з варожай у школе ідэялёгіяй. Гэтыя-ж моманты яшчэ раз падкрэсьлілі, і пры тым у рэзкай форме, неабходнасьць цеснай сувязі школы з прадпрыемствам, неабходнасьць штодзённага рабочага кантролю над школай.

Гэты шлях, шлях ганебных прарываў пройдзены. Зараз у асноўным „Капыскаўшчына" і „Шафіраўшчына" ліквідаваны. Тыя дзяткоры, якія раней, будучы пад уплывам Капыскіна і Шафіра, праз друк займаліся ашэльмаваньнем настаўнікаў і кіраўніцтва школы, і ў першую чаргу загадчыка, зараз высоўваюць загадчыка за яго ўдарныя тэмпы на сацпяршынства.

Пяройдзем да аналізу стану школы ў II-ое паўгодзьдзе.

## Матар'яльная база школы

Пахваліцца сваёй вучэбна-матар'яльнай базай школа ня можа. Цесьненькіх, не прыстасаваных да вучэбных заняткаў, 8 пакойчыкаў абслугоўваюць 17 груп. Ёсьць фізкультурная заля, праўда, неабсталяваная. Фізкультурнай пляцоўкі няма.

Школа мае добра абсталяваны прыродазнаўчы і хэмічны габінэт. Фізычны габінэт на сёньня знаходзіцца ў зародкавым стане. Школьная бібліятэка складаецца з 5600 кніг. Уся навейшая дзіцячая літаратура палітэхнічнага зьместу ёсьць у дастатковай колькасьці.

У бібліятэцы адсутнічае навейшая пэдагагічная мэтадычная літаратура, у прыватнасьці літаратура, адбіваючая апошнюю пэдагагічную дыскусію; нават няма пастановы ЦК аб школе. Выключэньне ідэялёгічна-нявытрыманай літаратуры не праведзена. Хвасьцізм, бясплянавасьць — вось характэрныя рысы ў рабоце бібліятэкі.

Зусім слаба забясьпечана школа падручнікамі, асабліва па беларускай мове, фізыцы, нямецкай мове, (другі канцэнтр), адсутнічаюць рабочыя кніжкі па грамадазнаўстве, прыродазнаўстве і гісторыі для першага канцэнтру.

Па першаму канцэнтру школа часта ня мае навейшых падручнікаў. Так, на сёньня ў другіх групах выкладчыкі карыстаюцца "Чырвонымі ўсходамі" Пігулеўскага, „Нашай першай граматыкай" — Карпінскай, у той час, калі ёсьць навейшыя падручнікі, больш ідэялёгічна вытрыманыя, больш мэтадычна прыстасаваныя да працы ў школе. Геаграфічнымі картамі школа забясьпечана.

Зусім адсутнічаюць альбомы, дыяграмы і плякаты, адбіваючыя рост нашай сацыялістычнай прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і выкананьне першай пяцігодкі.

Як бачым, матар'яльная база школы параўнаўча слабенькая і ў значнай сваёй частцы не забясьпечвае грунтоўнага засваеньня „асноў навук". Цесната памяшканьняў, напрыклад, не дае магчымасьці як сьлед разгарнуць работу па дапамозе адстаючым, культурна-масавую, пазашкольную і гуртковую работу. Адсутнасьць падручнікаў часта

штурхае настаўнікаў выключна на лекцыйны спосаб прапрацоўкі матар'ялу.

Частку навочных прылад, а таксама плякатаў і дыяграм як пра выкананьне першай пяцігодкі, гэтак і пра задачы другой, школа мусіць зрабіць уласнымі сіламі праз майстэрні і гурткі. На гэты шлях школа ўжо стала.

Ня гледзячы на цесноту, у школьным памяшканьні падтрымліваецца чыстата і парадак. Ва ўсім адчуваецца гаспадарчая рука. Графік абслугоўваньня груп памяшканьнямі і распарадак дня складзены так, што зрыву ў занятках ня бывае. Тэхнічны пэрсанал расстаўлены так, што ўборка памяшканьня паміж зьменамі робіцца своечасова.

## Школа ў барацьбе за рэалізацыю пастановы ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе

### Прапрацоўка пастановы ЦК

Пастанова ЦК у школе прапрацавана з некаторым спазьненьнем. Толькі 3 кастрычніка на школьна-пэдагагічным савеце былі вызначаны канкрэтныя мерапрыемствы па ажыцьцяўленьні гэтае пастановы. Паколькі гэтыя мерапрыемствы вызначаюць, як праламілася пастанова ЦК у настаўніцкім калектыве, мы яе прыводзім поўнасьцю.

I. Па акадэмпрацы: 1) Уся праца ў школе павінна праходзіць пад асноўным лёзунгам. „Барацьба за якасьць вучобы“.

2) Настаўнікі школы маюць перад сабой мэту ўзмацненьня праграмных ведаў вучнямі, шляхам: а) увязкі матар'ялу, з канкрэтнымі задачамі сацбудаўніцтва, стаячымі перад партыяй і рабочай клясай; б) распрацоўкі рабочых плянаў з дэкадным вызначэньнем аб'ёму сыстэматызаваных ведаў па кожнаму прадмету, узяўшы напрамак на ўжываньне актыўных мэтадаў працы; в) рацыянальнага скарыстаньня навучальных гадзін (сваячасовая падрыхтоўка навочных дапамог, прылад, досьледаў для лекцыі); г) звароту асаблівай увагі на адстаючых вучняў, утвараючы для іх гурткі дапамогі пад кіраўніцтвам настаўніка і пры ўдзеле больш моцных вучняў.

3) Процант пасьпяховасьці давесьці наогул па школе да 100.

4) Настаўнікі бяруць на сябе пэрсанальную адказнасьць за падняцьце пасьпяховасьці вучняў—кожны па свайму прадмету (па сваёй клясе—ў першым канцэнтры).

5) З мэтай узмацненьня выхаваўчай і навучальнай працы, нагляданьня за навучаньнем і адсевам вучняў, а таксама для сувязі з бацькамі, па другім канцэнтры ўстанаўліваецца інстытут клясных настаўнікаў (шэфаў), на якіх ускладаецца адказнасьць за паказаную вышэй працу.

II. Па камуністычным выхаваньні: З мэтай узмацненьня сярод вучняў вытрыманага камвыхаваньня, настаўнікі на працягу навучальнага году плянава і сыстэматычна праводзяць працу па інтэрнацыянальным, антырэлігійным і палітычным выхаваньні, як шляхам увязкі пералічаных момантаў з праграмнай працай, гэтак і пастаноўкай паасобных лекцый і ўтварэньнем адпаведных гурткоў. Для ажыцьцяўленьня апошніх двух момантаў настаўнікі прымацоўваюцца да вучнёўскіх гурткоў, складаюць разам з імі пляны на год і дапамагаюць праводзіць у жыцьцё. Настаўнікі школы ставяць мэтай сваёй працы дапамагчы камсамольскай арганізацыі ўцягнуць вучняў у піянэрарганізацыю на 100 проц.

III. Па палітэхнізацыі: 1) Утварыць для першага канцэнтру да 10 кастрычніка працоўныя пакоі, дапамагаючы вызначанаму для гэтага тав. Сяменчыку.

2) Для другога канцэнтру наладзіць сувязь з вытворчасьцю (па лініі культмасавай і грамадзкай работы), дапамагаючы гэтым выкананьню прамфінпляну машыннай вытворчасьці.

3) Заключыць сацумову з фабрыкай „Прафінтэрн“ да 1-га лістапада.

4) Апрацаваць праграму вытворчага навучаньня, уключыўшы ў яе дэталёвае вывучэньне вытворчасьці, як у эканамічных, гэтак і тэхнічных адносінах, шляхам правядзеньня цыклю лекцый для настаўнікаў і вучняў другога канцэнтру і шляхам экскурсій.

5) З мэтай вывучэньня вытворчасьці настаўнікі праходзяць вытворчы прак-

тыкум на прымацаваным да школы прадпрыемстве, добраахвотна аддаючы для гэтага 10 выходных дзён. Арганізаваць паказаную працу даручаецца тав. Карага.

6) Апрача матчынай вытворчасьці, настаўнікі 1 і 2 канцэнтру ставяць сваёй мэтаю дэталёвае азнаямленьне з галоўнымі відамі вытворчасьці (мэталь, дрэва, і тэкстыль), апрацаваўшы для гэтага плян працы.

7) Пры выкладаньні паасобных дысцыплін рабіць увязку тэарытычных ведаў з практыкай вучняў у школьных майстэрнях і на вытворчасьці.

8) Арганізаваць навучаньне вучняў 2 канцэнтру ў майстэрнях школы на працягу ўсяго году з мэтай практычнага праходжаньня працэсаў працы па дрэву і мэталю.

9) Для набыцьця тэарытычных ведаў у справе палітэхнізму ўтварыць праз бібліятэкара школы тав. Сяменчыка асобную бібліятэчку па палітэхнізьме, як для вучняў, гэтак і для настаўнікаў.

IV. Перападрыхтоўка і падвышэньне кваліфікацыі настаўнікаў.

1) У мэтах набыцьця і ўзмацненьня палітэхнічных ведаў настаўнікі школы ўключаюцца ў арганізаваныя інспэктарыятам асьветы і саюзам працасьветы курсы.

2) Для папярэдняга абгаварэньня пляпаў працы і пытаньняў зьвязаных з выхаваньнем, а таксама і для падагульненьня працы —1 раз у месяц (для 1-га канцэнтру 10, а для 2-га—20) скліваюцца вытворчыя нарады; разам з тым утвараюцца мэтадычныя аб"яднаньні для настаўнікаў 1 і 2 канцэнтру.

3) Настаўнікі абавязваюцца ўдзельнічаць у працы мэтадычных аб"яднаньняў пры пэдгабінэце Дому асьветы і палітшколе—апошняе для падняцьця і ўзмацненьня свайго палітычнага разьвіцьця.

4) Для правядзеньня намечаных вышэй мерапрыемстваў па рэалізацыі ў школе пастановы ЦК, калектыў настаўнікаў лічыць неабходным разгарнуць як сярод вучняў, гэтак і ў сваім асяродзьдзі ўдарніцкі рух на 100 проц. і ўступіць у сацспаборніцтва з 16-й аднатыпнай школай.

Аналіз гэтага дакуманту паказвае, што настаўніцтва ў асноўным правільна зразумела пастанову ЦК у часьці ліквідацыі „карэннага недахопу" школы, перападрыхтоўкі настаўніцтва. У гэтых кірунках мерапрыемствы зьяўляюцца найбольш канкрэтнымі і дзейснымі. У часьці-ж барацьбы за вытрыманае камуністычнае выхаваньне, умацаваньне сьвядомае дысцыпліны, пабудовы работы школьнага самакіраваньня і піянэрарганізацыі—пастанова прапрацавана слаба і мерапрыемствы ў гэтым кірунку носяць занадта ўжо агульны характар. Гэта яшчэ раз падкрэсьлівае недаацэнку работы школьнага самакіраваньня і піянэрарганізацыі. Таксама ў мерапрыемствах зусім не закранута пытаньне прапрацоўкі пастановы ЦК сярод вучняў, пытаньне мабілізацыі ўсяе вучнёўскае масы і органаў школьнага самакіраваньня на выкананьне пастановы ЦК. Тут, на нашу думку, сказалася недаацэнка ролі вучняў у справе выкананьня пастановы. Адсутнічаюць і моманты прыцягненьня рабочай грамадзкасьці на дапамогу школе ў справе выкананьня пастановы. Гэтыя моманты, моманты недаацэнкі школьнага самакіраваньня, піянэрарганізацыі, удзелу пралетарскай грамадзкасьці—зьяўляюцца аднэй з асноўных прычын глыбачайшых прарываў, якія мелі месца ў школе ў першым паўгодзьдзі.

Узмацненьне барацьбы за вытрыманае камуністычнае выхаваньне вымагала ад настаўніцкага і вучнёўскага калектыву перагляду праграм, аналізу падручнікаў, агляду ўсёй грамадзка-палітычнай работы школы. Тымчасам пра гэта ў мерапрыемствах ні слова.

Таксама ў пастанове школьнага савету ня дадзена крытыкі работы школы да пастановы ЦК. Выходзячы з сказанага мы не памылімся, калі зробім вывад, што пастанова ЦК на першых парах настаўніцкім калектывам гэтае школы ўспрынята, галоўным чынам, з пункту гледжаньня акадэмічнага.

Аналіз справаздач вучняў аб выкананьні імі пастановы ЦК паказвае, што яна ў канкрэтных справах іх праламілася па лініі: узьняцьця пасьпяховасьці (73), палепшаньня дысцыпліны(74), уступленьня ў грамадзкія арганізацыі і лепшых адносін да выкананьня грамадзкіх абавязкаў (52), палепшаньня наведваньня школы (68), уступленьня ў рады ўдар-

нікаў (73), падпіскі на газэты (40), уступленьня ў піянэры (23), дакладнага выкананьня заданьняў на дом (33), ліквідацыі запазычанасьці па пазыцы і сяброўскіх узносах (17), дапамогі адстаючым (31), пераходу ў наступную клясу (1).

Частка вучняў (15) увязвае пастанову ЦК з абяцаньнямі выправіць сваю непасьпяховасьць і недысцыплінаванасьць. Гэта сьведчыць аб іх разуменьні, што барацьба за рэалізацыю пастановы далёка яшчэ ня скончана.

Усё сказанае вышэй сьведчыць, што пастанова ЦК нашае партыі для школы зьявілася магутным фактарам масавага руху вучняў на ліквідацыю „карэннага недахопу“ нашае школы, барацьбы за сьвядомую дысцыпліну. Гэта таксама сьведчыць, што гэты, гістарычнае важнасьці, дакумант школай быў правільна выкарыстаны ў справе мабілізацыі вучняў на будаўніцтва палітэхнічнай школы, на барацьбу за выхаваньне пакаленьня здольнага канчаткова ўстанавіць камунізм.

Побач з гэтым ні адзін вучань у сваёй справаздачы не закрануў момантаў клясавае барацьбы ў школе. І гэта ня гледзячы на тое, што ў першым паўгодзьдзі школа ў значнай сваёй частцы была дэзарганізавана клясава-варожымі праявамі. Гэта з усёй відавочнасьцю сьведчыць, што дырэктыва ЦК нашае партыі аб узмацненьні барацьбы за вытрыманае камуністычнае выхаваньне недастаткова папулярызавана і даведзена да вучня.

## Ліквідацыя карэннага недахопу

Як ужо зазначана вышэй, першае паўгодзьдзе ў рабоце школы характарызуецца як заняпадам пасьпяховасьці, гэтак і заняпадам дысцыпліны.

Праўда, даць яскравы малюнак пасьпяховасьці вучняў у першым паўгодзьдзі нельга. Дакуманты школы ў гэтым напрамку сьведчаць пра наяўнасьць, з аднаго боку, вельмі нізкай пасьпяховасьці (40-50 проц.) і, з другога боку, вельмі вялікай блытаніны ў пытаньні вучоту пасьпяховасьці.

У 3-м квартале, на аснове агульнага аздараўленьня школы і на аснове спэцыяльна прынятых мер па паднясьці пасьпяховасьці і дысцыпліны, школа мае вялічэзьнейшы скачок уперад. Наступныя лічбы характарызуюць гэта.

| Група | Пасьпяховасьць | Пропускі заняткаў | |
|---|---|---|---|
| | | Па ўважлівых прычынах | Па няўважлівых прычынах |
| | У процантах | | |
| 0 | 97 | — | — |
| 1-а | 82 | 8,8 | 0,8 |
| 1-б | 92,5 | 7,7 | 0,9 |
| 1-в | 90 | 9,0 | 1,0 |
| 2-а | 90,5 | 5,2 | 0,3 |
| 2-б | 84 | 3,0 | 2,2 |
| 2-в | 94 | 5,8 | 0,9 |
| 3-а | 87 | 7,5 | 0,3 |
| 3-б | 90,5 | 4,5 | 0,5 |
| 4-а | 84,4 | 2,5 | — |
| 4-б | 84 | 1,7 | 0,5 |
| 7-а | 87,9 | 0,5 | 6,4 |
| 7-б | 84,4 | 3,5 | 4,8 |
| 6-а | 52,8 | 0,9 | 7,0 |
| 6-б | 76,7 | 10,2 | 2,1 |
| 5-а | 64 | 9,2 | 3,6 |
| 5-б | 93,5 | — | 7,7 |
| 5-в | 62,5 | 0,4 | 7,5 |

Канстатуючы значны ўзрост пасьпяховасьці і рэзкае палепшаньне наведваньня, мы мусім адзначыць, што гэты рост ідзе вельмі нераўнамерна, што відаць з прыведзенай таблічкі. Па некаторых групах (6-а) нават і ў 3 м квартале з пасьпяховасьцю справа проста паграджаючая. Нераўнамерны рост пасьпяховасьці і наведваньня тлумачыцца спадчыннасьцю „Капыскаўшчыны“ і „Шафіраўшчыны“.

На аснове-ж якіх мерапрыемстваў школа дасягнула гэтых посьпехаў?

Па-першае: На аснове рэалізацыі ў рабоце школы новага тыповага распарадку школьных заняткаў і пастановы Цэнтральнага Камітэту Ленінскага Камсамолу пра недапусьцімасьць перагрузкі дзяцей, як выцякаючых з пастановы ЦК партыі аб пачатковай і сярэдняй школе.

Рабочы дзень вучня строга рэгламантаваны. Перагледжаны нагрузкі дзяцей;

апошнія разьмеркаваны між дзяцьмі параўнаўча раўнамерна.

Строга рэглямантаваны заданьні на дом. Праўда, у справе рэалізацыі гэтых важнейшых дакумантаў школа яшчэ толькі распачала работу. Яшчэ моманты арганізацыі хатняй работы вучняў, арганізацыі па-за школьнай работы з дзецьмі, арганізацыі адпачынку дзяцей не ўваходзяць, як адно з важнейшых састаўных зьвеньняў, у плян работы, як настаўніцкага калектыву, гэтак і органаў школьнага самакіраваньня. Сярод настаўніцтва ёсьць яшчэ недаацэнка гэтых момантаў і ігнараваньне іх у сыстэме камуністычнага выхаваньня. Праведзенае анкетнае дасьледваньне аб пазашкольным чытаньні і наведваньні кіно паказвае, што школа ў цэлым гэтымі пытаньнямі мала займаецца. Выяўлена, што вучні багата чытаюць клясыкаў і мала сучасную пралетарскую літаратуру, захапляюцца кіно-фільмамі, накшталт „Сын Зора“, „Хачу быць рапарцёрам“, „Багдацкі вор“, „Нібэлунгі“ і інш., і часта міма іх праходзяць кіно-фільмы, адбіваючыя гэроіку сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта для школы мусіць быць трывожным сыгналам. Пазашкольная работа мусіць стаць сапраўднай дзейнай часткай камуністычнага выхаваньня падрастаючага пакаленьня. У найкарацейшы тэрмін школа мусіць распрацаваць адпаведнае мерапрыемства ў гэтым кірунку, мабілізаваўшы масу вучнёўства.

Па-другое: На аснове рэалізацыі новых праграм, у выкладаньні паасобных дысцыплін забясьпечана сыстэматычнасьць і пасьлядоўнасьць. Вось гэта і дало рэзкі скачок уперад у засваеньні асноў навук.

Па-трэцяе: На аснове ліквідацыі ўраўнілаўкі і абязьлічкі ў падліку пасьпяховасьці. Сярод вучнёўства дастаткова ўсьвядомлена індывідуальная адказнасьць кожнага за належную прапрацоўку заданьняў.

Па-чацьвертае: На аснове падпарадкаваньня ўсяе работы строгай плянавасьці. Школа на сёньня мае прадуманы вытворчы плян (агульна-школьны), вытворчыя пляны па паасобных дысцыплінах, квартальныя і дэкадныя пляны. Пляны адзначаюцца канкрэтнасьцю і чоткасьцю. На аснове дэкадных плянаў складаюцца заданьні. У плянах (дэкадных) прадугледжваецца зьмест работы, колькасьць часу, мэтады работы, моманты антырэлігійнага і інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня, сувязь выкладаемага матар‘ялу з вытворчай і грамадзкай працай дзяцей. Троху дзіўным зьяўляецца будова пляну па фізыцы. Заданьне (дэкаднае) разьбіваецца на 3 аддзелы: I—пытаньне тэхнікі і практыкі; II—тэарытычны матар‘ял, III.—грамадзка-палітычнае выхаваньне. На нашу думку такі разрыў між тэорыяй і практыкай, з аднаго боку і грамадзка-палітычным выхаваньнем з другога,—зьяўляецца надта штучным. Слабым бокам плянаваньня зьяўляецца адсутнасьць удзелу ў гэтым вучняў. Давядзеньне плянаў і заданьняў да вучняў адбываецца ў форме дыктоўкі, на што трацiцца вельмі багата часу. Так, па фізыцы заданьне вучні перапісвалі роўна 40 мінут. Неабходна заданьне загадзя перадаваць старастам груп з тым, каб яны ў вольны час арганізавалі перапіску. Наогул школы павінны быць забясьпечаны множачымі апаратамі (рататары, шклографы, шапірографы).

Па-пятае: На аснове рацыянальнага выкарыстаньня часу. Настаўнікі ўвесь дыдактычны, ілюстрацыйны матар‘ял, прылады для вопытаў і дасьледаў падрыхтоўваюць загадзя, ня трацячы на гэта вучэбны час. Вучэбная гадзіна максымальна ўплатнена. Сшыткі, папера, чарнілы для работы гэтак-жа падрыхтоўваюцца загадзя.

Па-шостае: На аснове мабілізацыі вучнёўства на барацьбу з непасьпяховасьцю. Мацнейшыя вучні прымацаваны да слабейшых. Гэтае мерапрыемства, як паказалі справаздачы вучняў, дало сур‘ёзьнейшыя вынікі ў справе ўзьняцьця якасьці ведаў і карыстаецца яно сярод вучняў вялікай папулярнасьцю. Вучні спаборнічаюць між сабою на найлепшую дапамогу адстаю-

чым. Апрача таго, для адстаючых створаны гурткі дапамогі, у якіх працуюць часткова настаўнікі, а часткова вучні. І гэтае мерапрыемства ў сьвядомасьці дзяцей праламілася, як дадатнае.

Па-сёмае: На аснове мабілізацыі друку на барацьбу за якасьць ведаў. Насьценны друк школы выяўляе непасьпяваючых, ускрывае прычыны непасьпяховасьці, выкрывае зрыўшчыкаў, сымулянтаў, дэзарганізатараў. Праз насьценны друк уносяцца прапановы па рацыяналізацыі пэдагагічнага працэсу. Можна сказаць, што насьценны друк поўнасьцю рэалізаваў пастанову ЦК у часьці барацьбы за якасьць ведаў.

Па-восьмае: На аснове павароту органаў школьнага самакіраваньня і піянэрарганізацыі тварам да вучобы. Аналіз плянаў і вучоту работы памянёных арганізацый пра гэта сьведчыць. Тут больш спыняцца на гэтым ня сьлед, паколькі ёсьць спэцыяльныя разьдзелы прысьвечаныя рабоце школьнага самакіраваньня і піянэрарганізацыі.

Па-дзевятае: На аснове набліжэньня кніжкі і газэты да вучня. Школа, як па пэршым канцэнтры, гэтак і па другім, сыстэматычна практыкуе бібліятэчкі-перасоўкі для кожнае групы паасобку. Няма ніводнага вучня ў школе, які-б ня выпісваў газэты. „Беларускі піянэр“ школаю выпісваецца ў колькасьці 427 паасобнікаў.

Па-дзесятае: На аснове разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва пад знакам барацьбы за якасьць вучобы і сьвядомую дысцыпліну, як паміж клясамі, брыгадамі, так і індывідуальна. Ужываецца вышэйшая форма сацспаборніцтва і ўдарніцтва, напр. грамадзкі буксір.

І ўрэшце, адзіннаццатае: На аснове ўмацаваньня ролі настаўніка, павялічэньня адказнасьці настаўніка за сваю групу (першы канцэнтр), за свой прадмет (другі канцэнтр) і наогул укараненьня адзінаначальля ў школе. Трэба сказаць, што гэты момант заваяваны не без барацьбы. У першыя часы некаторая частка вучняў расцэньвала гэта, як зварот да старое школы, з яе зуброжкай, экзамэнамі, адзнакамі. Патрабаваньне адказнасьці за даручаную справу, за выкананьне заданьняў, часткай вучняў расцэньвалася нават як бюракратызм. Шырокай растлумачальнай работай, як з боку самакіраваньня і піянэрарганізацыі, гэтак і з боку настаўніцтва, такія настроі ў значнай ступені ліквідаваны.

Усе гэтыя моманты і забясьпечылі бесьперабойнае выкананьне праграм у другім паўгодзьдзі. І ў гэтым кірунку становішча школы можна лічыць зусім здавальняючым.

Але на гэтым агульным фоне глыбокім прарывам зьяўляецца выкананьне праграмы па фізыцы. Вёды па гэтай дысцыпліне павярхоўныя, калі ня лічыць слабымі.

Ня зусім добра стаіць справа з граматнасьцю вучняў. Няпісьменнасьць значнае часткі вучняў кідаецца ў вочы ўсюды: у пісьмовых працах, заявах, справаздачах, плянах работ, насьценгазэтах. Вялікая колькасьць граматычных памылак, няўменьне афармляць свае думкі на пісьме, няўменьне расстаўляць знакі прыпынку, неахайнасьць—вось асноўныя хібы пісьмовае мовы. Асабліва пашырана няпісьменнасьць у пятых групах.

Трэба лічыць, што ў аснове адставаньня граматнасьці ляжыць, з аднаго боку, - спадчына мінулага і, з другога боку,—недастатковая ўвага ўсяго настаўніцтва да пісьмовых прац вучняў па паасобных дысцыплінах. Праўда, у галіне граматнасьці школа мае вялікія дасягненьні ў параўнаньні з мінулым. Пра гэта сьведчыць параўнаньне граматнасьці пісьмовых прац, насьценгазэт, кругавых сшыткаў першага паўгодзьдзя з другім. Зрух вялікі, але далёка яшчэ недастатковы.

Апрача таго, выяўлены занапад некаторых разьдзелаў праграмы па грамадазнаўстве ў 4-й групе. Так, вучні задачы другой пяцігодкі ўяўлялі толькі з пункту гледжаньня пашырэньня фабрык і заводаў, павялічэньня здабычы жалеза, нафты, вугалю; палітычныя-ж устаноўкі другой пяцігодкі вучні не ўсьвядомілі.

Таксама на пытаньне, якія фабрыкі і заводы ўступілі ў строй на працягу першай пяцігодкі, вучні ў адказах памінаалі Волхаўбуд, Днепрабуд, Сталін-

градзкі трактарны завод, і толькі адзін вучань памянуў Асінбуд. Як відаць сацыялістычнае будаўніцтва ў БССР вучні ўяўляюць слаба. Слаба ўяўляюць вучні і сутнасьць крызісу ў капіталістычных краінах. Вось тыповыя адказы на гэтыя пытаньні: „у капіталістычных краінах крызіс зараз таму, што аднаго тавару выпрацоўваецца многа, другога нічога“, або: „у капіталістычных краінах крызіс такі: буржуазія вывозіць і выкідвае ў рэкі кофэ і розныя прадукты, а рабочым не дае“. Як бачым, уяўленьне занадта прымітыўнае. Асноўнага ў крызісе—анархія, немагчымасьць плянавае гаспадаркі, абнішчаньне шырокіх працоўных мас, вучні не ўяўляюць.

## Праца школьнага самакіраваньня

У першым паўгодзьдзі школьнае самакіраваньне, згодна ўстановак дзетбюро, вяло сваю працу паводле асобных маршрутаў: „За палітэхнічную школу“, „За камуністычнае выхаваньне“, „За грамадзка-палітычную работу школы“.

Аналіз плянаў і канкрэтнай работы паказаных маршрутаў сьведчыць пра ігнараваньне з боку вучнёўскіх арганізацый пытаньняў вучобы і дысцыпліны, пра адсутнасьць стала вызначаных абавязкаў і разьмежаваньня функцый між паасобнымі маршрутамі. А гэта вяло да абязьлічкі ў рабоце, да безадказнасьці. Зусім зразумела, што даная сыстэма работы школьнага самакіраваньня не забясьпечвала мабілізацыю вучняў на выкананьне пастановы ЦК аб школе і рэалізацыю 6 ўмоў правадыра тав. Сталіна. У дакумантах (плянах, пратаколах, рэзалюцыях) стракочуць выразы: „узьняць барацьбу за партыйнасьць выкладаньня“, „узмацніць базу палітэхнізацыі школы“, „мабілізаваць рабят на рэалізацыю 6 ўмоў тав. Сталіна“ „павесьці барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе“ і г. д. І амаль адсутнічаюць выразы аб вучобе і дысцыпліне. Пісалася пра узмацненьне камуністычнага выхаваньня, а ў школе квітнеў антысэмітызм, яўрэйскі шавінізм—і пра гэта ні слова. Пісалася пра разгортваньне крытыкі і самакрытыкі, а канкрэтных мер супроць зажымшчыкаў, якія зьбівалі дзяткораў за выкрыцьцё дэзарганізатараў і кругавой парукі, не вызначалася і ня прымалася. Пісалася і многа гаварылася аб выхаваньні камуністычных адносін да школьнай маёмасьці, а мерапрыемстваў, якія-б забясьпечвалі адказнасьць за яе, выпрацаваць так і ня было каму, у выніку чаго псаваньне і зьнішчэньне мэблі ў школе было звычайнай справай. Такімі „дробнымі“ справамі школьнаму самакіраваньню некалі было займацца і, як відаць, некаму было дапамагчы яму ў гэтым. Затое школьнае самакіраваньне многа займалася праблемамі „камуністычнага выхаваньня наогул“.

Такое становішча работы школьнага самакіраваньня магло зьявіцца толькі ў выніку апартуністычнай недаацэнкі яго ролі ў школе з боку настаўніцкага калектыву. „Тэорыя“ непатрэбнасьці школьнага самакіраваньня тут знайшла сваё практычнае праламленьне. Школьны савет пытаньнямі работы дзіцячага самакіраваньня па сур'ёзнаму не займаўся. Камсамольская арганізацыя падшэфнай фабрыкі „Прафінтэрн“ яўна недаацэньвала работу сярод камсамольцаў школы. Бясспрэчна, мела тут значэньне і тое, што на працягу першых трох месяцаў зьмянілася тры піянэрважатых, у выніку чаго меўся заняпад піянэрработы і піянэрарганізацыя не магла па-баявому ажыцьцяўляць кіраўніцтва дзіцячым самакіраваньнем.

Для дапамогі ў працы дзіцячаму самакіраваньню быў уведзен інстытут „шэфаў груп“. Да кожнае групы, да кожнай галіны працы, быў прымацаваны настаўнік, на якога ўскладалася адказнасьць за становішча вучобы і дысцыпліны ў групе і за працу дзіцячых арганізацый. Але „шэфы“ на першых парах замест цьвёрдага і чоткага кіраўніцтва і дапамогі, як піша сам загадчык школы, „некалькі расьцяраліся“ перад той недысцыплінаванасьцю, якая мела месца ў школе.

Работа Камісіі Гарсавету, пра якую мы паміналі раней, зьявілася аздаравіцельнай і для органаў дзіцячага самакіраваньня. Камсамольскі калектыў фабрыкі „Прафін-

тэрн" заняўся вывучэньнем клясава-варожых праяў у асяродку камсамольскай ячэйкі і школы ў цэлым. За дэзарганізатарскую работу быў выключаны з камсамолу Капыскін, як выпадкова пралезшы туды. Была абвешчана суровая вымова камсамольцу Шафіру.

Праведзена была вялікая работа па праверцы якасьці вучобы вучняў-камсамольцаў. Над антысэмітам Селязьнёвым быў наладжаны грамадзкі суд. Вучань Качаргін, як канчаткова разлажыўшыся, быў выключаны са школы. Быў вылучаны сталы піянэрважаты. Была праведзена праверка выкананьня камсамольцамі і піянэрамі абавязкаў па лініі школьнага самакіраваньня.

На аснове гэтых мерапрыемстваў камсамольская ячэйка, піянэрарганізацыя школы была мабілізавана на барацьбу за якасьць ведаў і сьвядомую дысцыпліну.

Але-ж частка „актывістаў" ніяк не магла пам ірыцца з тым, што яны не „начальнікі" ў школе. І рашучы пералом у рабоце школьнага самакіраваньня атрымаўся на аснове рэалізацыі новага палажэньня аб школьным дзіцячым самакіраваньні. Гэтае палажэньне было праработана ў камсамольскай ячэйцы, піянэратрадах, на групавых і агульных вучнёўскіх сходах на канкрэтных прыкладах недахопаў у працы дзіцячага самакіраваньня за першае паўгодзьдзе. Мабілізаваўся і друк: да перавыбараў былі выпушчаны насьценгазэты ў групах і дзьве агульна-школьных насьценгазэты. Кандыдатуры загадзя шырока абмяркоўваліся. У выніку былі абраны ў органы дзіцячага самакіраваньня лепшыя вучніўдарнікі.

Найвялікшае значэньне ў справе наладжваньня работы органаў дзіцячага самакіраваньня адыграла пастанова ЦК Усе ЛКСМ аб разгрузцы рабят, а таксама і новы тыповы распарадак дня ў школе, распрацаваны НКА і Наркам Аховы Здароў'я.

Усе гэтыя моманты забясьпечылі плянавую бесьперабойную работу органаў школьнага самакіраваньня і яно сапраўды па баявому распачало сваю работу па ліквідацыі карэннага недахопу школы. Нагрузкі між вучнямі разьмеркаваны раўнамерна. Кожны сэктар працуе па пляну ў вызначаны дзень. Пасьля 8-мі гадзін праца ў школе не праводзіцца. Наладжана работа піянэрарганізацыі. У выніку-павялічылася цяга з боку вучняў у піянэрарганізацыю. Дзеці 6-ай клясы усе як адзін запісаліся ў піянэратрад. Узьнялася работа грамадзкіх арганізацый: Мопр, Аэт, Бязбожнік, Асаавіяхім і іншых.

Сэктар вучобы арганізаваў гурткі па дапамозе ў 5, 6 і 7-х клясах: па фізыцы, матэматыцы, расійскай мове, беларускай мове і інш. Па астатніх клясах наладжана дапамога слабым з боку моцных вучняў. Вядзецца вучот адстаючых. У выніку ўсяго гэтага наглядаецца вялікі скачок пасьпяховасьці. Замест 60 проц. у першым паўгодзьдзі, па другім канцэнтры за 3-ці квартал мелася 85 проц. пасьпяховасьці.

Культмасавы Сэктар працаваў у надзвычайна цяжкіх умовах з-за адсутнасьці памяшканьня. У 3-м квартале адчынена чытальня, дзе працуюць вучні ў вызначаныя дні. Была наладжана работа па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод чырвонаармейцаў і бацькоў. Па падпісцы газэт сэктар правёў вялікую работу, у выніку гэтага школа атрымала пераходны сьцяг „Піянэра Беларусі".

Сэктар Працы правёў вялікую работу па выяўленьні бяднейшых вучняў для забесьпячэньня іх абуткам, вопраткай і харчаваньнем.

З усіх грамадзкіх арганізацый складаецца добрае ўражаньне аб працы ячэйкі МОПР. У школе налічваецца 525 членаў МОПР. Ліквідавана запазычанасьць па сяброўскіх узносах. Ёсьць дошка МОПРу і куток МОПР'у. Распаўсюджана мопраўскай літаратуры на 99 рублёў 68 кап. Ёсьць ударная мопраўская кляса (2-в), заключаны дагавор на сацспаборніцтва між ячэйкамі МОПРу вышэйпамянёнай школы і Менскай 32 школай. Праводзіліся інтэрнацыянальныя вечары. Сабрана добраахвотных узносаў у карысьць палітзьняволеных 80 рублёў. Былі дасланы два лісты палітзьняволеным

Рыскай турмы. Праведзены мітынг пратэсту супроць пакараньня 7-мі нявінных нэграў.

У школе быў выпадак антысэмітызму. Пры ўдзеле ячэйкі МОПР арганізаваны грамадзкі суд. Ячэйка вылучыла з свайго боку абвінаваўца. Праца МОПР'у асьвятляецца ў штодзёнках, насьценгазэце, „Піянэры Беларусі", шматтыражцы „Прафінтэрнавец", „Віцебскім Пралетары".

Ячэйка МОПР гэтай школы зьяўляецца кандыдатам на атрыманьне пераходнага сьцягу Гаркому МОПР.

Ячэйка АСА налічвае 215 членаў. Арганізаваны добры вайсковы гурток, які працаваў 3 разы ў месяц. У выніку гэтага ў школе ёсьць 3 стралкі першай клясы і 15 другой. Дзеці школы афармілі ў казармах куток Леніна, чыталі газэты чырвонаармейцам. Распаўсюджана лётарэйных білетаў на 315 рублёў. Па малодшым канцэнтры ячэйкай АСА былі арганізаваны розныя гутаркі на вайсковыя тэмы.

Астатнія арганізацыі, як АЗЭТ, ячэйка „Бязбожнік" працуюць слаба. Ячэйкай „Бязбожнік" быў арганізаваны антырэлігійны вечар, прысьвечаны антывялікоднай кампаніі. Бібліятэка школы набыла адпаведную антырэлігійную літаратуру.

У школе ёсьць гурткі: фото, літгурток і тэхгурток. Фотогурток выпусьціў тры фотогазэты, дзе была асьветлена работа самакіраваньня і працы вучняў. Ахоплена гуртком 35. чалавек.

Літгурток налічвае 20 чалавек. На сходах гуртка разьбіраліся ўласныя творы гурткоўцаў, рабіліся розныя даклады аб пралетарскай літаратуры і яе зьмесьце. Гурток уключыўся ў творчы агляд дзіцячай літаратуры. Асноўнай установкай гуртка было—навучыць вучняў даваць рознага роду карэспандэнцыі ў газэты і выправіць іх хібы ва ўласнай творчасьці. Тэхгурток разгортваў сваю працу з вялікімі цяжкасьцямі—адсутнічала памяшканьне, ня было абсталяваньня, але гэтыя перашкоды паступова зьнішчаліся. Кіраўніцтва гуртком узяла выкладчыца фізыкі. Прылады набылі ў майстэрнях школы. Аб'ектам працы было вызначана—радыёфікацыя школы. У выніку—да І-га Мая ў школе зьявілася радыё з гучнагаварыцелямі на 2-х паверхах. Тэхгурток зрабіў шэраг экскурсій на розныя прадпрыемствы Віцебску.

Сацспаборніцтва і ўдарніцтва занялі належнае месца ў школе. Клясы спаборнічаюць паміж сабой. Вучняў - ударнікаў па школе 73 проц., ударных брыгад—71. 15 вучняў-ударнікаў прэміявана. Барацьба з ілжэўдарнікамі і выяўленьне іх вядзецца самым рашучым чынам праз насьцендрук, праз рэагаваньне на клясксмах. Наогул работа органаў школьнага самакіраваньня набыла канкрэтнабаявы характар.

## Друк у школе

У справе барацьбы за выкананьне пастановы ЦК УсеКП(б) і рэалізацыі 6 ўмоў тав. Сталіна друк школы адыгрывае вялікае значэньне.

У школе выпускаецца агульна-школьная газэта „За палітэхнізацыю" і штодзёнкі ў кожнай клясе. Як агульна-школьная, так і штодзёнкі па баявому змагаюцца за якасьць вучобы, сьвядомую дысцыпліну і правільную расстаноўку сіл.

Друк своячасова рэагаваў на нездаровыя зьявішчы ў школе.

У барацьбе за якасьць вучобы насьценны друк праводзіць агляды і паказ працы паасобных брыгад, выкладаньня паасобных прадметаў, паказ работы паасобных настаўнікаў, выяўляючы зрыўшчыкаў вучобы, і дае паказ лепшых ударнікаў-вучняў.

Школьная і насьценная газэта ажыцьцяўляе кіраўніцтва штодзёнкамі праз правядзеньне агляду работы штодзёнак паасобных груп, заслухоўваньне справаздач аб рабоце штодзёнак, своячасовае рэагаваньне на допісы, зьмешчаныя ў штодзёнках.

У школе ёсьць сталы дзяткораўскі актыў. Праз яго жыцьцё і праца школы досыць поўна асьвятляецца ў газэтах „Віцебскі пралетары", Піянэр Беларусі", „Чырвоная зьмена". Актыў арганізаваны ў брыгады.

Рост дзяткораў па школе прадстаўляецца ў наступных лічбах:

У пачатку году было 5, зараз налічваецца 34 асобы.

Асноўнымі недахопамі ў рабоце школьнага друку зьяўляецца:

1) Недастатковая ўвага і амаль поўная адсутнасьць работы з новымі дзяткорамі.

2) Слабае рэагаваньне школьных арганізацый на допісы.

3) Поўная адсутнасьць удзелу ў друку настаўніцтва.

## Піянэрпраца

Піянэрпраца ў школе была ў першым паўгодзьдзі слабым вучасткам работы. За 3 месяцы зьмянілася 3 піянэрважатых, што не магло не адбіцца на самой рабоце.

Плянаў у працы ня было. Увага піянэрарганізацыі ня была завострана на барацьбе за якасьць ведаў і сьвядомую дысцыпліну. Але дзякуючы ўпартай працы новага кіраўніка піянэрбазы і настаўніцтва была ўнесена чоткасьць у працу савета базы. Ўноў была распрацавана пастанова ЦК аб школе і ЦК УсеЛКСМ аб разгрузцы рабят. Школьнае самакіраваньне было забясьпечана моцным піянэрскім і камсамольскім актывам. Работа піянэраў у самакіраваньні штодзённа правяралася. Рост піянэрарганізацыі выяўляецца ў наступных лічбах: 1-ае паўгодзьдзе піянэраў—208, кастрычнят—135, камсамольцаў—37; за 3-ці квартал—піянэраў—278, кастрычнят—220, камсамольцаў—42; 4-ты квартал — піянэраў — 345, кастрычнят—225, камсамольцаў—45. База ахоплена сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам. Ёсьць 276 піянэраў ударнікаў ужо праверaных і 10 прэміяваных. База мае ўдарнае зьвяно па вучобе і дысцыпліне, якое дабілася поўнай пасьпяховасьці і дысцыплінаванасьці ў клясе. Паміж кожным атрадам і цэхам фабрыкі заключаны сацдагавары. Піянэры дапамаглі правесьці фабрыцы агляд грамадзкага харчаваньня. Выпусьцілі насьценгазэту, характарызуючую работу сталоўкі, выправілі гучнагаварыцелі ў сталоўцы. У час абедзенага перапынку піянэры праводзяць гутаркі і чыткі газэт. 11 піянэраў працуе на фабрыцы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Праведзена падрыхтоўка да лягернай кампаніі. Піянэрская база разам з бацькамі сабрала для гэтай мэты 1700 рублёў. Вядзецца растлумачальная работа сярод вучняў.

Добра праведзена падрыхтоўка да 10-цігодзьдзя піянэрскай арганізацыі. Уся праца ішла пад лёзунгам павышэньня якасьці вучобы і сьвядомай дысцыпліны. Да 10-цігодзьдзя выпушчаны насьценгазэты аб 10-цігодзьдзі піянэрарганізацыі і пройдзеным шляху піянэрбазы. Піянэрбаза ўключылася ў конкурс на лепшую школу, давяла ўмовы конкурсу да кожнага атраду, зьвяна і піянэра паасобку.

Уся работа базы вядзецца плянава.

## Палітэхнізацыя школы

Матар'яльна-вытворчая база палітэхнізацыі школы складаецца: з рабочага пакою, сталярнай і сьлясарнай майстэрні, швейнай фабрыкі „Прафінтэрн“, біястанцыі.

Абсталяваньне рабочага пакою, у асноўным, забясьпечвае выкананьне праграмы палітэхнічнага навучаньня ў 1-шым канцэнтры. Праўда, адсутнічае абсталяваньне па вывучэньні электрычнасьці. Але гэты недахоп ліквідуецца шляхам выкарыстаньня абсталяваньня фізычнага габінэту.

Абсталяваньне майстэрні вельмі прымітыўнае. Забясьпечвае яно толькі вывучэньне прыёмаў ручной працы па дрэву і мэталю і набыцьцё навыку карыстаньня прасьцейшымі інструмантамі і прыладамі: пілка, рубанак, фуганак, нажоўка, шархэбэль, долата, стамеска, калаўрот, сьвярдзёлак, рэйсмус, цыркуль, наугольнік (сталярная майстэрня), сьлясарныя ціскі, кувадла, напільнік, рашпіль, малаток, шчыпцы, пласкагубцы, кронцыркуль і інш. (сьлясарная майстэрня).

Фабрыка „Прафінтэрн“ высока мэханізавана і электрыфікавана. Мае мэха-

нічную, рамонтную і электра-мэханічную майстэрні. Гэтым самым да некаторай ступені ліквідуецца недахоп школьных майстэрняў, які выцякае з іх прымітыўнага абсталяваньня. Мае сваю парасілавую ўстаноўку.

Праўда, для поўнага выкананьня праграмы палітэхнічнага вытворчага навучаньня памянёных аб'ектаў недастаткова. Неабходна вывучэньне шляхам паглыбленых экскурсій такіх вытворчасьцяй, як Мэтпром, алейны завод, прыгарадны саўгас, што і праводзіцца школаю.

Правільная і рацыянальная арганізацыя палітэхнічнага навучаньня, на аснове вызначанай вышэй базы, вымагае чоткага сплянаваньня гэтае работы, вызначэньня месца кожнага з кампанэнтаў матар'яльна-вытворчай базы, вызначэньня сувязі паміж імі, з аднаго боку, і паасобнымі дысцыплінамі, з другога. Зусім зразумела, што гэта магчыма зрабіць толькі на аснове палітэхнічнага і пэдалёга-пэдагагічнага аналізу як майстэрняў, гэтак і вытворчасьці. Тым часам школаю гэта работа не праведзена. Гэта і зьяўляецца прычынаю некаторых хібаў у ажыцьцяўленьні палітэхнізацыі школы.

Як-жа арганізавана гэтая работа? З фабрыкай „Прафінтэрн" заключаны дагавор. Зьмест яго паказвае на ажыцьцяўленьне ўказаньняў У. І. Леніна, што кожная фабрыка, кожны завод мусіць ператварыцца ў ачаг асьветы. На аснове гэтага дагавору фабрыка па баявому ўключылася ў ажыцьцяўленьне пастановы ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе. На аснове-ж яго фабрыка ажыцьцяўляе рабочы кантроль над работай школы, фабрыка стала сапраўдным шэфам школы.

Дагавор, у асноўным, выкананы. Групы школы прымацаваны да цэхаў фабрыкі. Між вучнямі і рабочымі заключаны сацыялістычныя дагавары. Складзена праграма вытворчага навучаньня і забясьпечана яе выкананьне. Настаўніцтва азнаёмлена з вытворчасьцю. На фабкоме заслухоўваюцца справаздачы школы. Матар'яльныя абавязкі фабрыкі перад школаю таксама выконваюцца.

Але-ж удзел рабочых фабрыкі ў кіраўніцтве школаю недастатковы. Ёсьць недаацэнка гэтага моманту з боку арганізацыі фабрыкі.

Праграма вытворчага навучаньня на фабрыцы забясьпечвае палітэхнічнае вывучэньне прадпрыемства.

Досыць прадумана і талкова складзены праграмы вытворчага навучаньня ў майстэрнях і рабочым пакоі. Памянёныя вышэй праграмы, разам з плянам экскурсій, у асноўным, забясьпечваюць выкананьне праграмы па палітэхнічным навучаньні.

Але ўсё-ж адчуваецца ізаляванасьць паасобных кампанэнтаў, штучнасьць увязкі іх паміж сабою. Асабліва адчуваецца штучнасьць увязкі між паасобнымі дысцыплінамі і вытворчай працай дзяцей. Брыгада тлумачыць гэта адсутнасьцю палітэхнічнага і пэдалёга-пэдагагічнага аналізу, а таксама слабой палітэхнізаванасьцю саміх настаўнікаў. Гэта асноўны недахоп у справе палітэхнізацыі.

Другім слабым месцам у гэтым кірунку зьяўляецца адсутнасьць каляндарных плянаў, графікаў руху брыгад, неналаджанасьць вучоту працы і пасьпяховасьці вучняў па выкананьні праграмы вытворчага навучаньня. Як відаць, школа мала змагалася за гэта.

Сваю працу на вытворчасьці вучні ўвязваюць з грамадзка-палітычнай работай: ліквідацыя няпісьменнасьці, дапамога ў працы грамадзкіх арганізацый, удзел і дапамога насьценнаму друку, збор прапаноў, выяўленьне прагульшчыкаў, шэфства над машынамі.

Як вучні ўяўляюць сутнасьць палітэхнічнае школы?

З мэтай выяўленьня гэтага, брыгадаю была дадзена вучням 5, 6, 7 груп пісьмовая работа на тэму: „Наша работа на вытворчасьці і майстэрні." Аналіз гэтых работ паказвае на параўнаўча здавальняючае асваеньне вучнямі сутнасьці палітэхнічнае школы. Сутнасьць палітэхнічнае школы вучнямі добра ўсьвядомлена

з пункту гледжаньня злучэньня тэорыі з практыкай; на сувязь паасобных дысцыплін з вытворчай працай паказваюць 56 вучняў.

Цікава заўважыць, што вучні падкрэсьліваюць лепшае засваеньне фізыкі, матэматыкі, прыродазнаўства і грамадазнаўства ў сувязі з працай у майстэрнях і на вытворчасьці. Дадатна адзываюцца аб вытворчым навучаньні 63 вучні, адмоўна—9 (усяго падалі работы 72 вучні).

Разам з тым, амаль усе вучні (падаўшыя работы) задачу палітэхнізацыі зводзяць да працы ў майстэрнях і на вытворчасьці, палітэхнічную школу разумеюць як школу падрыхтоўкі кваліфікаванае рабочае сілы. Зусім слабае разуменьне немагчымасьці ажыцьцяўленьня палітэхнічнае школы ў буржуазных краінах, найчасьцей гэта зводзіцца да таго, што палітэхнічная школа шмат каштуе грошай, а буржуазія ня хоча многа грошай траціць на пралетарыят.

Падагульняючы, мы мусім адзначыць, што школа, у асноўным, стаіць на правільным шляху ў ажыцьцяўленьні палітэхнізацыі.

# КРЫТЫКА І БІБЛІАГРАФІЯ

Мік Цыганоў

## Першы вопыт працы ў друку

Пастанова ЦК УсеКП(б) аб школе падкрэсьліла, што навучаньне ў школе не дае дастатковага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, добра ўладаючых „асновамі навук", адсюль цэнтральная задача — ліквідацыя „карэннага недахопу".

Адна з прадпасылак выкананьня пастаўленай задачы,—узьняцьце якасьці працы, арганізацыя культурнага адпачынку вучняў. Саўнарком, Наркамасьветы, Наркамздраў, зьвярнуўшы на гэта асаблівую ўвагу, выдалі адпаведныя пастановы, якія за кароткі тэрмін зрабіліся вядомы ня толькі настаўнікам, але і ўсей пралетарскай грамадзкасьці. У выніку іх рэалізацыі зусім нядаўна зьявілася невялікая брашура, якая дзеліцца вопытам працы па ўвядзеньні культадпачынку ў жыцьцё школы (С. Лобанов—„Организуем день отдыха пионера и школьника". 1932 г. Учпедгиз. Наркомпрос РСФСР, стр. 40, ц. 12 коп.)

Задача, якую перад сабой паставіў аўтар брашуры, сфармулявана ім так: „показать на практическом материале, как нужно организовать один из основных участков культурно-массовой работы с детьми—день отдыха пионера и школьника. Если настоящая брошюра поможет в практической работе педагогу... я буду считать свою задачу выполненой" (стр. 6), і трэба сказаць, што мэта, у асноўным, дасягнута.

У аснове працы т. Лабанава ляжыць вопыт арганізацыі дню адпачынку вучняў 22 школ ФЗС, Выбаргскага раёну Ленінграду, прычым ахоплена было 24000 вучняў. База практычнай працы робіць брашуру грунтоўнай і вывады аснавацельнымі, апошняе ўзмацняецца яшчэ і тым, што „действительный автор настоящей брошюры—это вся масса работников нашего района",—піша ён, чым хоча падкрэсьліць, што толькі ў зьвязку з удзелам грамадзкасьці ў справе арганізацыі культурнага адпачынку вучняў, у зьвязку з непасрэднай працай настаўнікаў, культасьветных працаўнікоў, піянэрпрацаўнікоў магла зьявіцца, як вопыт працы, рэцэнзуемая брашура.

Брашура падзелена на наступныя чатыры часткі:

1. Рашэньне ЦК УсеКП(б) аб школе і арганізацыя дасуга школьнікаў (старонкі 7-10).
2. Практыка арганізацыі дню адпачынку (стар. 10-18).
3. База арганізацыі вольнага дню дзяцей (стар. 18-34).
4. Пытаньні кіраўніцтва і роля культурна-масавых устаноў для дзяцей (старонкі 34-39).

У першым разьдзеле аўтар даводзіць, што арганізацыя культурнага адпачынку забясьпечвае найбольш высокія паказчыкі ў барацьбе за якасьць вучобы, за якасьць усёй школьнай працы; зьяўляецца лепшым сродкам у барацьбе за сьвядомую дысцыпліну, узьнімае актыўнасьць вучняў у барацьбе за ведь і грамадз. працу, да памагае перабудове сямейнага быту.

У другім разьдзеле брашуры паказаны ў лічбах колькасны ахоп вучняў арганізаваным адпачынкам (на вялікі жаль за 1929—1931 год) і асыгнаваньні школам з боку пралетарскай грамадзкасьці і фабрычна-завадзкіх арганізацый. Іх удзелу, у арганізацыі культадпачынкаў

аўтар надае выключную ролю, падкрэсьліваючы, што неабходна „решительно бороться за привлечение внимания и помощи со стороны общественности, организовав ее в культармейские бригады и группы“ (ст. 17).

У гэтым-жа разьдзеле тав. Лабанаў досыць ясна расказвае аб арганізацыйнай структуры культадпачынку ў раённым і школьным маштабе, аб падрыхтоўцы кадраў для масавай працы, своячасова ўключанай у раённы культплян.

Створаная структура культмасавай працы, у Выбаргскім раёне, заслугоўвае ўвагі і як вопыт, ім можна карыстацца з(бязумоўна ў залежнасьці ад ўмоў).

Трэці разьдзел прысьвячаны зьместу па-за школьнай працы ў дні адпачынку вучняў. Кіно, пастаноўкі розных ленінградзкіх тэатраў, вылазкі лыжныя, спорт, купаньне і г. д.—асноўныя віды работы.

Т. Лабанаў шмат увагі ўдзяліў кіносэансам: асьвяціў правядзеньне іх ня толькі як адпачынак, але паказаў у кароткіх рысах мэтодыку кіносэансаў.

Апошняя частка брашуры паказвае, як РАНА стаў сапраўдным кіраўнікам усёй культурна масавай працы, арганізатарам ўсіх мерапрыемстваў, арганізатарам грамадзкасьці на справу культурнай рэвалюцыі, вынікам чаго і зьяўляюцца апісаныя ў кніжцы дасягненьні. Група культмасавых працаўнікоў школьнага сэктару НКА РСФСР наступным чынам характарызуе працу Выбаргскага раёну: „Пример Ленинграда... говорит о том, каких результатов можно добиться в осуществлении этой работы, когда вся работа строится на основе единого плана, методами развертывания массового движения — культпохода“ (стар. 4).

Выбаргскі РАНА здолеў працу дзіцячага дому культуры, базу адпачынку, дзіцячыя каткі, спартыўныя пляцоўкі, лыжныя і водныя станцыі, бібліатэкі-чытальні, дзіцячую мастацкую студыю скарыстаць у час правядзеньня культадпачынку дзяцей, адгэтуль: „сейчас нет ни одной школы,... где бы охват школьников (начиная с 3 группы) работой кружков, мастерских рабочих комнат в часы досуга был ниже 50 проц (с. 11).„

У брашуры „Организуем день отдыха“, апроч дасягненьняў, паказаны недахопы, якія былі ў рабоце па арганізацыі культмасавага адпачынку. Для паказу іх прыводжу наступны тэкст: „Мы еще не имеем 100-проц. охвата ребят в их свободный от школы день, часто отсутствует диференцированное обслуживание школьника отдельными культмассовыми мероприятиями, учет интересов и запросов отдельных ребят. В ряде случаев невысоко качество художестенной работы, отсутствует изобретательность, красочность. В организации досуга отдельные работники забывают, что в день отдыха нужно в основном организовать отдых, а не работать. Совершенно недостаточное внимание уделяется физкультуре... Нам нужно серьезно заняться вопросами подготовки кадров культурно-массовых работников, которые-бы правильно организовали отдых ребенка. Далеко не везде разрешаются вопросы привлечения общественности, создания крепких отрядов культармии, подведения мощной материальной базы, улучшения руководства и методической помощи культурно-массовому работнику“ (стар. 38-39).

Гэта доўгая цытата выкрывае цалкам недахопы арганізацыі культадпачынку піянэра і школьніка.

З кніжкай т. Лабанава павінны азнаёміцца ня толькі настаўнікі, на якіх у першую чаргу ляжыць адказнасьць за рэалізацыю пастановы ЦК Усе КП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, але і шырокія колы пралетарскай грамадзкасьці.

## Яворскі і Палякова

Брашура Кузьміна **„Комсомолец и политехнизация“ (пад рэдакцыяй П. Б. Пірацінскага)**, па замыслу зьяўляецца вельмі патрэбнай. Яна паставіла сваей задачай азнаёміць камсамольцаў з асноўнымі ўстаноўкамі па палітэхнізьме і даць практычныя ўказаньні, як камсамольцу ўключыцца ў барацьбу за палітэхнізацыю школы.

На першых старонках брашуры, аўтар разгортвае малюнак клясавай барацьбы за кадры (як клясавы вораг вядзе барацьбу за падрастаючае пакаленьне). Далей дае сутнасьць палітэхнізму і выкрывае скажэньні ў пытаньнях палітэхнізацыі школы; а пачынаючы з 14 ай старонкі, на 16-ці старонках даецца матар'ял, як весьці барацьбу за палітэхнічную школу камсамолу.

У канцы брашуры дадзены сьпіс літаратуры па палітэхнізьме. На першы погляд, кніга адпавядае, менавіта, тым попытам, якія да яе могуць быць прад'яўлены камсамольцамі.—Знаёміць, дапамагае ўключыцца камсамольцу у барацьбу за школу. Нявялікая памерам (31 ст.), а таму даступная для хуткага азнаямленьня кожнаму камсамольцу. Але брашура не справілася з пастаўленымі задачамі і па шэрагу пытаньняў ідзе ў разрэз з пастановай ЦК Усе КП(б) „аб пачатковай і сярэдняй школе“.

Па-першае, не дааацэньваецца важнасьць вывучэньня „асноў навук“, як вядучага зьвяна палітэхнічнай адукацыі. У аўтара атрымліваецца, што асновы навук засвойваюцца самі сабой у працэсе вывучэньня вытворчасьці. „Преподаватель математики строит всю учебную работу, учитывая цифровой материал выполнения пятилетки данного предприятия, снижения себестоимости на основе всяких технических расчетов... То же самое делает преподаватель химии, естествознания, то же самое делает преподаватель родного яз., изучает стенную газету, многотиражку завода или района, разбирает ее отдельные статьи, подбирает для своих занятий статьи, рисующие „энтузиазм рабочего класса“ (16—17 стар.)“.

Такім парадкам, усе тэарытычныя дысцыпліны павінны выходзіць з умоў працы па кожнай асобнай школе; адсюль, базай, можна заявіць, і праграма не абавязкова, бо па аўтару зьмест дысцыпліны, уся вучэбная работа, будуецца прыстасоўваючыся да ўмоў школы і прадпрыемства; дакладна абмяжаваных зьвестак па дысцыплінах, такім чынам, атрымліваць ня трэба. Ёсьць небясьпека таго, што пры такой устаноўцы мы лёгічна прыдзем да вываду абсалютнага адмаўленьня ўсялякай праграмы, што зьяўляецца шкоднейшым скажэньнем палітэхнічнае школы.

„Кожная спроба адарваць палітэхнізацыю школы ад сыстэматычнага і моцнага засваеньня навук, асабліва фізыкі, хэміі і матэматыкі, выкладаньне якіх павінна быць пастаўлена на аснове праграм і вучэбных плянаў, павінна праводзіцца на аснове строга вызначаных і дакладна распрацаваных праграм і вучэбных плянаў і праводзіцца па строга ўстаноўленых раскладах, прадстаўляе сабой грубейшае скажэньне ідэі палітэхнічнай школы“. Пастанова ЦК УсеКП(б).

Аўтар задаўся мэтай „біць па скажэньнях“ у палітэхнізьме, але па сутнасьці ён гэтага не зрабіў. Наадварот, уся брашура скажае асноўнае паняцьце палітэхнізму. Яна не дае дастатковай крытыкі правых установак у галіне палітэхнізму і канкрэтных форм і мэтадаў іх праяўленьня ў школьнай працы; і, замест таго, каб даць разгорнутую крытыку славеснага палітэхнізму, які цягне школу назад, да школы буржуазнага тыпу, брашура абмяжоўваецца ўказаньнем на шкоднасьць абмяжаваньня палітэхнізму толькі аднымі працоўнымі навыкамі.

Як відаць аўтар ня ўлічыў таго становішча, што галоўнай небясьпекай у скажэньнях палітэхнізму зьяўляецца

правая небясьпека. Але гэтага мала. Брашура ў разьдзеле „Бить по извращениям в политехнизме“ выступае супроць ператварэньня школы ў цэх заводу. „Не менее серьёзными извращениями в области борьбы за политехнизм, являются стремления преоброзовать школу в цех завода. Причем, на практике этот лозунг приводит до смазывания роли школы как органа диктатуры пролетариата, имеющего громадные самостоятельные задачи по воспитанию подрастающего поколения“.

Ня гледзячы на такія аўтарытэтныя і важкія заявы, ня гледзячы на жаданьне прызнаць вышэйазначаную ўстаноўку, брашура адчынена заклікае да ператварэньня школы ў цэх заводу.

Кажучы аб сутнасьці палітэхнізму, падкрэсьліваецца, што ён заключаецца ва ўцягненьні школы ў вытворчую дзейнасьць прадпрыемства.

У разьдзеле „За организацию политехнических мастерских“ зусім няправільна разумеецца арганізацыя, зьмест і мэтавая ўстаноўка перадачы 6 майстэрняў. Аўтар жадае ўключыць майстэрні школы ў прамфінплян, а адсюль недалёка да „школа цэх заводу“. „Нужно также включить мастеркие в промфинплан предприятия, чтобы они выполняли определенные задания“ (стр. 23).

Апрача таго, раіцца працу школьных лябараторый прыстасаваць да працы фабрычна-заводзкіх лябараторый і выконваць іх заказы.

„Школьные кабинеты и лаборатории также должны взять точную производственную установку. Проведение анализа, выполнение тех или других заданий предприятия. Выполнение в известной мере функций политехнической лаборатории завода должно сменить узко-демонстративный характер работы кабинетов и лабораторий“ (стр. 25).

Такім парадкам довады не патрэбны. Аўтар, на словах адмаўляючы лёзунг „школа цэх заводу“, на справе сам яго абараняе.

Брашура дае няправільнае разуменьне галоўных галін вытворчасьці. Гаворачы аб галінах вытворчасьці, аўтар ня мае на ўвазе ўласна галіны вытворчасьці, а праўдзівей віды грамадзкае вытворчасьці.

Вытворчая праца дзяцей павінна быць цесна ўвязана з вывучэньнем асноўных відаў грамадзкае вытворчасьці, а менавіта:

1. Энэргэтыкі (электрычнасьць, нафта, вугаль, торф).
2. Мэталюргіі (чыгун, сталь).
3. Машынабудаўніцтва.
4. Хэмічнай вытворчасьці.
5. Рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.
6. Транспарту (рэканструкцыя чыгуначнага і воднага транспарту).
7. Сувязі (пошта, тэлеграф, радыё і інш.).

Такім парадкам тут трэба разумець пад галінай вытворчасьці від апрацоўкі таго альбо іншага матар'ялу; пры гэтым сельская гаспадарка, транспарт па сутнасьці, мабыць, не вывучаюцца, па думцы аўтара, бо яны бяруцца ня цалкам, вывучаюцца відаць не на навуковай аснове, а толькі па асобных яе баках. Вось чаму гэты пункт фармулюецца як вывучэньне рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і транспарту.

З усяго вышэйсказанага можна канстатаваць, што брашура мае шэраг няправільных, шкодных установак, і да таго-ж зробленых пасьля пастановы ЦК. Тым самым яна няправільна арыентуе камсамольца ў пытаньнях палітэхнізму.

*Рэдкалегія*—Брыгневіч Г. М., Вольфсон С. Я., Гайдук С. Е., Зарэмбоўскі К. П., Некрашэвіч А. Я., Панкевіч П. Е., Хомо У. І., Царт Л. А.

*Нам. адказнага рэдактара* У. І. Хомо

